ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

11 красавіка 1997 г. № 15/3891 Кошт 3 000 руб.





# На краі свету...

Сапраўдным краем свету называюць часам Поўнач Беларусі — з-за лясоў, азёр і балот, з-за аддаленасці ад сталіцы. Калі ж пабудзеш тут у безаблічных, напалову жывых, вёсках і вёсачках — гэтае перакананне яшчэ больш узмацняецца.

Вёска Лісна вылучаецца сваім блізкім знаходжаннем каля вады, за што яе іншы раз параўноўвалі з самой Венецыяй. Рака і возера — масткі, пірсы, лодкі... На жаль, гэта ніяк не паспрыяла лепшым перспектывам вёскі. Яна, як і бліжэйшыя яе сёстры, памірае. Бабулі ды дзяды, што засталіся тут, жывуць рыбалкай ды чаканнем унукаў на лета...

Хочаш пабачыць край свету — прыязджай у Лісна. Там, за возерам, ужо іншыя краіны.

**Анатоль КЛЯШЧУК**
*Фота аўтара*

*Верхнядзвінскі раён*



## КОЛА ДЗЁН

***Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі падпісаны. Збылася запаветная мара беларускага народа, за ажыццяўленне якой галасаваў ён на рэферэндумах. Цяпер будзем чакаць змен да лепшага. Якіх змен? Да чаго лепшага? Усё, што мог даць падобны Саюз, людзі простыя ўжо маюць і без яго — мяжа ў бок Расіі адкрытая, едзь хоць да дачкі ва Уладзівасток, хоць да сына на Калыму... Значыць, Саюз гэты патрэбны быў найперш палітыкам ды... Расіі. Ці не таму ў самой Расіі не знайшлося практычна ніводнага чалавека, які адкрыта і катэгарычна выступіў бы супраць гэтага Саюза. Прамаўчалі альбо адобрылі яго нават звышдэмакраты. Калі хто і кажа нешта супраць, дык з абавязковай агаворкай, што ён, у прынцыпе, не супраць аб'яднання, г. зн. далучэння да Расіі "акна ў Еўропу"... Пэўна, каб не выглядаць здраднікам у вачах "сваіх". І гэта пацвярджае той факт, што за плячыма расійскіх праціўнікаў аб'яднання (а такіх усё ж нямала) нікога і нічога няма: ні заходніх грошай, ні падтрымкі ЦРУ. Калі б яны былі — іх трэба было б "адпрацоўваць" і жадаць "паражэння сваёй дзяржаве", як рабілі гэта бальшавікі ў 1914 годзе.***

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

7 красавіка, за некалькі дзён да абвешчанай публікацыі Статута Саюза Беларусі і Расіі, у Мінск прыбыў міністр замежных спраў Расіі Яўген Прымакоў. Зразумела, што візіт ягоны быў выкліканы ў першую чаргу неабходнасцю ўдакладніць некаторыя палажэнні праекта Статута. Паводле паведамленняў прэсы, Я. Прымакоў настойваў аб адмене аднаго з пунктаў статута, дзе гаварылася пра абавязковы характар рашэнняў вышэйшага савета Саюза для дзяржаў-удзельніц. І дамогся свайго, маркуючы па надрукаваным праекце. Узамен беларускаму боку паабяцана дапамога ў прарыве міжнароднай ізаляцыі і не ўмешванне ва "ўнутрыбеларускія" разборкі з апазіцыяй.

### БЕСТСЕЛЕР ТЫДНЯ

Буйнейшыя беларускія газеты надрукавалі 9 красавіка праект Статута Саюза Беларусі і Расіі, парафіраваны 2 красавіка ў Маскве прэзідэнтамі Беларусі і Расіі. Цяпер усенародным абмеркаваннем ён будзе дапрацоўвацца. З раніцы 9 красавіка ў Мінску газеты, у якіх быў надрукаваны Статут, купіць было цяжка. Невядома, як правінцыі, але Мінску было цікава: што ж за Саюз плануюць утварыць прэзідэнты дзвюх краін? У Статуце абвяшчаецца ўсё тое, пра што шмат гаварылася раней — агульнае грамадзянства, свабодны ўваход-выхад дзяржаў, стварэнне агульнай эканамічнай прасторы, забеспячэнне правоў і свабод чалавека... Старшынёй Вышэйшага Савета Саюза на два гады будуць абірацца па чарзе прэзідэнты дзяржаў-удзельніц, старшыня ад імя Саюза будзе весці міжнародныя перагаворы, прадстаўляць Саюз у міжнародных арганізацыях... Суверэнітэт Беларусі пакуль захоўваецца, але "перспектыва развіцця Саюза накіравана на паслядоўны рух да добраахвотнага аб'яднання дзвюх дзяржаў...", а значыць, на скасаванне суверэнітэту адной з іх. Зразумела якой.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Нават у расійскай інтэлігенцыі, у расійскіх палітычных лідэраў засталося тое, што ва ўсім свеце на звычайнай чалавечай мове называецца імперскім сіндромам. Магчымасць атрымаць у якасці дaвеска да неахопнай Расіі яшчэ і маленькую Беларусь з'яўляецца тою спакусай, тою правакацыйнай ідэяй, якую пасняхова супрацьпастаўляе прэзідэнт Лукашэнка ўсім дэмакратычным пераканання Ельцына і ягонага акружэння... Масква хворая на шавінізм, хворая на імперскія амбіцыі. Яна не можа нармальна перажыць тое, што страціла Чачню — значыць, трэба набыць Беларусь. І гэта засціле вочы, затуманьвае розум нават дэмакратычным расійскім лідэрам".

*(З інтэрв'ю намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі карэспандэнту газеты "Імя", N 13).*

### ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

"Россия и Белоруссия. На душе тревожно, как перед Чечней".

*("Литературная газета", 2 красавіка г. г.).*

### АДГАЛОСКІ ТЫДНЯ

У Мінску ўвесь тыдзень працягваліся суды над удзельнікамі мітынгу і шэсця 2 красавіка. Па недакладных дадзеных арыштавана больш за 100 чалавек. Прысуды традыцыйныя: ад 3 да 15 сутак зняволення альбо грашовы штраф. Расійскія СМІ, асабліва НТВ, скарысталі падзеі ў Мінску 1—2 красавіка, каб паказаць, з якой краінай аб'ядноўваецца Расія. Кадры збіцця міліцыянерамі дэманстрантаў, у прыватнасці, японскага юнака, які прыйшоў "проста паглядзець" мітынг, бачыў увесь свет...

### УКАЗ ТЫДНЯ

"Барысаўская справа" атрымала на гэтым тыдні лагічнае завяршэнне: 5 красавіка прэзідэнт Беларусі падпісаў указ N 228 "Аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб, вінаватых у невыкананні службовых абавязкаў", згодна з якім практычна ўсё кіраўніцтва г. Барысава, што арганізавала 2 красавіка "ў будынку падатковай інспекцыі калектыўную п'янку", звольнена з пасад. Вымовы і папярэджанні атрымалі і многія мінскія кіраўнікі. Указам распачынаецца жорсткая барацьба з п'янствам на рабочых месцах: усе вінаватыя ў гэтым цяпер будуць не толькі вызваляцца ад пасад, але і не змогуць у далейшым займаць пасады ў дзяржаўным апараце.

### КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

У хуткім часе дзяржаўнае прадпрыемства "Мінскі Камароўскі рынак" пачне выдаваць сваю ўласную газету. Яна ўжо зарэгістравана ў Дзяржкамдруку. Назва газеты буйнейшага сталічнага рынку... "Славянскі набат"... Ужо з назвы відаць, што пісаць газета будзе не толькі і не столькі пра цэны на Камароўцы і праблемы рынку. У планах рэдакцыі публікацыя матэрыялаў "у падтрымку палітыкі прэзідэнта і таго курсу, які ён праводзіць", і ў перспектыве — выхад да чытачоў блізкага і далёкага замежжа. З беларускіх партый газету з такой назвай і такімі мэтамі магла выдаваць хіба што толькі ЛДПБ. Але ж рынак — гэта не партыя, гэта нешта зусім іншае...

---

ПАДЗЕІ

# Беларускаму Слову — жыць!

***12 красавіка — чарговы з'езд рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. А ўсяго тыднем раней канчаткова спынілася выданне газеты ТБМ — "Нашага слова". Такі вось, як сказалі б раней, атрымаўся з'езду падарунак. Прычына як быццам празаічная: дзеля эканоміі бюджэтных сродкаў адмоўлена ў дзяржаўным фінансаванні, а ў таварыства таксама грошай няма. Газета ўвогуле ў гэтым годзе магла ні разу не выйсці, але спачатку былі невялікія грошы, атрыманыя ад падпіскі, затым нешта выдзеліў Дзяржкамдрук, адгукаючыся на пісьмовыя просьбы шэрагу вядомых дзеячаў навукі і літаратуры, сярод якіх Янка Брыль, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Аляксандр Падлужны, але ўрэшце і гэта не дапамагло...***

А ў пакойчыку сядзібы ТБМ на Румянцава, 13 яшчэ ў чацвер, 10 красавіка, на стале стаяла скрыня з надпісам: "Ахвяраванні на падтрымку беларускай мовы". Побач — падпісныя лісты, дзе можна было ўбачыць аўтографы вучняў-старшакласнікаў і рабочых, інжынераў і прафесараў. Людзі, маладыя і ў гадах, прыходзілі і ахвяравалі хто колькі мог. Бальшыня — мінчане, але былі і з іншых мясцін Беларусі. Завітаў, напрыклад, настаўнік-пенсіянер з Бабруйска Валянцін Якаўлевіч Жыдц і паклаў у скарбонку 100 тысяч рублёў... І гэткім чынам актывісты ТБМ збіралі сродкі дзеля аплаты выдаткаў на з'езд.

Неабходнасць жа неадкладнага правядзення з'езда рупліўцаў беларускай мовы вельмі пільная. Разам з масавым збядненнем насельніцтва, якому пакуль не бачна канца, што ўжо адно шмат каго даводзіць да стану дэпрэсіі і абыякавасці да культуры і духоўных каштоўнасцяў, беларусы ў дадатак адчуваюць усё больш нацыянальны, у тым ліку моўны ўціск, а гэта значыць пагрозу свайго знікнення як адметнага народа. Мова, як агульнавядома, аб'ядноўвае нацыю, надае ёй сілы ствараць не толькі духоўныя каштоўнасці, але і матэрыяльныя, развіваць эканоміку і, значыць, багацець. А ў нас склалася сітуацыя, калі беларуская мова ўвогуле інтэнсіўна выцяскаецца з афіцыйнага ўжытку ў дзяржаве, рэзка скарачаецца колькасць агульнаадукацыйных беларускамоўных школ і нават класаў. Значная частка апошніх цынічна і жорстка шляхам псіхалагічнага ўціску на бацькоў вучняў з боку адміністрацыі пераводзіцца на рускамоўны рэжым. Нарэшце, у Беларусі да гэтага часу няма ніводнага (!) універсітэта з беларускай мовай навучання. І гэта пры тым, што ў краіне амаль 80 адсоткаў насельніцтва — этнічныя беларусы.

Так што дэлегатам з'езда ТБМ даводзіцца абмяркоўваць складанейшыя пытанні ў вельмі няпростых умовах сённяшняй рэчаіснасці, выпрацоўваючы стратэгію і тактыку далейшай дзейнасці грамадскай арганізацыі. Будзе прааналізаваны вопыт мясцовых суполак, абагулены прапановы, выказаныя на справаздачна-выбарчых сходах. У прыватнасці, дэлегаты абмяркуюць, ці не варта, згадаўшы дзейнасць польскай "Салідарнасці", распачаць стварэнне недзяржаўнага Нацыянальнага беларускамоўнага універсітэта на грамадскіх пачатках, дзе ўжо выказваюць згоду працаваць лепшыя прафесары нашай краіны. Ёсць таксама прапановы, што калі ўрад не падтрымае Зварот грамадскасці (а ўжо сабраны тысячы подпісаў) стварыць Дзяржаўны Нацыянальны беларускамоўны універсітэт (а лепшы варыянт — мець беларускамоўную вышэйшую навучальную ўстанову ў кожным абласным цэнтры), то прасіць суседнія краіны, у першую чаргу, магчыма, Украіну, вучоныя якой у свой час мелі падобную падтрымку ад Чэхаславакіі, дапамагчы стварыць Беларускі універсітэт за межамі краіны. Словам, з'езду ТБМ прадстаіць нялёгкая і адказная праца. Пажадаем яго дэлегатам, у ліку якіх нямала і пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, плёну, мудрасці і вытрымкі.

**Уладзіслаў АСІНАВЕЦ**

---

ВЕЧАРЫНЫ

# Свята дайшло да сталіцы

9 красавіка ў Доме літаратара прайшла вечарына "Вечны вандроўнік", прысвечаная мастаку і літаратару Язэпу Драздовічу. Гэта — працяг пленэру, пра які наша газета паведамляла раней. У фае былі выстаўлены творы, зробленыя ўдзельнікамі пленэру на радзіме "дзядзькі Язэпа". Вёў вечарыну мастак Алесь Марачкін.

Акцёр Павел Дубашынскі зачытваў урыўкі з дзённікаў Язэпа Драздовіча: развагі мастака пра ўласны лёс і ягонай краіны гучаць надзвычай надзённа. Удзельнік пленэру мастак Пётра Багданаў распавядаў пра сваё ўласнае ўспрыманне свету Драздовіча — ягоных родных мясцін і ягонай "касмазорыі". Гучала цудоўная музыка (выканаўцы Элеанора Тумас і яе вучаніца Іна Пазіменка), народныя песні ў выкананні Ніны Кавалёвай, песні барда Алега Атаманава.

Бралі слова літаратары Сяргей Панізнік (ягоны верш, прысвечаны "вечнаму вандроўніку", гучаў па-беларуску і ў перакладзе на ангельскую мову), Казімір Камейша, Арсень Ліс, Уладзімір Арлоў. Вячаслаў Галуза зачытаў вершы Язэпа Драздовіча. Адзін з тых вершаў Алег Атаманаў тут жа паклаў на музыку.



Драздовічаў фэст вандруе па Беларусі. Ён распачаўся ў родных мясцінах мастака, творы пленэру экспанаваліся ў Полацку. Свята дайшло да сталіцы.

**Наш кар.**

*На здымку: у час вечарыны.*

*Фота БЕЛТА*

---

# Да сустрэчы праз год?

Па заканчэнні выставы-конкурсу "Мастак і кніга-97" прайшло яе абмеркаванне. Жадаючых выказаць свае думкі праз сённяшні стан беларускай кнігі і больш канкрэтна — кніжнай ілюстрацыі сабралася няшмат, але гаворка, тым не менш, адбылася. Мастацтвазнаўца П. Васілеўскі выказаў занепакоенасць тым, што беларускі кніжны рынак запоўнены прадукцыяй замежных выдавецтваў (часцей за ўсё расійскіх), якая пры высокай паліграфічнай якасці ўсё ж такі ўяўляе сабою сурагат, падробку пад сапраўдную літаратуру. Ёсць творы, прадстаўляць якія ў перакaзе проста злачынна. Пагартаўшы ў дзяцінстве комікс на тэму "Іліяды" альбо "Энеіды", потым, у сталым узросце, чалавек наўрад ці звернецца да класічнага тэксту. А гэта вялікая страта. Не трэба спрошчваць, хай лепей чалавек сустрэнецца з сапраўдным, калі будзе да гэтага падрыхтаваным. Сп. С. Марозава, якая прадстаўляла выдавецтва "КАВАЛЕР Паблішэрс", адзначыла, што названае выдавецтва якраз і рупіцца аб захаванні высокіх стандартаў дзіцячай кнігі. Таму вельмі сур'ёзна ставіцца да тэксту і ілюстрацый.

Сп. А. Кашкурэвіч распавядаў пра свой вопыт супрацоўніцтва з выдавецтвамі ў апошнія гады. Ён мяркуе, што сёння выдаўцам часам не хапае прафесійнай этыкі, павагі да працы мастака. Дамінуе стаўленне да кнігі як да тавара, а не як да твора. Падобныя думкі падзяляе і мастак М. Рыжы.

У.Ягодзік параіў прысутным прымаць сітуацыю такой, якая яна ёсць. Твор павінен адпавядаць патрэбам рынку. І калі табе вельмі карціць зрабіць так, як хочаш, дык трэба прыкласці пэўныя намаганні, каб знайсці выдавецтва, дзе цябе зразумеюць і ацэняць тваю ідэю. Але спадзяванні на з'яўленне беларускай кнігі ў замежжы сёння сп. Ягодзік лічыць марнымі: нікому мы там са сваімі кнігамі непатрэбныя. Ні нашы пісьменнікі, ні нашы мастакі. Трэба дбаць пра сваё найперш на сваёй зямлі і адзін аднаго падтрымліваць. З ім рашуча не згадзіўся П. Васілеўскі, які зазначыў, што купляе чэшскую альбо нямецкую кнігу выключна з-за цудоўных ілюстрацый. Чаму ж тады чэшскі ці нямецкі аматар кнігі будзе абыякавым да кнігі беларускай, калі яна цудоўна зроблена? Гэтую ж думку падтрымаў і мастак У. Лукашык. На Браціслаўскае біенале кніжнай ілюстрацыі збіраюцца мастакі з усяго свету. Гэта, калі хочаш, кірмаш талентаў і ідэй. І калі ідэя вартая, няважна, якой яна нацыянальнасці; калі мастак таленавіты (і гэта відавочна!), дык няважна, з якой краіны ён прыехаў — будзе пакупнік, будзе работадаўца.

Падводзячы рысу пад дыскусіяй, удзельнікі згадзіліся, што выстава-конкурс "Мастак і кніга" павінна быць штогадовай і стаць месцам, дзе маглі б сустрэцца выдаўцы і мастакі (а мо і літаратары?). Каб у межах Беларусі гэта выстава стала тым, чым ёсць у свеце Браціслаўскае біенале. Хай бы так і сталася.

**НАШ КАР.**

## 11 красавіка — Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў

# Праз мур насілля



*У вязняў выйсце толькі*
*ў небыццё:*
*ўся памяць Беларусі —*
*ў сілуэтах.*
*Праз мур насілля рваўся*
*дух паэта,*
*настаўніка, ратая, мудраведа...*
*Расколваліся сэрцы ў чадзе гета,*
*пакуль вяло нявольніцтва выццё.*

*У вязняў выйсце толькі*
*ў вольны свет.*
*Душа ў калючым дроце не вякуе.*
*І той, хто чалавецтва атакуе,*
*на трон сабе жыцця не накукуе.*
*Насільнік гіне. Долю парадкуе*
*Ратай, Настаўнік,*
*Мудравед, Паэт.*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымку: помнік вязням канцлагераў "Расколатае сэрца" ў Канстантынаве каля Лодзі.*

*Фота аўтара*

# Інтэграцыя: Супольніцтва, Саюз...

***2 красавіка ў Маскве былі падпісаны дакументы аб Саюзе Беларусі і Расіі. 9 красавіка для ўсенароднага абмеркавання быў прапанаваны Сатут Саюза. "ЛіМ", друкуючы сёння першыя водгукі на гэтыя дакументы, запрашае сваіх чытачоў прыняць удзел у іх абмеркаванні і адказаць на наступныя пытанні:***

***1. Ваша стаўленне да інтэграцыі Беларусі і Расіі ўвогуле.***
***2. Ваша ацэнка падпісаных 2 красавіка ў Маскве дакументаў і прапанаванага да ўсенароднага абмеркавання Статута Саюза Беларусі і Расіі.***
***3. Вашы меркаванні наконт перспектыў расійска-беларускіх адносін і ў звязку з гэтым — будучыні незалежнай Беларусі.***

**Галіна ТЫЧКА, літаратурны крытык, выкладчык:**

— Калі ў нас гавораць пра інтэграцыю, дык розныя людзі маюць на ўвазе розныя рэчы. Тым болей, што ўлада мае звычку вольна трактаваць нават тое, што, здавалася б, акрэслена вельмі дакладна. Памятаеце, на "рэферэндуме" 1995 года было пытанне пра эканамічную інтэграцыю з Расіяй? Інакш кажучы, у людзей пыталіся, ці маюць яны нешта супраць таго, каб Расія пастаўляла ў Беларусь нафту, а Беларусь у Расію — трактары і грузавікі. Хто ж тут будзе супраць? А ўжо на наступны дзень пасля "рэферэндуму" сталі сцвярджаць, што Беларусь прагаласавала супраць незалежнасці, за ліквідацыю сваёй дзяржаўнасці, за ўваходжанне ў склад Расіі.

Таму мне хацелася б бачыць у беларуска-расійскіх дакументах максімальна канкрэтныя юрыдычныя фармулёўкі — каб ніякай двухсэнсоўнасці, ніякага падтэксту. Трэба абсалютна дакладна вызначыць, што такое "інтэграцыя" сёння і якая яе канчатковая мэта. "Інтэграцыя" — гэта каардынацыя эканамічных праграм і знешнепалітычнай дзейнасці? А, можа, "інтэграцыя" — гэта вайскова-палітычны саюз, які, дарэчы, супярэчыць занатаванаму ў Канстытуцыі нейтральнаму статусу нашай дзяржавы? А, можа, "інтэграцыя" — гэта калі нашай грашовай адзінкай стане расійскі рубель, а Беларускае войска ператворыцца ў беларускую вайсковую акругу Расійскіх узброеных сіл, і на тэрыторыю нашай краіны вернецца ядзерная зброя, ад якой мы не так даўно шчасліва пазбавіліся?

Пакуль улада, і беларуская, і расійская, гаворыць адно, піша другое, а мае на ўвазе трэцяе — я, безумоўна, супраць "інтэграцыі" як з'явы. Калі з'явіцца канкрэтыка, тады і будзе што абмяркоўваць. А пакуль можна толькі пратэставаць.

**Алена ГАРАГЛЯД, выкладчык замежнай мовы:**

— Дакументаў, падпісаных у Маскве, не чытала. Мне гэта проста нецікава. Да таго, што называюць "інтэграцыяй", стаўлюся спакойна. На гэтым этапе горш не будзе. Але, магчыма, у чымсьці будзе лепей — ва ўсякім разе весялей, паколькі галоўная імпрэза яшчэ наперадзе. Беларуска-расійскія адносіны маюць да ўсяго, што адбываецца, толькі ўскоснае дачыненне. Для Расіі гэта магчымасць зрушыцца з мёртвай кропкі, хоць напрамак і не вызначаны. Беларусь, мяркую тут увогуле ні пры чым.

**Міхась БАРАЗНА, мастацтвазнаўца:**

— Мяне не задавальняе ні сама інтэграцыя, ні тое, як яна робіцца. У дадзеным выпадку паставілі воз паперадзе каня (калі мецъ на ўвазе, што конь—народ, а воз—улада).

Не варта аб'ядноўвацца краінам, у якіх шмат унутраных праблем. Заходняя Еўропа, дзе і жыццёвы ўзровень вышэй, і эканоміка эфектыўная, і сацыяльныя праблемы, калі і ёсць, дык вырашаюцца цывілізавана, — і то колькі ўжо часу не можа ўвесці адзіную валюту. Прытым, што інтэгруецца Захад, лічы, ад заканчэння Другой сусветнай вайны.

Ёсць народная мудрасць: калі аб'ядноўваюцца два жабракі — чакай сваркі. Возьмем нашу нядаўнюю гісторыю. Калектывізацыя. Сельскай гаспадаркай пачалі кіраваць камбеды. Вынік? Суцэльны развал эканомікі, а на глебе агульнай галечы і бяспраўя ўсталяваўся таталітарызм. Не трэба зганяць жабракоў у калгас. Гэта — што датычыць палітычнага аспекта "інтэграцыі".

Эканоміка — іншая рэч. Эканамічныя законы не залежаць ад волі асобных людзей, якія б высокія пасады яны ні займалі. Эканамічныя працэсы ідуць самі сабою, дастаткова ім не перашкаджаць. У сучасных дзяржаў — не толькі ў СНД, увогуле ў свеце, даволі празрыстыя межы. Так што і прадпрыемствы, і банкі самі знойдуць сабе партнёраў па той бок мяжы. Занадта пільнае ўмяшанне ў гэта дзяржаўных органаў створыць толькі лішнія праблемы.

Чарговая "інтэграцыйная" дэкларацыя ні на крок не набліжае нас да цывілізаванага рынку і дэмакратычнага грамадства, не надае нашаму стану пэўнасці. Хутчэй — наадварот.

Як гэта ні банальна, трэба проста рабіць сваю справу. Хай бы лепей дбалі не пра "інтэграцыю", а пра канкрэтныя праблемы эканомікі і культуры. А калі паўстане беларуская фермерская гаспадарка, пачне працаваць рэфармаваная прамысловасць, мастак і пісьменнік атрымаюць магчымасць заняцца сваёй непасрэднай справай — тады можна будзе ў вольны час і пра "інтэграцыю" паразважаць. Але навошта тая "інтэграцыя", калі і так усё будзе? Навошта "інтэграцыя" заможнай краіне?

# Клод ЖАЛІФ:
# "Прыналежнасць да Еўропы нас зближае..."

***Спадар Клод Жаліф — прафесійны дыпламат, кавалер ордэна Ганаровага Легіёна, афіцэр нацыянальнага ордэна Пашаны. Пасля заканчэння Нацыянальнай школы адміністрацыі працаваў у Міністэрстве фінансаў і эканомікі, Міністэрстве замежных спраў Францыі.***

***З 1963 года спадар Клод Жаліф прадстаўляў інтарэсы Францыі ў Індыі, Ізраілі, Марока. На працягу чатырох гадоў з'яўляўся другім саветнікам Пасольства Францыі ў СССР.***

***З красавіка 1992 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў РБ. Менавіта ён стаяў ля вытокаў зараджэння французска-беларускіх адносін, шмат зрабіў і прадаўжае рабіць для ўсебаковага развіцця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі.***

***Са спадаром Клодам Жаліфам гутарыць наш няштатны карэспандэнт.***

**— Спадар пасол, вы прадстаўляеце Французскую Рэспубліку ў Беларусі з красавіка 1992 года. Якое ўражанне выклікае ў вас наша рэспубліка?**

— Пасля амаль пяцігадовага знаходжання, я думаю, што ўжо прайшоў стадыю ўражанняў. Я перажываю хутчэй пачуццё парадnёнасці, якое мае і свае недахопы, і свае перавагі: з аднаго боку, мне здаецца, што я някепска ведаю гэтую краіну і яе жыхароў, нават калі гэта ў нейкай ступені ілюзорна, з другога боку, я сябе адчуваю далучаным, магчыма, нават занадта, да тых негатыўных або станоўчых працэсаў, якія тут адбываюцца.

**— Як сёння ў Францыі ацэньваюць палітычную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь, і ці паўплываюць перыпетыі нашага палітычнага жыцця на развіццё беларуска-французскіх адносін?**

— Вельмі нямногія французы маюць уяўленне, нават прыблізнае, пра тутэйшую сітуацыю і пра Беларусь у цэлым. Прэса пра гэта піша толькі ў выпадку, калі адбываюцца такія яркія падзеі, як, напрыклад, апошні рэферэндум, і трэба прызнаць, што большасць аналізаў, апублікаваных у газетах, носяць, у асноўным, крытычны характар. Перад краінай выразна стаіць праблема іміджу, паколькі, хочам мы таго ці не, але манера бачання рэчаў, якая склалася ў французскай грамадскай думкі, ды і ў міжнароднай таксама, уплывае на развіццё двухбаковых адносін.

**— Наколькі ў Францыі рэалізавана ідэя пабудовы грамадзянскага грамадства? Што з французскага вопыту пабудовы дэмакратычнага грамадства вы лічыце магчымым ажыццявіць ва ўмовах станаўлення беларускай дзяржавы?**

— Ніводная краіна, уключаючы, у роўнай ступені, і маю, не знайшла бездакорнага і канчатковага вырашэння праблемы пабудовы грамадзянскага грамадства і ідэальных дэмакратычных структур. Нават калі б недзе гэта здарылася, жыццё заўсёды падносіла б новыя праблемы. За апошнія 15—20 гадоў у Францыі, як і ва ўсім астатнім свеце, адбыліся значныя змены ў эканамічным і сацыяльным плане. Французская самабытнасць, у параўнанні з іншымі заходнімі краінамі, мае дастаткова выяўленне, хоць не заўсёды лёгка яе можна вызначыць: яна заключаецца ў нацыянальным тэмпераменце — быць адначасова і кансерватарам, і ўмець адстойваць свае правы, у схільнасці да некаторых культурных каштоўнасцяў і таксама ў адвядзенні важнай ролі дзяржаве, ад якой французы часта чакаюць занадта многага. Магчыма, менавіта такі пастаянны пошук кампрамісу паміж індывідуальнымі свабодамі і дзеяннямі грамадскіх структур, які мы бачым на прыкладзе Францыі, можа больш за ўсё зацікавіць такую краіну, як Беларусь.

**— Спадар пасол, ці не маглі б вы назваць асноўныя прынцыпы функцыянавання французскай эканамічнай і палітычнай сістэм?**

— Складана ў некалькіх фразах выкласці такую важную тэму. Я абмяжуюся пералікам некалькіх фундаментальных прынцыпаў, на якіх пабудавана жыццё нашай краіны: клопат аб незалежнасці, асабліва, калі на карту пастаўлены нашы жыццёва важныя інтарэсы або нашы фундаментальныя прынцыпы; але ў той жа час адкрытасць свету і салідарнасць з іншымі дзяржавамі, у першую чаргу, з краінамі Еўрапейскага Саюза; нарэшце, наша асаблівае, трапяткое стаўленне да некаторых агульначалавечых каштоўнасцяў, як, напрыклад, правы чалавека. Але, я яшчэ раз паўтараю, гаворка ідзе пра глабальныя тэндэнцыі, якія трэба адаптаваць да праблем, што вымагаюць вырашэння, якое прымушае часта знаходзіць далёка не ідэальнае выйсце.

**— Як вы лічыце, зыходзячы з гістарычнага вопыту станаўлення Французскай Рэспублікі, ці магчыма ў бліжэйшай перспектыве стварыць сапраўды дэмакратычную беларускую дзяржаву?**

— Складана параўноўваць і трэба прызнаць, што ў цяперашні момант на Беларусі праблемы больш небяспечныя, чым у Францыі. У той жа час, і ў нашай гісторыі былі выпадкі нацыянальных катастроф, і не заўсёды мы ўмелі супраціўляцца спакусе ўжыць аператыўнае ўмяшальніцтва ці дагматычныя метады. Але наш вопыт, у якім назапашаны і перамогі, і паражэнні, сведчыць, што вырашэнне крызісу дасягаецца заўсёды шляхам дыялога і захавання дэмакратыі.

**— Як вядома, краевугольным каменем дэмакратыі з'яўляюцца свабодныя і дэмакратычныя выбары. На якіх прынцыпах яны грунтуюцца і праводзяцца ў краінах Еўрапейскай Супольнасці?**

— Свабодныя і дэмакратычныя выбары з'яўляюцца важным элементам дэмакратычнага жыцця, але яны не адзіны такі эле-

*(Працяг на стар. 4)*

# З жыцця Максіма

*Архіўныя матэрыялы. Да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сшытак 1. "Літаратурны музей Максіма Багдановіча". Менск, 1996.*

**Пару гадоў таму я звярнуўся да вядомага нашага беларускага пісьменніка з просьбаю перадаць чарнавік ягонай прадмовы да аднаго з багдановічаўскіх зборнікаў у музей Максіма Багдановіча. Мяне вельмі ўразіў ягоны адказ, што гэтага чарнавіка ў яго няма, бо ён яго не захаваў.**

**У гэтым плане Максіму Багдановічу пашанцавала, бо педантычным збіральнікам сямейнага архіва аказаўся ягоны бацька, ды і сем'і цётак нічога лішняга не выкідалі, як бы ведалі, што прыйдзе час і ўсе памяткі, звязаныя з Максімам, будуць тут на Беларусі сапраўдным нацыянальным скарбам.**

**Менавіта на базе гэтага архіва з падключэннем іншых крыніц навуковымі супрацоўнікамі музея Максіма Багдановіча распачата выданне перыядычных архіўных сшыткаў, якія ўтрымліваюць матэрыялы, што датычацца самога М. Багдановіча, ягоных сваякоў, сяброў, блізкіх знаёмых. Трэба заўважыць, што такое імяннае перыядычнае выданне з'яўляецца першым у краіне і яно, у перспектыве, дапаможа лепей зразумець той свет, у якім узрастаў і гадаваўся М. Багдановіч як асоба і як творца.**

**У першым архіўным сшытку змешчана адзінае надрукаванае апавяданне маці Максіма Марыі Багдановіч — "Напярэдадні Калядаў", а таксама найбольш поўная перапіска бацькоў Максіма — Адама і Марыі Багдановічаў з 1891 па 1896 гады. З яе, за штодзённымі клопатамі і буднімі справамі, мы даведваемся пра вялікую любоў, якая існавала паміж Адамам і Марыяй і якая саграваала іхніх дзяцей. Бо ўсе асноўныя клопаты Адама былі пра сям'ю, а Марыі — пра сваіх дзяцей.**

**Збіраючыся на адпачынак да сваёй сястры Стэфы ў вёску Вяззе, што пад Асіповічамі, Марыя Багдановіч, ці Марылька, як ласкава называў яе муж, піша яму ў Гродна яшчэ з Мінска: "Максим, как всегда, немножко вялый", і што "теперь вот опять сидит здесь со мной, уставился в одно место и не шелохнется".**

**Ужо з Вяззя яна піша, што "поместили они нас в лучшей обстановке... Все это Стэфа такая добрая. Клопа ни одного, а блох таки есть", і што дзеткі "едят хорошо... Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски и иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались", і яшчэ пра тое, што "сейчас Максим задавил в кухне гусака, будет теперь от Франца".**

**Адам заўважае ў адным з лістоў, што "вчера мне что-то взгрустнулось: видно, сказывается твое отсутствие и детей". А Марылька ў сваю чаргу адказвае яму: "я знаю, ты не поверишь, но когда я думала, что ты болен, и вдруг получила твои два письма, то мне даже дурно сделалось, ноги подкосились и я скорей села на скамью".**

**Завяршае сшытак комплекс дакументаў, якія датычацца сям'і Багдановічаў, а таксама некаторыя сямейныя фотаздымкі.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## Знаёмства працягваецца



**З 5 красавіка па 5 траўня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі (Леніна, 20) праходзіць трэцяя выстава з цыкла "Рускае мастацтва XVIII—XX стст." з фондаў музея. Дзве папярэднія выставы, прысвечаныя рускаму і заходнееўрапейскаму мастацтву XVIII ст. і жаночаму партрэту першай паловы XIX ст., былі з цікаўнасцю сустрэты аматарамі мастацтва. Музей працягвае знаёміць гледачоў з малавядомымі імёнамі рускіх мастакоў, творы якіх захоўваюцца ў фондах. Наведвальнікі музея ўбачаць каля 30 твораў жывапісу, графікі і прыкладнога мастацтва, сярод якіх — батальнае палатно І. Айвазоўскага, жанравыя карціны Г. Міхайлава, І. Лучанінава, партрэты ўдзельнікаў вайны 1812 г. і паўстання дэкабрыстаў (творы А. Кіпрэнскага, Ф. Тулава, Д. Лявіцкага і інш.), партрэты рускіх імператараў, прадметы з "ордэнскіх" сервізаў.**

**Н. У.**

*На здымку: "Партрэт незнаёмца" Д. Лявіцкага, 1790 г.*

## Так бачыць... Амерыка

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі працуе выстаўка амерыканскай фотамастачкі Марты Казанаў. Экспазіцыя, арганізаваная інфармацыйнай службай пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і часопісам "Imago", складаецца з двух раздзелаў — "Чалавечае цела" і "Партрэт". М. Казанаў жыве на паўвостраве Мантарэй, але дзякуючы свайму майстэрству добра вядома ў краіне. Тым самым яе аб'ектывам глядзіць і сама Амерыка, бо М. Казанаў імкнецца занатаваць тое, што характэрна для народа ЗША, і перадаць яго па-свойму адметна і непаўторна.**

## Замест шапіка — крама!

**Няма ўжо шапіка ТБМ, што стаяў калісь насупраць ГУМа і да якога мы ўсе прызвычаіліся. Але з'явілася яго пераемніца — крама еўрапейскага ўзроўню "Тэхна".**

**У шырокім асартыменце тут прапануюцца:**

**— навуковая, культуралагічная, метадычная, мастацкая і дзіцячая літаратура на беларускай мове;**

**— слоўнікі, даведнікі, падручнікі на вядучых мовах свету;**

**— сувеніры, мастацкія вырабы;**

**— фарбы, *пэндзлі і іншыя прылады для* мастакоў;**

**— канцылярскія прылады.**

**Асартымент тавараў увесь час пашыраецца з улікам пажадання наведнікаў.**

*Наш адрас:*

**г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81 (цэнтральны ўваход у Акадэмію мастацтваў).**

**Тэлефон: (0172) 32-84-32.**

**Ласкава запрашаем!**

ПОШТА

# Праменьчык надзеі?

Пасля таго, як у Беларусі адбыўся рэферэндум *пра наданне рускай мове статуса* дзяржаўнай, пачаўся наступ антыбеларускіх сіл на ўсё нацыянальнае, у тым ліку на гісторыю Беларусі, беларускую мову, радыё, тэлебачанне, друк. Мэта ставіцца адна: у "аб'яднаную" расійска-беларускую дзяржаву беларусы павінны ўвайсці "рускімі"-праваслаўнымі, без пачуцця ўласнае годнасці, без гістарычных ведаў пра свае карані, з нянавісцю альбо абыякавасцю да сваёй роднай мовы, — карацей кажучы, людзьмі другога гатунку. Пачаліся масава закрывацца з такой цяжкасцю адкрытыя беларускамоўныя класы ў гарадах, радыё і тэлебачанне аказалася ў руках славянасабораўцаў, раёнкі, абласныя газеты пачалі друкавацца на дзвюх дзяржаўных мовах: загаловак выдання — па-беларуску, а ўсё астатняе — па-руску...

Наступствы такой антыбеларускай палітыкі адчулі і мы, беларусы замежжа. Калі ў першыя гады незалежнай Беларусі (1991—1994) нам стараліся дапамагчы ў нашай вучэбна-культурнай рабоце і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", і Міністэрства асветы Беларусі, і Навукова-педагагічная бібліятэка Міністэрства асветы РБ, то, пачынаючы з восені 1995 года, абарвалася ўсялякая сувязь як з Міністэрствам асветы, так і з яго бібліятэкай, якія дапамагалі нам вучэбнай і метадычнай літаратурай, падручнікамі, беларускамоўнай прэсай. Што да ЗБС "Бацькаўшчына", то яго магчымасці ў гэтым і раней, у больш спрыяльныя часы, былі абмежаваныя бракам коштаў, але ўсё ж і адтуль *даходзілі часам газеты й часопісы, а па* прыездзе ў Мінск можна было прыйсці ў сядзібу "Бацькаўшчыны" адабраць што-кольвек з новых выданняў мастацкай літаратуры...

Я ўжо было змірыўся з такім становішчам, *калі намі працягвала апекавацца толькі рэ*дакцыя газеты "Голас Радзімы" (з яе старонак мае выхаванцы даведаліся пра падзеі ў Беларусі, пра яе слаўную гісторыю, яе, выдатных дачок і сыноў мінулага, матэрыялы пра якіх пастаянна друкуе тыднёвік). І раптам атрымліваю ліст з Мінска, з Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за подпісам дырэктара РЦНК спадара Віктара Мацюшэнкі. З ліста я даведаўся, што ў "Рэспубліцы Беларусь з 1994 года дзейнічае Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, дзейнасць якога скіравана на адраджэнне нацыянальных культур Беларусі. З 1996 года РЦНК супрацоўнічае з таварыствамі беларускай культуры замежжа..." Адказаў я на пытанні, якія мне, кіраўніку гурта беларускай культуры "Зорка Венера", былі зададзены ў лісце, і адправіў ліст у Мінск.

А недзе праз месяц атрымаў з РЦНК бандэроль з нотна-метадычнай літаратурай, якой, дарэчы, у нас не было. Гэта "Беларускія народныя полькі" Ларысы Алексютовіч, зборнік п'ес для дзяцей "Сінязорка", дапаможнік па ручным узорным ткацтве "Возрождение ремесла" (па-руску), аж два зборнікі песень на словы народнага паэта *Беларусі Ніла Гілевіча: "Пад родным не*бам" (музыка Э. Зарыцкага) і "Жаўраначка" (музыка У. Алоўнікава, І. Лучанка, Э. Ханка, У. Будніка, А. Чыркуна, Э. Зарыцкага, Л. Захлеўнага, М. Сацуры), беларускія *народныя песні* ў апрацоўцы М. Сіраты "Весялушкі", танцавальная музыка Беларусі "Гармоніка чаруючыя гукі", хрэстаматыя па духоўнай харавой музыцы "Нова радасць стала", альбом музыкі Беларусі 16—17 стагоддзяў "Помнікі музычнай культуры Беларусі" (выпуск 2-гі), папулярна-гістарычныя аповеды А. Краўцэвіча "Тэўтонскі ордэн: ад Ерусаліма да Грунвальда".

Ад усяго сэрца дзякую намесніку дырэктара РЦНК спадарыні Любові Балаўнёвай за цудоўны падарунак, які яна даслала нашаму гурту беларускай культуры. З дапамогай дасланых дапаможнікаў мы зараз зможам ставіць танцы, развучваць песні, а са зборніка п'ес "Сінязорка" мы ўжо выбралі для пастаноўкі п'есу Людмілы Рублеўскай "Янук, рыцар Мятлушкі"...

Так што ў нас з'явіўся Н О В Ы  П Р А М Е Н Ь Ч Ы К  Н А Д З Е І, які заззяў з Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур, што месціцца ў Менску па вуліцы Янкі Купалы, 21.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, кіраўнік гурта беларускай культуры**
*г. Ізяслаў, Украіна.*




# Калі нагам няма супакою

Нехта з вялікіх сказаў: чым больш забарон, тым больш парушэнняў і злачынстваў. Лепшай ілюстрацыі да гэтай вернай высновы і не прыдумаеш, чым вядомы ўказ прэзідэнта адносна Камароўскага рынку сталіцы.

Гандлявалі, як гандлююць: прадаўцы прадавалі, а пакупнікі куплялі. Не ў прыклад дзяржаўнаму гандлю цэны тут былі больш памяркоўныя, сходныя. А пра якасць тавару і гаварыць не прыходзіцца — ён заўсёды лепшы і свяжэйшы, чым у магазінах.

І гандлёвая плошча на рынку не пуставала, працавала не толькі на пакупнікоў, але і на гаспадароў гэтага прадпрыемства. Прыбытак яго рос, павышалася адпаведна і зарплата абслугоўваючага персаналу.

Ды вось кагосьці абурыў той факт, што на рынку гандлявалі не толькі вытворцы тавараў, але і пасрэднікі, па нашай бюракратычнай тэрміналогіі — перакупшчыкі і спекулянты. Яны, маўляў, дыктуюць цэны, не дапускаюць канкурэнцыі, такім чынам, абкрадваюць нашага пакупніка. Таму трэба навесці парадак, г. зн. выгнаць з рынку пасрэднікаў, без якіх ніякі цывілізаваны гандаль не мысліцца.

І што ж атрымалася? Імгненна амаль напалову спусцелі гандлёвыя сталы, куды раней было не прабіцца, прыкметна зменшылася колькасць прадаўцоў і тавару. І тут нічога нечаканага. Самім вытворцам, а яны галоўным чынам з перыферыі, дабрацца да рынку без дапамогі так званых перакупшчыкаў не так і проста. Асабліва калі ўлічыць цяжкасці з транспартнымі сродкамі. Ды і ўменне гандляваць у такіх прадаўцоў часта бракуе.

Не паявілася і жаданая канкурэнцыя, не *знізіліся цэны, наадварот, яны цяпер* узвінціліся да магазінных.

Нічога не выйграла ад праведзенай "рэформы" і адміністрацыя рынку. Паменела прадаўцоў, натуральна — знізіўся прыбытак. *А гэта не магло* адбіцца на зарплаце абслугоўваючага персаналу, які давялося скарачаць.

Інакш і быць не можа. Яшчэ вялікі К. Маркс у сваёй знакамітай працы "Капітал", *гэтай біблії камунізму, гандлёвых людзей,* па-нашаму перакупшчыкаў і спекулянтаў, разглядаў як небяспечную з'яву любога таварнага абмену. У названай працы ёсць спецыяльны раздзел, прысвечаны гандлёваму капіталу, дзе аналізуецца і вызначаецца яго роля і значэнне ў грамадстве. Ды што там тая тэорыя. Хіба невядома прагрэсіўная роля ранейшага купецтва ў Расіі, якое тады ўтварала цэлую сацыяльную праслойку, сярод якіх былі асобы, вядомыя ва ўсім свеце.

Хтосьці скажа, гэта іншая справа, а ў нас што — дробязь. Так то яно так, але ўсё пачынаецца з малога. І калі мы сталі на шлях развіцця рынкавых адносін, то нельга ігнараваць іх суровыя і патрабавальныя законы. Інакш яны адплацяць за сябе.

У гэтым пераконвае і наш рынкавы эксперымент. Так як патрабаванні жыцця і прадпрымальніцкую ініцыятыву абсалютна задушыць нельга, то пакутлівасць, з якой яны вымушаны прабіваць сабе дарогу, робіць іх ненатуральнымі, звыродлівымі, нават шкоднымі.

Так, забаранілі гандляваць на спецыялізаваным рынку — сталі стварацца рынкі *самадзейныя: у дварах, на вуліцах, у цём*ных завулках.

Знойдзены і іншыя выхады абысці "чысты" дзяржаўны рынак. Напрыклад, прадпрымальным людзям амаль нічога не каштуе, каб махнуць *на перыферыю — балазе* "іншамарак" досыць, — дзе заўсёды знойдуцца гаспадары, якія гатовы прадаць бычка, свінню, іншую жыўнасць і без клопату з рук у рукі атрымаць плату. Не тое, што пры *дзяржаўных закупках, калі грошы даводзіцца* чакаць месяцы, а то і год, калі інфляцыя амаль з'есць іх.

А што да санітарна-гігіенічных правілаў і патрабаванняў гандлю, то, прабачце, людзі не свінні — усё з'ядуць.

Усчатая валтузня вакол гандлю на рынках не на карысць і дзяржаве, і грамадству. І трэба сказаць, па-свойму разумеюць гэта і нашы кіраўнікі. Таму і дабавілі работы праваахоўным органам. Цяпер яны, апрача непасрэдных абавязкаў, вымушаны разганяць самадзейныя гандлёвыя кропкі, лавіць незаконных прадаўцоў, штрафаваць іх, адбіраць тавар, ужываць іншыя адміністрацыйныя меры.

Праўду кажуць у народзе: з-за дурной галавы няма супакою і нагам.

**Я. ІВАНОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы**
*г. Мінск*

# "Прыналежнасць да Еўропы нас збліжае..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

мент: сюды трэба дадаць індывідуальныя свабоды, а таксама тое, што з'яўляецца самым лёгкім, — выпрацоўку пачуцця адказнасці ў грамадзян, шляхам прыцягнення іх да ўдзелу ў сацыяльным жыцці праз падачу разнастайнай інфармацыі ці пры дапамозе іх прыналежнасці да палітычных партый або грамадскіх арганізацый. Ва ўсіх краінах Еўрапейскага Саюза ў арганізацыю выбарнай кампаніі ўваходзіць прадастаўленне кандыдатам сродкаў для ажыццяўлення іх перадвыбарчай агітацыі, уключаючы тэлебачанне, і гарантыя рэгулярнага правядзення выбарчых аперацый. У некаторых краінах, у тым ліку і ў Францыі, заклапочанасць часта выклікае дэманстрацыя пэўнай долі скептыцызму ў часткі насельніцтва, якая сведчыць аб адмове ўдзельнічаць у палітычным жыцці і выяўляецца ці ва ўхіленні ад выбарчай працэдуры, ці ў галасаванні за экстрэмісцкія партыі.

**— Правы грамадзян на атрыманне інфармацыі з'яўляецца адной з важнейшых умоў дэмакратыі. У чым складаецца механізм яго рэалізацыі ў Францыі?**

— Грамадзяне чэрпаюць інфармацыю ў асноўным з прэсы і тэлебачання. Дзяржаўнай прэсы не існуе, а штодзённыя і перыядычныя выданні, якія выпускаюцца рознымі партыямі, больш не маюць шырокага хаджэння. Аднак можна знайсці вялікую колькасць разнастайных незалежных друкаваных органаў, якія маюць, у большасці сваёй, пэўную палітычную афарбоўку. Што да радыё і тэлебачання, то тут існуе незалежная камісія, закліканая сачыць, у прыватнасці, у перыяд выбараў, за тым, каб розныя пункты погляду былі раўнамерна прадастаўлены ў інфармацыйных праграмах.

**— У апошні час усё часцей абмяркоўваецца праблема аб "прасоўванні НАТА на Усход". Ці ўзрастае, на вашу думку, ваенная пагроза Беларусі ў сувязі з маючым адбыцца ўступленнем у НАТА шэрагу еўрапейскіх краін былога сацыялістычнага лагера?**

— Зусім відавочна, што ніякай ваеннай пагрозы для Беларусі не існуе, гэтак жа, як і не зыходзіць з яе боку, і пашырэнне НАТА ідзе хутчэй у плане стабільнасці. Гэта палітыка пашырэння звязана з разважаннем над пераўтварэннямі ў структурах і мэтах арганізацыі, а таксама ў галіне яе адносін са сваімі ўсходнімі суседзямі, пачынаючы з Расіі.

**— Спадар пасол! Апошняе — традыцыйнае пытанне: як вы расцэньваеце перспектыву развіцця беларуска-французскіх адносін?**

— Патэнцыял іх развіцця вялікі ва ўсіх галінах, як у палітычнай, так і ў эканамічнай і ў культурнай. Цяперашняя абстаноўка не дазваляе спадзявацца на хуткі, значны прагрэс у гэтым плане. Але я ўпэўнены, што наша агульная прыналежнасць да Еўропы і шматлікія пункты судакранання, якія нас збліжаюць у гістарычным і культурным аспектах, прывядуць нас у рэшце рэшт да таго, што нашы адносіны стануць значна больш цеснымі.

**Гутарыў Ігар КУЗНЯЦОЎ**

# Зацемкі з левай кішэні

Леанід ГАЛУБОВІЧ

БЫЎ НА МАГІЛЕ бацькі. Паржавела агароджа, вырасла трава, быльнік, зацвілі кветкі, што пасадзіла сястра...

Нешта расце, нешта сохне, нешта ржавее, а нечага й некага ўжо няма й не будзе...

•

Маці з цёткай Надзяй жнуць у гародзе сярпамі жыта. Аціхла... Захмурэла... Збіраецца на дождж... Клічуць мяне ставіць снапы ў шуркі.

Прыпамінаецца за гэтай жывой спорнай работай даўняе-даўняе, з самага маленства помнае... Калі яшчэ не было камбайнаў, жанкі-калгасніцы жалі вялікія дзялкі. (Я таму у аўсяных снапах, і нарадзіўся...)

Сённяшні тэхначас і гэтыя жытнія шуркі... Усё, на першы погляд, *часовае* звязваецца ў адзіны *час*, як у адзін сноп, і ўсталёўвае гармонію... А хлеб з гарадской крамы пахне мне пераднавальнічным жытнім коласам і рукамі маці...

•

Мая амаль дзевяностагадовая бабуля вырашыла прапалоць градку. Зачапіла рукой за цвік у плоце, і сарвала скуру аж да косткі... Скура ўжо тая, як высахлая на сонцы бяроста ці выветраная добрушская папера, — рвецца і шкуматаецца... Кроў толькі сабралася пры глыбокай ране... Перабінтоўваю, а праўнукі (мая дачка і сястрын сын) шушукаюцца між сабой: у бабы Лімы ўжо й крыві няма...

Яна ж не чуе іх, а толькі пагладжвае малых па галоўках левай рукою ды нагаворвае: радасць мая, кроўка мая, крывіначкі родныя...

•

Як толькі, прыехаўшы ў вёску, бяруся ў першыя дні за работу — пілаваць, калоць, касіць, сушыць, вазіць — адразу ж крывавыя мазалі на руках. Дзядзька Міша шуткуе: "Проза даецца цяжэй, чым вершы. Гэта табе не "пот — без клапот"...

•

Шамякін здольны многае пісаць, а Быкаў — многае перажыць... Таму Бог піша за Быкава і перажывае за Шамякіна...

•

Сёлета столькі сліў! Ужо некалькі лапаў абламалася пад цяжарам пладоў...

Згінаемся, ломімся пад тым, што самі й спараджаем...

•

Бабулька-суседка састарэла дарэшты. Сагнутая ў крук, ліпіць на сонейку на самым краёчку лаўкі каля сваіх весніц. Нічога ўжо не бачыць, не чуе... *Толькі трубны глас.*

Ідзеш і крычыш ёй штомоцы: "Дзень добры Вам!!! Гэта я — Лёня Зонін!!!"

— Дзякуй, сынок, дзякуй... *Пазнала...*

Вось і ўсё жыццё. Шчаслівае, няшчаснае? Пражытае... *і пазнанае...* Іншым яно й не бывае.

•

У дзядзькі Мішы баліць рука — пасля пералому зашчаміла нерв... Абшываем з ім гараж для машыны майго малодшага брата. Работа ўвішная, потная — настукай шэсць цвікоў-сотак у кожную дошку, а дзядзьку, як-ніяк, за шэсцьдзесят. Аднак ад роду цягавіты і мяне ўхойдаў...

Ужо й безрукаўка мокрая, але, даў Бог, — дождж... Спорны, цёплы, жнівеньскі... Перакур...

Дзядзька ж — не, схаваўся пад павеццю і выпроствае на рэйцы старыя, іржавыя, гнутыя цвікі, выцягнутыя ім яшчэ на досвітку са старых дошак... Працаголік? Не, беларус, забіты ў быт па самую плешку... На такіх і трымаецца наш хісткі дом. Як некалі сказаў рускі паэт: "Гвозди бы делать из этих людей, не было б в мире крепче гвоздей." Баюся што-небудзь дадаць, каб не выпрастаць сутнасці вышэйнапісанага...

•

У Лявона Зайчысінага на дрывотні і пад застрэшшам хлява высяцца кастры дроў. Не кастры, скажу вам, а творы мастацтва. Без шчылінкі, складзеныя паленца ў паленца. Колатыя трохкутна. Беразак. Піленыя (у нас кажуць: рэзаныя) пад спецыяльную мерку — цюцелька ў цюцельку, сук не сук...

Люба-дорага глядзець. А ўсё гэта патрабуе няспешнай і цягавітай працы, на якую не кожны здольны, больш таго, той-сёй яшчэ і пасмяецца: бач, няма чалавеку работы...

А Лявон сядзіць на ганачку старэнькай сваёй, але чысценькай і дагледжанай хаткі і самазадаволена пазірае на тыя кастры — працу рук і душы... І маім вачам вабна...

Культура складаецца з дробязяў. Паленца да паленца і — Храм. У кожнага — свой і ва ўсіх — адзін...

•

Усе мы — наркаманы. Наркаманія — не хвароба, гэта прага змены душэўнага стану. Пожад новых адчуванняў жыцця...

Ты — наркаман, і няважна — хлебчаш ты гарэлку ці курыш гашыш, жарэш сала ці пералічваеш грошы ў сваім кашальку, гадзінамі не выключаеш плэер ці да паўночы пішаш нікому незразумелыя тэксты...

•

Чытаю "Дзённік аднаго генія" Сальвадора Далі. Пра пукі (ад зразумелага ўсім дзеяслова пукнуць). У Далі пукі набываюць свае абрысы і афарбоўку, але не маюць своеасаблівага каларыту пахаў.

Каюся, аднойчы я хацеў напісаць пра гэта. Аказваецца, Далі ўжо напісаў...

Чым больш жывеш, тым больш упэўніваешся, што ўсё ўжо напісана, усё ўжо пукнута... Да цябе і без цябе... Праўда, тое-сёе *часам* выветрываецца...

•

Зацемкі свае пішу пераважна ў тралейбусе, едучы вечарам з работы. Там — у цесноце, гаме, дзіўных пахах, дыханні твар у твар — яны й пішуцца.

Вершы так не пішуцца і не думаюцца. Вершы пішуцца, калі людзі пачынаюць сыходзіць, калі ля цябе застаецца ўсё менш і менш людзей і паступова пустка паглынае тваю адзіноту...

І тады ты залаўняеш тую пустку словамі, ратуючыся ад невымоўнага...

•

Нікому не верыць альбо верыць усім — аднолькава небяспечна.

•

Яшчэ не было таго літаратара, які б на поўным сур'ёзе прызнаў сябе *бесталанным.*

Я *мог бы* быць першым. Вядома, *мог бы...*

•

Бяссонніца... як усведамленне вечнасці...

•

Дранько-Майсюк "файна" танцуе. У п'яным вэрхале вечарыны і гэтага дастаткова, каб скрасіць тваю самоту...

•

Безумоўна, я — псіхічна хворы чалавек. Інакай, хіба рыфмаваў бы словы ў такім шаноўным узросце?..

•

Тыдзень таму патэлефанаваў Вітка: як там яго "постаць" у "Крыніцы" рыхтуецца, на які нумар запланавалі?

Кажу: падрыхтавалі, будзем даваць у 23 нумар...

З лёгкай інтэлігентнай *празарлівай* іроніяй пытаецца: 23 нумар — гэта на які месяц, вы ж спазняецеся, ці дажыву я да 23 нумара?..

Тры дні дома яшчэ даводзіў той матэрыял да глянцу... У панядзелак прынёс здаваць. Памёр, кажуць, Вітка ў пятніцу...

Хацеў адкрыць фортку, пацягнуўся да яе і — асеў ціхенька на падлогу... Меркавалі даваць яго "постаць" у рубрыцы "ТЫ", гэта значыць, як жывога, дзейснага літаратара, а цяпер давядзецца, мабыць, пераносіць у рубрыку "Я", гэта значыць, адышоўшых з жыцця, але не з літаратуры, для тых, хто ўсё-ткі паспеў адкрыць фортку...

•

На зямлі так многа людзей, што — ні сёння-заўтра — я буду ўжо лішнім... Праўда, ТАМ іх яшчэ больш... Аднак і вымярэнні Там іншыя.

•

Самота забірае ўсяго чалавека, а радасць толькі частку...

•

*Жаль* — вось што застаецца ад нашага жыцця блізкім людзям...

•

Гэта хмельная багемная ілюзія, што,



сабраўшыся нейкім блізкадумным гуртам, мы можам зрабіць-стварыць нешта вартае высокага мастацтва.

Усё адметнае творыцца паасобна...

•

Асабістае назіранне. Прыхільнікі творчасці Коласа — людзі пераважна *звычайныя, прыземленыя, абачлівыя...*

Творчасцю і асобай Купалы, найперш, захапляюцца тыя, хто здольны на неардынарнасць: *летуценнікі, бабнікі, багемнікі...*

•

Нарэшце я надумаўся пафарбаваць вокны сваёй кватэры. Звонку ўжо ашалупілася старая нудна-зялёная жэсаўская фарба, дрэва загніло ад дажджоў і патрэскалася пад сонцам...

Скажу шчыра, доўга не хацелася брацца за гэтую мазлівую справу пры маёй хранічнай лянотнасці, але калі ўжо вырашыў, што, праўда, не без жончыных звягі-прынукі, то ўзяўся, як гэта заўжды бывае ў мяне напачатку, з ахвотай і, можна сказаць, мастацкай насалодай.

Пачаў з кухоннага вакна, дачакаўшыся ад'езду жонкі з дачкой у вёску.

Справа мала-папаціху заладзілася. За вакном цёпла, сонечна. Пад акном — зялёна: трава, дрэвы, кусты... Дзіцячы рэй і розгалас...

Пэцкаю сабе, седзячы ў насцеж расчыненым акне на падваконні... І — раптам! — у нейкім сваім одуме няўзнак апусціў вочы ўніз — рука каўзанулася, цела цяпанулася вонкі, нутро пахаладзела, ногі ватныя... Ачомаўшыся, злез з падваконня ў кухню... Запаліў цыгарэту, думаю-маракую, сам сябе супакойваю... А што, каб сапраўды зваліўся, жахнуўся долу з пятага паверха?! Ну, пэўна, не разбіўся б дарэшты, бо ўнізе зямля мяккая — кветнік, кусты, трава... Зламаў бы шыю ці пазванок... А калі б і насмерць разбіўся — даволі арыгінальны скон, рамантычны нават...

Ужо асцярожнічаючы, дафарбоўваю тое вакно звонку, стоячы знутры. Спускаюся на вуліцу — прыгожа глядзіцца... Вяртаюся, вару каву, п'ю яе задаволена-расслаблены... Гаспадар!

Але тая думка ўсё грызе мяне даастатку. Ну, разбіўся б насмерць. Прыйшло б колькі сяброў на хаўтуры. Няўзнак зазірнулі б у тое вакно — паахалі б: і вакно прыгожае і за вакном — рай зямны, нездарма гэты ідыёт туды выпырхнуў.... Пэўна, і так хто-небудзь з іх падумаў бы.

Ды й што казаць, гэта ж дзве вялікія розніцы, як баюць у Адэсе: адна справа — выпадкова вываліцца з вакна пятага паверха ўласнай кватэры і зусім іншая — праваліцца ў смярдзючы каналізацыйны люк на цёмнай незнаёмай вуліцы...

Фу-у...

Але тут ужо які каму шанц выпадзе. Каму лёс пасміхнецца, а каму — скурчыць міну...

Адным словам — не забывайце паглядзець у вакно перад тым, як яго фарбаваць...

•

Шукаць *сваё* трэба ў сябе пад нагамі. *Сваім* далёка не раскідваюцца...

•

Заключны канцэрт на віцебскім "Славянскім базары". На сцэне спявае сваю бясконцую песню польска-французская савецкая спявачка Эдзіта П'еха... Глыбокае дэкальтэ, ногі агаленыя вышэй каленяў...

Уяўляю сваю вясковую цётку Маню, гэткага ж 60-гадовага ўзросту, з сінюшнымі, парэзанымі з-за аперацый на венах, нагамі, якая ўсё сваё свядомае жыццё адгарбела на свінаферме, у гнаі ды сырасці...

І, о Госпадзе, думаю я, чамусьці ўпэўнены, што і яна глядзіць гэты канцэрт, змахваючы слязу ад прывітальных слоў любімага прэзідэнта, і па-мацярынску, бо не была замужам і не мае дзяцей, любіць гэтую П'еху, як сваю ненароджаную дачку, не ведаючы і не здагадваючыся, што яна яе равесніца...

•

На мой суб'ектыўны погляд, жанчынам неабавязкова займацца літаратурнай творчасцю.

Яны ніколі не напішуць твор роўнавялікі таму, што маюць *самі з сябе...*

•

Чаму многія недалюбліваюць яўрэяў? Таму што імі не нарадзіліся...

•

Які бесчалавечны свет наўкол! Асабліва тады, калі ты адзінокі і бездапаможны...

"Зямля ж была нябачнай і пустой і цемра над безданню; і дух Божы лунаў над вадою..." (Біблія)

"Хочется белого-белого, лебедей..." (Зіедоніс)

Самота душы...

•

Пра што мы маўчым? Пра сябе... Пра што гаворым? Пра сябе... І дзе ж зберагаем сваю сутнасць? У сабе...

•

Ад пачатку вынаходніцтва тэлефоннай сувязі два абаненты слухалі адзін другога, знаходзячыся на двух супрацьлеглых канцах аднаго провада. Сёння вас могуць пачуць і на яго *трэцім* канцы...

•

Не памятаю ўжо, як называлася тая амерыканская кінакамедыя, дзе запаў мне такі маналог: амерыканцы *адыходзяць* не развітваючыся, а рускія — развітваюцца не *адыходзячы...*

•

Быў у Святланы Марчанкі. Хворая, але здаровая духам кабета. Мысленне чыста мужчынскае, аналітычна-сухаватае, без бабскіх сантыментаў і лішніх слоў...

На памяць дастаўся ад яе сувенірны адшліфаваны аўтаматны патрон, з гільзай і куляй, але без пораху. Сын з арміі прывёз. Стаіць на палічцы — адзінока, забыта... Заюдзіла мне яго займець...

— Для каго? — пытаецца з прыхаваным падтэкстам.

— Для сябе... — кажу.

— Тады — бяры...

Прыехаў дахаты і паставіў патрон на кніжную паліцу. Дачка праз колькі часу шэпча жонцы: "Ну, тата й дадумаўся — паставіў патрон поруч з іконкай Божай Маці..."

Жонка мне тыя словы перадае. Гляджу — сапраўды так... Хоць патрон і пусты, і сувенірны і іконка камерцыйна-канвеерная — і якраз, можа, найбольш пэўна адлюстроўваюць наш сённяшні час...

І ўсё ж — патрон прыбіраю. Магчыма, перадару каму-небудзь. Добра было б, каб тым чалавекам аказаўся патэнцыяльны самагубца. Глядзіш, у нечым доме з'явілася б яшчэ адна іконка... і пэўная вера...

І ўсё гэта дзякуючы аналітычнаму розуму Святланы Марчанкі.

•

У друкарні *рассыпалі* набор кніжкі Алеся Асташонка. Кніжкі, якую па каліве слоў збіраў аўтар на працягу дзесяці гадоў жыцця...

"П'яная кніга" — так яна мелася быць названай. Аднак, дзякуючы свайму хмелю і *лігачоўскай* цвярозасці выдаўцоў, заблыталася, завалэндалася, не дайшла да свайго месца на кніжнай паліцы...

У Арцюра Рэмбо ёсць такі верш — "П'яны карабель". Можа, і адтуль узнікла ў Алеся асацыяцыя пры выбары назвы. Хоць было і ёсць процьма іншых, куды бліжэйшых і па часе і па тэме.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Багаты і разнастайны

**Вершамі Міхася Стральцова адкрываецца другі нумар часопіса "Роднае слова". Багаты на матэрыялы раздзел "Філалогія": Д. Бугаёў ("Трагедыя на зыходзе вайны") аналізуе аповесць В. Быкава "Пакахай мяне, салдацік". Тэму грамадзянскай вайны ў творчасці М. Зарэцкага разглядае А. Гібок-Гібкоўскі ("Гарэла святая нянавісць..."). "Аўтабіяграфізм у творчасці Максіма Гарэцкага" — артыкул М. Кенькі. Т. Голуб ("Адбітак эпохі") зацікавілася рэдактарска-выдавецкай дзейнасцю М. Гарэцкага. Штрыхі да творчага партрэта Э. Вайвадзіша ("Дарога даўжынёй у век") напісаў В. Мацкевіч. Раздзел дапаўняюць артыкулы І. Лысенкі "Ян Чачот у гісторыі беларускага мовазнаўства" і А. Наркевіч "Моўны стандарт і штамп. Характар сувязі і праяўленняў".**

**Л. Баршчэўскі працягвае "Нарысы з гісторыі сусветнай літаратуры" ("Сентыменталізм у літаратуры. Роберт Бёрнс. Фрыдрых Шылер"). У яго ж перакладзе з нямецкай мовы змешчаны ўрывак з няскончанай драмы Ф. Шылера "Дзімітрый". В. Скарабагатаў разглядае стасункі С. Манюшкі і В. Дуніна-Марцінкевіча ("Разгані ж мае ўздыханні, сэрца выпаўні жаданні..."). В. Куляшова выступае з артыкулам "Алеся" (гісторыя аднаго твора А. Куляшова і аповед пра яго герояў).**

**У нумары — артыкулы Т. Кудрашовай "Усходні каляндар і беларуская культура", В. Статкевіча "Песня — наша жыццё", В. Жывалеўскага "Сэрца нашае — гітара...", Т. Шамякінай "Культура Месапатаміі", А. Барчук і А. Пекач "Дыдактычны матэрыял пра Нясвіж" і іншыя матэрыялы.**

## Не парастае зеллем...



**Музей Янкі Купалы да 115-годдзя з дня нараджэння паэта распачаў сёлета серыю экспрэс-выстаў. На іх экспануюцца новыя матэрыялы купалазнаўства, кнігі, публікацыі ў перыёдыцы, новыя музычныя творы на словы Купалы, нечаканыя знаходкі. Такім чынам адзначаюцца даты, узгадваюцца людзі з акружэння Івана Дамінікавіча.**

ЯНКА КУПАЛА

ПОД НОВЫМ СОЛНЦЕМ

Мілай Костусі на памятку Я. Купала

Масква, 21/XII-36 г. VIII-з'езд.

ГОСУДАРСТВЕННОЕ ИЗДАТЕЛЬСТВО «ХУДОЖЕСТВЕННАЯ ЛИТЕРАТУРА» МОСКВА — 1936

**Дзіяна Чаркасава, даследчыца жыцця і творчасці Канстанцыі Буйло, прапанавала для адной з такіх выстаў перасланую з Масквы родзічамі Буйлянкі кнігу з аўтографам нашага песняра (на здымку).**

**У 30-х гадах на лагоднае знаёмства з Купалам пашчасціла бібліёграфу Юліі Бібіла, тады яшчэ не асуджанай на высылку. Сёлета ёй споўнілася 100 гадоў. З фондаў музея прадстаўлены на экспазіцыю даўнія здымкі Юліі Восіпаўны, ліставанне з Купалам, успаміны руплівага кнігаведа. Мая асабістая сустрэча з гэтым надзвычай цікавым чалавекам шчымлівага лёсу адбылася 25 гадоў назад. Здымак тых часоў і прадстаўлены на выставе.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

КНІГАРНЯ

# Бязмежжа і межы таленту

*Не рабіць з Караткевіча ідала...*
*Гэтак шчыра прасіў Янка Брыль*
*Усіх прысутных*
*На ўгодках Паэта ў Оршы.*
*Варта ўслухацца:*
*Не паменшыць і не пераўзыдзе*
*Слава таленту.*
*Час адточвае велічнасць*
*І знішчае нявартае.*

Ёсць у кожнага мастака мара стварыць свой светлы Храм, дзе магла б знайсці прытулак хоць адна спакутаваная душа.

Крыху боязна заходзіць у Храм слова, выпісаны творцам на пачатку яго літаратурнага шляху. Тым больш, калі ведаеш яго па наступных і агульнапрызнаных у сваёй мастацкай дасканаласці творах. Заўсёды нечакана ісці адваротнай дарогай. Боязна, што парушацца свае ж, вынашаныя раней, меркаванні, паменее бляску ў бронзе дарагога кожнаму беларусу пісьменніка, сцвярджэнне нацыянальнай ідэі якім выткала разам з іншымі момантамі грамадска-духоўнага жыцця аснову апошняга пакуль адраджэнскага руху, выхавала не адно пакаленне прасветленых думкай любові да Радзімы маладых людзей.

Але кніга, асвечаная сполахамі творчых пошукаў, валодае чарамі прыцягнення, якія спакушанай душы не пераадолець. І ўжо з першай старонкі пачынаеш разумець, што патрыётамі, як і таленавітымі, не становяцца, а нараджаюцца. Да пэўнага складу мыслення яшчэ неабходны склад і стан духоўнай арганізацыі, каб занатаваць на пачатку дарогі радкі, злабадзённасць якіх па нейкім звышжорсткім раскладзе тутэйшых гравітацыйных сіл і па сённяшні не зменшылася.

"Прадавалася Радзіма.

Яна прадавалася з беднаю сваёй зямлёй, са старажытнымі пушчамі, з блакітным крышталем рэк і квітнеючымі лугамі, з вадою і небам, замкамі і халупамі, з матчынай ласкай і ўсмешкай дзіцяці, з мудрымі дзядамі і пяшчотнымі дзяўчатамі, з камянямі старажытных будынкаў, з крывавай гісторыяй народа, з яго сучасным і будучым, з яго воляй.

Прадавалася Радзіма..."

Гранічна аголеныя, шчырыя мелодыя і інтанацыя запеву ўсёй кнігі — легенды "Маці ветру" — захаваюцца і на астатніх яе старонках, дасягаючы выключнай вобразна-эмацыянальнай сілы ўвасаблення ўсё ж такі ў творах гістарычнай скіраванасці, пры плённай апрацоўцы фальклорнага матэрыялу, які найчасцей з'яўляўся для У. Караткевіча першапрычынай, штуршком для выяўлення творчай фантазіі і перадачы праўды жыцця ў той час, калі "кожан баяўся сказаць слова".

Для гэтага ва ўсе эпохі патрэбны мужнасць, адданасць ідэі, рамантычная прыўзнятасць над хвілінным, дробязным, уменне вылучыць галоўнае сярод мноства другараднага. На гэта з самага пачатку здольны годны і валявы Вашчыла. Да гэтага праз выпрабаванне пракажонасцю прыйдзе зусім іншага гатунку — "не чалавек, а нешта накшталт салаўя, створанае дзеля таго, каб услаўляць свет і святло і жыццё" — Вецер. Не менш чым дванаццаць подзвігаў на карысць людзей мусіць здзейсніць д'ябал Рогач, "што з пекла быў выгнаны... і стаў чалавекам" і які добра ведае, "што ў прышодшага ў палітыку Бог адбірае розум", што мярзотнікаў трэба шукаць "сярод занялых паноў.., ...сярод хлуслівых паэтаў, сярод бяздарных багамазаў". Размова ідзе пра героя "Легенды аб бедным д'ябле і аб адвакатах сатаны".

Менавіта легендарна-казачны матэрыял з яго адкрытай сентэнцыйнасцю маралі, непрыхаванасцю паняццяў дабра і зла, катэгарычным імператывам "я павінен", феноменам сумлення найяскравей раскрывае два галоўныя матывы ўсёй далейшай творчасці У. Караткевіча: **пошукі шчасця для бедных людзей**, распятых "на дыбе тугі, на нягодстве моцных", а праз яго, як прычыну ўсіх прычын, **пошукі праўды**. Чалавек заўсёды, дакладней, яго душа "падобна як алень каля вод, шукае ісціну. Дзе яна? Дзе?".

Наўрад ці магчыма адказаць на такое адкрыта вынесенае ў мастацкі тэкст пытанне. Малады У. Карткевіч з усімі сваімі юнацкімі парываннямі здолеў адчуць гэта і перанесці акцэнт са спасціжэння самой ісціны на нястомны працэс пошукаў яе, праз пакутлівае адкрыццё яе ў малым, частковым. Напэўна, таму жадае быць простым Рогач і просіць у Бога смяротнай долі. Нядаўні служка апраметнай заклікае да літасці: "Дай быць чалавекам сярод людзей. Ведаць, што я смяротны, як яны. І павінен любіць і шкадаваць іх таму, што яны смяротныя, як я, і слабыя, як я... — Рыданні раптоўна скаланулі яго. Ён падае ніц і рыдае так, што грудзі яго, здаецца, вось-вось разарвуцца.

Пад грушаю ў курчах раджаецца чалавек".

Думаецца, што ў такіх жа пакутлівых развагах над сутнасцю чалавечага і мастакоўскага "я", у адстойванні існавання саправаўднай беларускамоўнай прасторы нараджаўся сам У. Караткевіч. Нараджаўся з тым, каб застацца ў гэтым свеце непаўторнасцю.

Думку аб адрознасці ўсіх людзей, нацый, народаў як перадумове захавання і выжывання свету — размаітага, рознаіснага і толькі таму цэласнага — пісьменнік адстойваў з першых сваіх крокаў у літаратуры і да апошніх. Наступныя радкі з публіцыстычнага артыкула "Мова (што я думаю пра цябе)" яшчэ раз ілюструюць зазначанае вышэй:

"Паколькі кожная былка (чалавек) на гэтым поплаве на сваю асобіцу, паколькі яна — свой, непадобны сусвет, то поплаў (народ) — гэта сукупная непаўторнасць кожнай травіны. І калі чалавецтва — лес, то лес гэты ёсць сукупная непаўторнасць дрэў, а не сукупнасць тэлеграфных слупоў (хаця ніхто і не адмаўляе ім у пэўнай карыснасці)".

Трагедыя ж так званага савецкага грамадства выявілася якраз у тым, што нас трымалі за слупоў. Для нас і намі ствараліся куміры, улюбёнцы народных мас. Яны, як і іх справы, падманнае чалавекалюбства, аяўляліся ў мастацкай творчасці, увасаблялі трафарэтнасць, зашоранасць мыслення, а калі больш канкрэтна, усеагульнае бяздумнае стаўленне "вінцікаў аднаго агульнага механізма" да ўласных лёсаў і сэрцаў, якія мусілі належаць партыі і жыць па яе ўказцы, да праблем свайго народа, да правоў і абавязкаў, што павінны былі гарантавацца і ахоўвацца справядлівымі грамадскімі інстытутамі. У выніку — росквіт Ленініяны, суцэльнае захапленне таварышам Дзяржынскім, гатоўнасць расстрэльваць па яго загадзе.

Менавіта такую тэматыку і адпаведнае ёй ідэйнае гучанне мае апавяданне "Аліва і меч" (не адзіны ў пісьменніка твор, дзе ў святле самага чалавечнага падаецца Ленін; той самы, што любіць дзяцей калыхаць). Апублікаванае ўпершыню ў 1990 г., яно, бадай, нікому не прынесла асаблівай шкоды. Але і не заўважаць яго напісанне таксама нельга. Здаецца, у 1957 г. ужо была закончана аповесць "У снягах драмае вясна", а разам з гэтым знішчаны некаторыя нядаўнія ідэалы. Малады творца жыве надзеяй на "адлігу", свабоду выказванняў. Яго героі з рамана "Нельга забыць" вядуць вострыя дыскусіі, у тым ліку і па нацыянальным пытанні... І тут раптам суцэльная патэтыка рэвалюцыйных пераўтварэнняў, барацьба з "зачаткамі перараджэнства", на якую самім Леніным указаны курс "круціць галаву без літасці", у "Аліве і мячы" (1959).

Відавочна, што досыць часта мы і самі не

*Караткевіч Уладзімір. Творы: Проза, драматургія, публіцыстыка. Мн., "Маст. літ.", 1996.*

# Дрэмлюць памяткі дзён...

Да кнігі Міхася Чарняўскага "Вогнепаклоннікі", выпушчанай ТАА "Аракул" у серыі "Школьная бібліятэка", эпіграфам узяты радкі Уладзіміра Караткевіча:

***О, дзе ты, цяжкі мамантавы бег***
***Па сініх-сініх месячных раўнінах,***
***Дзе вогнішча ў закураных пячорах***
***І дзіда у асілкавых руках?!***

Яны — візітоўка ў падзеі найсівейшай даўніны, калі нашы продкі па сутнасці толькі станавіліся людзьмі, ператвараліся ў істот разумных, здатных не проста прыстасоўвацца да ўмоў і абставін, а і ўплываць на іх, даваць усяму, што адбываецца наўкола, уласную ацэнку і разам з тым, пазнаючы свет, праходзіць няпросты шлях самаўдасканалення.

Пра гэтую даўніну М. Чарняўскі піша даўно. Яго нарысы, мастацкія творы цікавыя тым, што аўтар у сваёй асобе ўдала спалучае знакамітага археолага, папулярызатара гістарычных ведаў і пісьменніка, прыхільніка нацыянальнай праблематыкі. Таму і мае напісанае ім такую вялікую прыцягальную сілу, таму яго кнігі і не залежваюцца на паліцах, знаходзяць удзячнага чытача, найперш сярод падлеткаў.

"Вогнепаклоннікі" — гэта сабраныя пад адной вокладкай творы, якія ў свой час пакінулі след ва ўдзячнай чытацкай душы. Але цяпер падрастае новае пакаленне і яно таксама мае духоўную і душэўную патрэбу ў іх. Каб не быць нацыянальна бяспамятным, каб чарговы раз згадаць пра свае карані.

Пра неабходнасць ведання іх М. Чарняўскі хораша згадвае ў навеле "Гарадзішча", якая адкрывае кнігу і мае ў сабе прытчавы пачатак. "Над рэчкаю, што каралеўскім росчыркам кругляла па лугавіне, уздымалася старадаўняе Гарадзішча — высокі ўзгорак са стромкімі схіламі і роўнай вяршыняй. На ім быў калісьці горад за дубовым парканам з выноснымі вежамі. За парканам густа стаялі хаты, святлеў гонтаю княскі палац і мкнуў у вышыню спічак бажніцы".

Але прайшлі стагоддзі: "Неяк пасля вясновай паводкі вада падмыла ўтравелы край Гарадзішча і агаліла ягоны бок, чорны і тлусты ад вугалёў і тлену. І тады жыхары вёскі сталі браць чарназём на свае гароды, каб радзілі агуркі і капуста, каб не пераводзілася ў іх закусь". Археолаг, які праходзіў побач, не ўстрымаўся. Маўляў, што вы робіце, людцы добрыя, "гэта ж вашыя памяць і карані!". А людзям хоць бы што: "па-ранейшаму бралі зямлю з Гарадзішча, думаючы, што так яно будзе бясконца, як не канчаецца вада ў рэчцы і гарэлка ў мясцовай краме".

Скончылася тым, чым рана ці позна і мусіла скончыцца: "І выбралі ўсё — з попелам агнішчаў, з чарапкамі посуду, з жалезнымі стрэламі і пазелянелымі манетамі, на якіх імчаў у пагоні коннік. І паказаўся пад чорнай зямлёю пясок-сівец... Падзьмулі вятры і пагналі пясок той — на рэчку, на лугавіну, на вёску. Высахла наваколле, і людзі пакінулі тую мясціну. І ніхто не ведаў, як яны зніклі — ці то памерлі, ці з'ехалі куды на край свету". А праз шмат гадоў наваколле і зусім непазнавальна змянілася: "між пясчаных барханаў вырас саксаул, у рэдкім цені якога чэзлі лапікі шорсткай травы і на краі неба то праясняўся, то знікаў дрыготкі міраж — Гарадзішча на беразе рэчкі. Ды як бы аднекуль чуўся прыглушаны звон".

Каб не сталі Гарадзішчы ...міражамі — з гэтай думкай і напісана кніга, а паколькі яна, як ужо адзначалася, у першую чаргу адрасавана школьнікам, М. Чарняўскі імкнецца расказваць пра ўсё як мага больш даходліва. Шукае (і лёгка знаходзіць) сярод юнага чытача свайго аднадумца. Так адбываецца і тады, калі ўваходзіны ў найсівейшую даўніну толькі пачынаюцца.

У "Страле Расамахі" (жанр асобных твораў, за выключэннем аповесці "Аленевае Вуха — сын Збітура", не пазначаны, але не будзе памылкаю сказаць, што і тая ж "Страла Расамахі", і "Вогнепаклоннікі" — навукова-папулярныя творы гістарычнага зместу) ва ўступе "Ад аўтара" М. Чарняўскі вяртаецца ў гады свайго маленства. Прыгадвае, як аднойчы па дарозе са школы — хадзіць трэба было кіламетры два — яго напаткала фурманка. Гаспадар падахвоціўся хлопчыка падвезці, а даведаўшыся, што яму найбольш падабаюцца ўрокі гісторыі, сказаў: "Вырасцеш — станеш гісторыкам". "З таго часу, — прызнаецца М. Чарняўскі, — прайшло шмат гадоў. Скончыў я школу. Затым — інстытут. І тое прароцтва на гасцінцы спраўдзілася і я стаў гісторыкам. І не проста

ўсведамляем, у якой ступені з'яўляемся ахвярамі свайго часу, абставін, ідэалаў, як няпроста вызваліцца з абцугоў ілюзій, наколькі кансерватыўная наша памяць і шкоднае ўсякае ідэалагічнае начынне, асабліва калі яно пачынае спрацоўваць у якасці механічных прынцыпаў замест разумнай маралі.

Пра адналінейнасць творчага сталення толькі ў кірунку станоўчага развіцця тым больш гаварыць не даводзіцца. Хвароба росту — з'ява натуральная. Ды і роўнасць выяўлення таленту больш адзнака адсутнасці яго. А тут яшчэ трэба ўлічыць, што творчая энергія пачаткоўца, не знайшоўшы арганічнага ёй кірунку і зместавага рэчышча, часам растрачваецца на не зусім істотнае, вартаснае. І ўсё ж, напэўна, з'яўленне кожнага, нават самага няўдалага, твора ў спадчыне пісьменніка тлумачыцца дзеяннем непадуладных нашаму розуму тых ці іншых законаў аб'ектыўнай неабходнасці.

Адзін з іх паспрабуем, аднак, акрэсліць, ахарактарызаваўшы яго як супраціўленне матэрыялу. Сучаснасць, за выключэннем хіба толькі ўласна пражытай, аўтабіяграфічнай сферы (бо толькі творчае пераасэнсаванне апошняй і прынесла У. Караткевічу сапраўдны поспех у шэрагу апавяданняў, аповесцях "Лісце каштанаў", "Чазенія", раманах "Нельга забыць", "Чорны замак Альшанскі"), не кажучы ўжо пра лірыку, прыкметна не паддаецца маладому аўтару.

Безумоўна, не можа не кранаць адчайны парыў узятага на фінскую вайну на другі дзень пасля вяселля героя "Завеяў" — *сустрэцца з маладой жонкай насуперак* усяму, у тым ліку і няспыннай зімовай завірусе. Хтосьці настальгічна адгукнецца на подзвігі працоўнага дэсанта, лірызм прыродных замалёвак у "Белым полымі" ці шчыра абурыцца спажывецкімі настроямі, дэмагогіяй прадстаўнікоў маладзейшай генерацыі з "Пасмяротнай гісторыі аднаго цецерука". І ўсё ж асмелімся сцвярджаць, што ніводнае з названых апавяданняў, як і незгаданае "Лісты не спазняюцца ніколі" (на нашу думку, больш выйгрышнае ў мастацкім плане ў параўнанні з папярэднімі), не будзе ўключана ў навелістычныя анталогіі, не стане асэнсоўвацца ў якасці этапных твораў сярод напісанага У. Караткевічам. З імі цікава і карысна пазнаёміцца, а ў многіх месцах адчуць непадробную радасць ад спаткання з самабытным словам-вобразам, іншымі выявамі адметнага светабачання, зіхоткімі знаходкамі стылёвага выражэння ці інтрыгуючымі элементамі сюжэтапабудовы. Але пры ўсім гэтым пералічаныя вышэй апавяданні не дацягваюць да ўзроўню напісаных у хуткім часе "Маленькай балерыны", "Блакіту і золата дня", якія разам з некаторымі творамі Я. Брыля, Я. Сіпакова, І. Пташнікава, М. Стральцова, а таксама іншых аўтараў можна смела аднесці да лепшых у навелістычным жанры ў беларускай літаратуры.

Пра відавочныя мастацкія вартасці, эпічны размах, адчутыя празаікам і ўмела перададзеныя рухомасць і адвечнасць часу ў нагаданых апавяданнях нам ужо пашчасціла выказацца раней. А вось пра што даводзіцца шкадаваць па самым вялікім рахунку, дык гэта пра незавершанасць шматаб'ёмнага гістарычнага рамана У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". У тым, што працяг меўся быць не менш таленавітым і захапляючым, пераконвае змест і трывожнае, жахліва-журботнае, кшталту рэквіема, гучанне не апублікаваных раней двух раздзелаў другой кнігі твора, пададзеных пад назваю "Брань". Ужо ў яе сімволіцы адчуваецца пэўны ваяўнічы пачатак і адначасова ўгадваецца вялікая колькасць страт, ахвяр, што цалкам стасуецца з ідэяй самаахвярнасці каліноўцаў, увасобленай праз вобраз-архетып каласоў пад сярпом няўмольных абставін.

Матыў бясконцага руху, заўсёднага аднаўлення і, нарэшце, свабоды заключае ў сабе сімвал Ракі, які так шматзначна вар'іруецца ў асноўным тэксце рамана. Тут Дняпро, папаўняючыся не адно толькі зямнымі сокамі, але і людской крывёю, слязамі, прагне ў асноўным свабоды, каб вызваліцца да таго, што сціскала, душыла яго. Усё, у тым ліку і рака, марыць пра свабоду.

Прадчуваннем волі жыве Алесь Загорскі, які знаходзіцца пад хатнім арыштам пасля бунту ў Гарыпяцічах і па магчымасці выгароджвае мяцежнікаў. Стомлены бяздзейнасцю, адчуваючы покліч вясновай зямлі, ветру, рачной стыхіі, Алесь зайздросціць нават гусям, якім пагражае страшны Днепр. "Яму хацелася за птушкамі", прагнецца крылаў і палёту, каб зразумець гэты трывожны свет, разабрацца ў яго супярэчнасцях і жахлівасцях.

Страшэнны ваўчара, які выклікае сваім укусам *невылечную і пакутлівую смертаносную* хваробу, толькі ўзмацняе самоту Алеся. Шаленства звера — гэта і шаленства свету. Справіўшыся з жахам, забіўшы ваўка, Загорскі перамагае не толькі ўласны страх, а нешта значна большае. Па сутнасці, кожная новая сцэна ў гэтых двух раздзелах пашыраецца сэнсава за кошт выразнай падтэкставай падсветкі, мнагазначнасці прыродных вобразаў-сімвалаў, а таксама выяўлення мужнасці чалавечых характараў. Укушаны зверам малады юнак, які раптам стаў дарагім для Алеся, здольны вынесці нечалавечыя пакуты, бо хоча жыць.

Усе, хто ўзняўся ўслед за Кастусём Каліноўскім, не менш любілі жыццё. Прымаючы смерць дзеля свабоды і шчасця іншых, яны не проста гінулі. Яны адыходзілі, каб уваскрэснуць, каб адрадзіцца новымі каласамі на нівах вольнай Беларусі.

Вернутыя да сённяшняга чытача ранейшыя ці да гэтага часу не апублікаваныя творы У. Караткевіча пазбаўляюць нас магчымасці спісваць усе беды на пасланае Богам беларусам кепскае начальства, на так званы аб'ектыўны ход падзей, на волю чужых дзядзек. Прычыну мастак бачыць у іншым. "Занадта яшчэ моцна сядзіць у некаторых учарашні раб, і яму трэба паўтараць вачавіднае тысячу разоў, бо сорам у наш час і нашаму чалавеку хаця ў чымсьці быці добраахвотным рабом...".

Вось і сцвярджай што-небудзь пра межы таленту пасля гэтых радкоў...

**В. ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*

---

гісторыкам, а археолагам, гэта значыць тым, хто вывучае дапісьмовае мінулае нашага народа шляхам раскопак".

Тым самым у творы "спрацоўвае" і як бы запрашэнне: не проста ўважліва чытайце напісанае, а запамінайце. А таксама пастарайцеся зазірнуць і ў іншыя выданні, каб паболей даведацца і пра жыццё тых жа людзей каменнага веку, пра якіх расказваецца ў "Страле Расамахі". Гэтае запрашэнне і ў заключных радках твора: "Дагарэлі першабытныя вогнішчы. Тыя, хто грэўся каля іх, адплылі ў нябыт па Рацэ часу. Але жылі яны не марна і зніклі не бясследна. Чаго б мы былі вартыя сёння, калі б людзі яшчэ на світанку нашай гісторыі не навучыліся здабываць агонь, вырабляць прылады працы, прыручаць жывёл, вырошчваць расліны?! Наступныя эпохі — бронзавы, жалезны вякі — прынеслі новыя адкрыцці і здабыткі, але яны былі б немагчымыя без *дасягненняў каменнага веку*".

У "Вогнепаклонніках" робіцца крок "бліжэй да нас". Падарожжа ў даўніне працягваецца, але гэтым разам падзеі адбываюцца ў іншай эпосе, прытым М. Чарняўскі зноў жа не проста расказвае, а знаходзіць удалы паварот, калі лёгка заінтрыгоўваешся: а што ж чакае цябе наперадзе?

Пачалося ж усё з таго моманту, як падчас цяжкай хваробы, у рэанімацыйным аддзяленні, прымроіліся яму падзеі з той даўніны, якую даследуе і вывучае. Адбылося як бы вяртанне ў ...бронзавы век. Знаёмы аўтара, які ў адным з навукова-даследчых інстытутаў займаўся пытаннямі псіхалогіі, наведаўшы хворага, растлумачыў прычыну дзіўнага сну: "актывізаваўся менавіта толькі гэты пласт генетычнай памяці" і параіў "убачанае" запісваць. А ў выніку і нарадзіўся яшчэ адзін твор, што і атрымаў назву "Вогнепаклоннікі".

Калі ў "Страле Расамахі", "Вогнепаклонніках" пераважае пазнавальнасць навуковага кшталту, на першым плане інфармацыйная насычанасць пісьма, дык "Аленевае Вуха — сын Збітура" і на самай справе аповесць з прадуманым сюжэтам, у цэнтры якой хлапчук, які жыў у далёкай мінуўшчыне. М. Чарняўскаму ўдалося праўдзіва адлюстраваць яго ўнутраны свет, паказаць абставіны, у якіх фарміраваўся яго характар. І, канечне ж, паўстае сама эпоха, калі чалавек усё больш станавіўся чалавекам.

У кнігу ўвайшлі і такія творы, як "Бурштынавая пацерка", "Стары Інга", Выгнанец", "Шляхам паўночных аленяў"... Два апошнія — несумненна, гістарычныя апавяданні. Як і ў аповесці, у іх сюжэтная завершанасць, кампазіцыйная стройнасць, але гэта не значыць, што той жа "дзённік археолага" *пад назвай "Бурштынавая пацерка"* прайграе ў параўнанні з імі.

Кнігі, падобныя "Вогнепаклоннікам" М. Чарняўскага, у нас, на жаль, рэдкія. Калі гістарычны жанр у нацыянальнай літаратуры ўсё ж апошнім часам развіваецца больш-менш паспяхова, дык жанр навукова-папулярны (і не толькі з гістарычнай "падсветкай") па-ранейшаму распрацаваны слаба. Тым больш ухвальна, калі за справу бярэцца чалавек, які, як адзначалася, спалучае ў сваёй асобе і навукоўца і пісьменніка. А да ўсяго нельга не згадаць, што кніга добра аформлена. Мастак Д. Сінюгін, ілюструючы творы, удала выкарыстаў імітацыю пад наскальныя малюнкі старажытных людзей, што яшчэ лепш дазваляе адчуць дыханне сівой даўніны.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

*ЧЫТАЧ — ПРА КНІГУ*

# Шчырасць цэлажыццёвая...

Нядаўна выдавецтвам "Парнас" горада Познань была выдадзена кніга паэзіі ксяндза Юзэфа Дзяконскага "Вершы з-пад Прыпяці". Ужо сама назва зборніка сведчыць пра тое, што яе аўтар — паляк мае самае непасрэднае дачыненне да нашага Палесся, Беларусі.

З 1990 года ксёндз Юзэф жыве ў Мазыры, займаецца высокай духоўнай місіяй — адраджае ў душах людскіх веру ў Бога. Дзякуючы перш за ўсё ягоным намаганням, у Мазыры ажыў каталіцкі касцёл. Святую імшу ксёндз праводзіць на беларускай і польскай мовах. У Мазыры ён самастойна вывучыў беларускую мову. Ксёндз Юзэф Дзяконскі закончыў Варшаўскі універсітэт, духоўную семінарыю, гэта чалавек глыбока веруючы. Таму і творы яго вызначаюцца найперш хрысціянскім, духоўным пафасам. Ёсць у кнізе і вершы, напісаныя на беларускай і рускай мовах. Ксёндз спрабуе пісаць і па-англійску.

Вядомы ў Польшчы рэлігійны паэт Ян Твардоўскі, творы якога перакладзены на многія мовы свету, у прадмове да кнігі даў вельмі высокую ацэнку вершам Юзэфа Дзяконскага. А ў водгуку пра кнігу "Вершы з-пад Прыпяці" польскі пісьменнік-эсэіст, чалавек глыбокай веры Пётр Вайцяхоўскі піша: "Аўтар мае два дары: культуру літаратурную і шчырасць. *Першая звязана з яго* ўласным стылем бачання і расказвання, з добрай традыцыяю — са словам Кахаоўскага, Норвіда, Міцкевіча, з метафорыкаю псалмаў і афарыстыкай Евангелля. Я назваў бы яго шчырасць цэлажыццёвай у адрозненне ад шчырасці імгнення, імпрэсіі. Аўтар адкрывае для чытача свой лёс. Убачанае знутры святарства, асаблівасці беларускай парафіі для чытача цікавей, чым нататкі з лёсу студэнткі, асістэнта інстытута, рэдактара ці іншага гарадскога інтэлігента".

Толькі з Божым святлом у сэрцы можна пісаць такія шчырыя вершы і адраджаць у людзях духоўнасць, чалавечнасць.

**Ніна АКСЁНЧЫК**

*г. Мазыр*

# "Заходнікі" — праўда жыцця...

Заўсёды з цікавасцю сачу за развіццём літаратурнага працэсу на Беларусі, стараюся не абысці ўвагай ніводнай кніжнай навінкі, рэгулярна чытаю часопісы "Маладосць", "Полымя". З літаратурных твораў апошніх гадоў хацелася б адзначыць раман вядомага нашага пісьменніка Генрыха Далідовіча "Заходнікі". Дарэчы, усе творы гэтага пісьменніка мне падабаюцца сваёй жыццёвасцю, вобразнасцю, моўным багаццем.

Мне выпала нейкі час працаваць у мясцінах, пра якія так хораша піша Г. Далідовіч, таму на ўласным вопыце ўведаў, як і чым жывуць "заходнікі", блізка пазнаёміўся з псіхалогіяй гэтых людзей, з іх уяўленнямі пра сутнасць жыцця, адносінамі да калгаснага ладу. "Заходнікі" ў большасці сваёй — шчырыя, вельмі працавітыя людзі, добрыя гаспадары, ахайныя і добразычлівыя. Да мяне, настаўніка, хаця я і быў "усходнікам", ставіліся з павагаю. З многімі я пасябраваў, хадзіў у госці і запрашаў гасцей да сябе. І *цяпер, у даволі сталыя гады,* з удзячнасцю ўспамінаю сваіх сяброў-"заходнікаў".

Але прыйшлося мне там сустракацца і з "кураглядавымі" — людзьмі, якія за словамі пра служэнне дзяржаве, партыі і "бацьку ўсіх народаў" хавалі сваю драпежніцкую сутнасць, прагу ўлады, разумовую абмежаванасць і звычайную разбэшчанасць. Яны і акружэнне падбіралі сабе адпаведнае. Вось як, напрыклад, Г. Далідовіч малюе партрэт падначаленага Кураглядава, Клопікава: "чырванаваты твар, дзе асабліва вызначаюцца зялёна-рудаватыя бессаромныя вочы, тоўсты мясісты нос і адтапыраныя цяжкія губы". Начамі Кураглядаў, гэты палымяны *носьбіт савецкай маралі, разам са сваімі* хаўруснікамі рабуе навакольныя магазіны...

Першае, што хацелася б адмеціць, — праўдзівасць карцін жыцця, якія паказвае ў сваім рамане пісьменнік.

Сапраўды, цяжка было прывыкаць "да сваёй роднай улады" гэтым "прыватнікам, аднаасобнікам з ног да галавы", якія зваліся заходнікамі і якіх узяліся "перавыхоўваць" такія, як Кураглядаў: "Каб раней, дык са свайго лесу нарэзаў бы тых хваін. Але цяпер ад мяне страявы лес адабралі, выразалі ўжо..."

Яны бачылі, як у трыццаць дзевятым годзе хапалі і вывозілі тых, хто павінен быў з'яўляцца апорай дзяржавы: інтэлігенцыю, руплівых, дбайных гаспадароў, — і насцярожана ставіліся да бальшавікоў: "...вы, бальшавікі, гаворыце адно, а робіце зусім другое: адабралі ў людзей зямлю, садзіце, б'яце самых працавітых, разумных, талковых".

Такі ж лёс напаткаў і сялян Грыгарцэвічаў, дзядзьку і пляменніка. Працавітыя і сумленныя людзі былі арыштаваны, абвінавачаны ў агітацыі *супраць савецкай улады і, прай*шоўшы праз здзекі, загінулі.

Гвалтоўна памёр і Кураглядаў. Але тое здарылася шмат пазней: ён, прыладзіўшы на ласіных сцежках стрэльбу, сам наткнуўся на сваю ж засаду. Паміраў доўга і пакутліва, і пакутамі гэтымі хоць часткова заплаціў за сваю подласць.

Раман "Заходнікі" чытаецца з цікавасцю, дзякуючы майстэрству пісьменніка. Спрыяе інтарэсу і добрая мова рамана, адсутнасць залішняй складанасці і дэталізацыі.

Хачу ад свайго імя і ад імя ўсіх прыхільнікаў таленту Г. Далідовіча пажадаць яму новых творчых поспехаў і асабістага шчасця.

**Г. КОЗІНЦАЎ**

*Жлобінскі раён*

# Звонкая ручаіна Ушаччыны

Шэрая, безнадзейна пустая, слязлівая восень перад самым скананнем. Золка, няўтульна. І ад восеньскай непагадзі, і ад няпэўнасці, хлусні ў жыцці грамадскім, і ад аднастайных клопатаў пра хлеб надзённы. І раптам на фоне гэтай безнадзейнасці — свята, як урачысты белы снег на восеньскай бездаражы.

Гэтае свята — кніга Рыгора Барадуліна "Аратай, *які пасвіць аблокі". Яна* кранула шчырай непасрэднасцю, цеплынёй, добразычлівасцю, жаданнем так прадставіць людзей творчай працы, каб зразумелі, палюбілі, запомнілі іх.

Гэтая кніга — сапраўдная знаходка для выкладчыкаў беларускай літаратуры: у ёй не толькі шмат цікавых эпізодаў з жыцця вядомых і не вельмі вядомых паэтаў і пісьменнікаў, але і арыгінальных падыходаў да іх творчасці.

Так, напрыклад, пра Васіля Быкава шмат напісана, але я ўпэўнена, што многія настаўнікі возьмуць на ўзбраенне менавіта словы Рыгора Іванавіча: "Васіль Быкаў, як той ва-сілёк у жыце Беларушчыны, робіць зямлю нашу бліжэйшай да неба, а неба слова беларускага вышэйшым". Узнёсла, урачыста і адначасова пяшчотна гучаць для мяне гэтыя словы, а сэрца поўніцца гонарам за свайго Сучасніка.

Не толькі пра слынных творцаў успамінае Р. Барадулін. Як клапатлівы старэйшы брат, які нясе адказнасць за малодшых, ён просіць за іх чытача: "Не ўкрыўдзі! Не абразь абыякавасцю".

Ёсць і яшчэ адна прычына асаблівай прыцягальнасці гэтай кнігі: яна дае магчымасць яшчэ раз сустрэцца са славутым земляком — Уладзімірам Караткевічам. З успамінаў Р. Барадуліна У. С. Караткевіч паўстае зямным, грэшным чалавекам і адначасова "да шаленства таленавітым пісьменнікам", "далікатным інтэлектуалам", "рыцарам беларускасці". Дарэчы, такое ж уяўленне пра Уладзіміра Сямёнавіча пакінула некалькі гадоў таму і кніга Адама Мальдзіса "Жыццё і ўзнясенне У. Караткевіча". Пад яе ўплывам склаліся няхітрыя радкі:

***Ён, вядома ж, не Бог, я яму не малюся***
***(Але й не таю захаплення свайго),***
***Ды калі ёсць сярод нас беларусы,***
***Ёсць у гэтым і важкая доля яго.***

Поплеч з сябрам служыў Беларушчыне і працягвае ёй служыць Рыгор Іванавіч. Вялікай заслугай яго я лічу тое, што ён захаваў ашчадна і перадае шчодра маладзейшым родную мову. Чытаючы яго кнігу (як і вершы розных гадоў), пераконваешся яшчэ і яшчэ ў прыгажосці, мудрасці, багацці родных слоў. Сустрэнецца часам нейкае рэдкае, сэрцам чую: наша яно, а пашукаўшы ў памяці, абавязкова знайду калі не такое, то вельмі падобнае (лахарцікі, набыць, ладзьбаваць).

Няхай жа яшчэ доўга-доўга цячэ звонкая ручаінка Ушаччыны, поіць сваёй жывою вадою дамінікаў і дамінічак, бо пакуль будуць яны, будзе і Беларусь.

**Зоя МАКАРЭВІЧ,**

**настаўніца роднай мовы і літаратуры Аршанскага тэхнікума чыгуначнага транспарту**

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# ЦВЕРАЗІЛАЎКА

АПАВЯДАННЕ



лі толькі што, п'яная ў дыміну, ледзь раздзелі.

— Сур'ёзна? Хто такая?

— Хер яе знае, без дакументаў, заўтра разбяромся. А! — ажывіўся Будка. — І з той змены адзін мужык, сам сюды прыйшоў.

— Залівай...

— Паўлавіч, скаж? Трухан, з той змены, выйшаў пакурыць на ганак, а ён сярод белага дня, скаціна, с...ць на сцяну пад самым вакном. Ідзі сюды, пашукай пяты вугал...

— Пайшлі, — прыспешыў Паўлавіч, — пакуль ціха, па-быстраму трэба!

Астаўшыся адзін, Сашок уключыў святло — цямнела проста на вачах. Ляніва прабег позіркам па абрыдлай "прыёмнай". Хоць бы што месцамі памянялася, усё адно й тое ж: стол з папкамі пратаколаў, сейф, лава для "кліентаў", люстра на сцяне, вазоны на падаконніку, фіранкі белыя, бы ў паліклініцы, закрываюць толькі ніжнюю палавіну акна... Паліклініка... "Незабудка", як алкашы завуць, раз патрапіш — не забудзеш.

Пазвоньваючы ключамі, Сашок прайшоўся з канца ў канец невялікага калідора, паўцёмнага ад слабых лямпачак. Там, дзе мужчынскія камеры, ціха, мужыкі парадак знаюць, даяць сабе масу спакойна. А ў бабскім канцы вечны бардак, гарланяць, блін, нібы іх рэжуць тут, ды яшчэ камфорт кожнай зрабі: то яна вады хоча, то ў прыбіральню, то ёй блага і доктар трэба...

Зрэшты, Сашок даўно прывык да гэтых гукаў, як прывыкае, напрыклад, аператар кацельні да шуму прыбораў. І рэакцыя была адпаведная: "шумяць прыборы" — значыць, работа йдзе, усё ў норме.

Зазірнуў у медпакой, ветліва павітаўся. "Фельчар" — Барысавіч — сухенькі кручок у белым халаце, сядзіць на кушэтцы, чытае газету; здзіўлена падняў вочы паверх акуляраў, нібы першы раз Сашка бачыць. Лячыцца ўжо трэба, дзед, ад склерозу, а не лафу тут ганяць... Хоць што: цёпла, ціха, не натрудзішся, сядзі чытай газету, ці ў сцяну глядзі, як у тэлевізар.

З прыбіральні данёсся шум вады, якую набіралі ў парожняе вядро. Іванаўна распачынае ўборку. Вось хто малайчына, ніколі не ные, не скардзіцца, "кліентаў" не абзывае, усе для яе хлопчыкі, дзевачкі... А "хлопчыкі" з "дзевачкамі" такія трапляюцца, што на карачках паўзці не могуць.

— Многа алкашы наблявалі, Іванаўна? — спытаў Сашок, з'яўляючыся ў дзвярах.

— Пачала толькі, — адказала глухаватая Іванаўна, голымі рукамі выкруціла анучу ў вядры, пачапіла на швабру. — Эх, хлопцы-хлопчыкі, не сядзіцца вам дома...

Сашок успомніў пра "кліентку" ў чацвёртай камеры і толькі хацеў ісці паглядзець, як грукнулі ўваходныя дзверы "прыёмнай". Ён паспяшаўся туды.

Пасярод "прыёмнай" стаяў высокі, хударлявы амапавец. Вочы вузкія, тонкія вусікі, твар скуласты, але не цёмны, як у чучмекаў, а светлы. Берэт ссунуты на патыліцу, дубінка на баку, шнураваныя, з гразёю на падэшвах высокія боцікі... У руцэ — ладны цэлафанавы пакет.

— А дзе старшой? — спытаў амапавец, азіраючыся па баках, і Сашок адразу, толькі па голасе (вопыт як-ніяк) здагадаўся, што ён на падпітку.

— Там... — Сашок матлянуў галавою.

— А старшына? Здаровы такі.

— Там...

— Дык ты, значыць, за старшога? — пасміхнуўся амапавец. — Давай знаёміцца. Цімур! — перакінуў у левую руку пакет, моцна, учэпіста сціснуў Сашкову далонь.

— Саша. Дык, калі маёр трэба, можна пазваць, тут блізка, Іванаўна збегае.

— Не трэба, — Цімур апусціўся на лаву для "кліентаў", з непрывычкі, не ведаючы каверзы гэтай лавы, кульнуўся назад, аж боцікі ўзляцелі. Засмяяўся, сеў вертыкальна, на край: — Сістэма!

— А, гэта вы п'яную дзеўку прывозілі? — здагадаўся раптам Сашок.

— Мы самыя. На мітынгу ўзялі... А я вось скончыў змену, думаю, дай зайду, спытаю, як яна, тым больш я жыву недалёка, вытразвон ваш па дарозе.

— На мітынгу п'яная? — не паверыў Сашок. Не можа быць, я чуў, іх жа там свае не пускаюць...

— Што не можа быць, што не пускаюць? — адразу наструніўся Цімур. Але тут жа і памякчэў: — Ды ім там бясплатна наліваюць, мне не верыш, дык тэлевізар паглядзі, газету пачытай. Адкуль жа беспарадкі? — цвярозыя ўсе дома ціха сядзяць...

— Пачакай! — перабіў Сашок, прыслухоўваючыся.

Паказалася Іванаўна з мокрай анучаю ў руцэ:

— Просяцца там, у дзверы б'юць, гаротнікі...

— Зараз я камусьці папрашуся.

Сашок загадзя выцягнуў з похваў дубінку, няспешна падаўся ў канец калідора, да крайняй камеры, адкуль даносіўся шум. Цімур пайшоў за ім.

Нехта лупіў кулакамі ў дзверы і п'яна крычаў:

— Выпусціце, сукі, я ва ўсім прызнаюся! Падпішу, што чалавека забіў, толькі выпусціце!

Сашок пстрыкнуў уключальнікам, хутка адамкнуў і рэзка расчыніў дзверы. На яго ледзь не ўпаў голы мужчына, у адных трусах і шкарпэтках. Па інерцыі мужчына яшчэ трымаў узнятыя над галавою кулакі. Сашок размахнуўся і шлёгнуў яго дубінкаю па жываце, не ўдарыў, а менавіта вось так, з адцяжкаю, шлёгнуў.

— Па нырках не біце! — крыкнуў мужчына, скурчыўшыся, закрываючы рукамі чамусьці не ныркі, а галаву. — Я з бальніцы нядаўна выпісаўся!..

— Гэта за сук, — Сашок ступіў у паўцёмную камеру. — Ну, хто яшчэ савецкай уласцю не давольны? — гучна спытаў, паляпваючы дубінкаю аб далонь.

— Папіць можна? — папрасіў сіплы голас з кутняга ложка.

— Можа, яшчэ пахмяліцца паднесці? Пераб'ешся, хутка выпускаць пачнём.

— Хутка — калі?

— Што, першы раз тут?

— Першы...

— Не бойся, выпусцім. Як толькі гімн раніцаю адыграе.

— Скажыце, — не ўнімаўся той жа голас, — а на работу... паведаміце?

— Мяне цікавяць "бабкі", а не вашая работа. Вось адыграе раніцаю гімн — усе на тэлефон, званіце каму хочаце: сябрам, жонкам, любоўніцам, б...м — хай прыязджаюць, плацяць штраф, і ўсе свабодны.

— Парадачкі ў вас, — пахваліў Цімур, калі вярнуліся ў "прыёмную". Цяпер у яго вузкіх п'янаватых вачах Сашок яўна прачытаў павагу да сябе. — А не скардзяцца яны раніцаю? Ну, што білі там, грошы забралі.

— Ды хто іх слухае! І што яны помняць... У п'янага адно права — забудзь на ўсе правы.

— І то праўда. Слухай, друг, ты мне падабаешся, — Цімур падміргнуў па-змоўніцку, падняў пакет. — Не хочаш выпіць, за знаёмства? Кір, закусон — усё з сабою... Кура гарачая яшчэ, у грылі купіў...

— А, давай! — нечакана згадзіўся Сашок. — Толькі бутэльку вунь там, пад стол паставіш, а куру можна сюды, на крэсла... Для перастрахоўкі.

Сашку не так хацелася выпіць (піў ён увогуле рэдка, тым больш на службе), як паесці. Падумаў пра Паўлавіча з Будкам — гудзяць у "даішнікаў", а ён што, святы? Прывыклі, маладога знайшлі. Ды і Цімур гэты, здаецца, нічога хлопец, рэзкі, жылісты, накачаны, руку паціснуў — яшчэ й цяпер баліць; з такім не хацелася б сустрэцца дзе-небудзь сам-насам... Сашок узяў з падаконніка дзве шклянкі, панюхаў, выліў у вазон рэшткі піва. Дастаў з папкі стос чыстых лістоў, рукі выціраць.

— Табе больш, — Цімур няроўна падзяліў, — цягні, зямеля!

— А ты адсюль хіба, з Беларусі? Непадобны крыху, — асцярожна заўважыў Сашок.

— Адсюль, не адсюль... На адной зямлі жывем, усе землякі.

Выпілі. Сашок адразу паставіў шклянкі назад на падаконнік. Кура, сапраўды, была яшчэ цёплая, смачная, тлушч аж цёк з яе.

— Многа ў вас кліентаў бывае? — спытаў Цімур, выціраючы папераю вусны і пальцы.

— Як калі. Бывае, што і ніводнага за змену.

— Сур'ёзна? А я гляджу, ложкі незанятыя ёсць. Дык харошая работа ў вас.

— Як жа, — Сашок нават пакрыўдзіўся. — Раз на раз не прыпадае... Ага, — успомніў ён, — яшчэ ж мітынг сёння, а ў такія дні чамусьці мала кліентаў. Ды і злачынстваў, крадзяжоў мала... Вось таксама не разумею: здаецца, каб быў злодзеем, бандытам, дык толькі такія дні і выбіраў бы — уся ментура на разгоне, рабі што хочаш... Знаёмага бачыў, ён расказваў, вы там сёння добры парадак навялі?

— Што навялі, хто навёў? — ускінуўся зноў Цімур невядома ад чаго. Дастаў цыгарэты, закурыў, выпусціў дым праз тонкія ноздры. Нос у яго, відаць, некалі быў перабіты, яшчэ й цяпер белаваты след пасярэдзіне, бы акулярамі нацёрла. — І так цацкаемся з імі... Каб мая воля, я б за пару гадзін усё скончыў. Хоць з другога боку — а мы тады на што былі б патрэбныя? Вось не было б, скажам, п'яніцаў — куды б ты дзеўся?

Сашок паціснуў плячыма. Ён пачаў ужо неяк пабойвацца гэтага Цімура, гэтых яго рэзкіх, без прычыны пераходаў ад нармальнай кампанейскай гутаркі да раздражнёнасці. Самаму Сашку ад гарэлкі і асабліва ад смачнай закускі на душы рабілася ўсё дабрэй, усё цяплей. Ён паставіў на стол шклянкі, Цімур наліў, гэтым разам сабе ці не ўдвая больш. Выпіўшы, да куры не дакрануўся, моўчкі дасмальваў цыгарэту.

— І што яны хочуць? — спытаў Сашок, маючы на ўвазе мітынгоўшчыкаў. — Ахвота ж пад дубінкі перці, у каталажках сядзець.

— Што-што... Яны ўсё правільна хочуць. За мову сваю стаяць, за ўсё сваё... І я б таксама бунтаваў на іхнім месцы! — з нейкім выклікам, з гонарам, што вось не бэсціць ворагаў, а хваліць, заявіў Цімур. — Ім лягчэй, яны беларусы, таму і стаяць за ўсё сваё. А вось мне што рабіць? Бацька казах, так? Маці руская, нарадзіўся на Украіне, жыву ў Беларусі... Вось хто я? — уставіўся ў Сашка, нібы той быў вінаваты.

— А мне напляваць, хто я, — Сашок, і праўда, плюнуў на падлогу і нават расцёр абцасам.

Іванаўна, якая ў гэты час дабралася з уборкаю да "прыёмнай", заўважыла гэта, падышла:

— Эх, хлопчыкі, хлопцы-казакі, — дайце я вас пабеспакою... — пачала шоргаць анучаю каля стала і лавы.

— Хлопцы як дубы, а яйца як жалуды! — пажартаваў Цімур, падымаючы ногі. Ён сядзеў на лаве. — Дык табе напляваць, — звярнуўся да Сашка, — а сам з акцэнтам гаворыш. Ды яшчэ з такім, што я не ўсе словы разумею.

— Абыякавасць да жыцця і ўсеагульная млявасць, — сказаў Сашок тое, што помніў з арміі, калі хлопцы прасілі пагаварыць па-беларуску незразумелымі словамі. — А акцэнт... дык з вёскі ж... Гэта Марынка па-беларуску чыста ўмее, насабачылася.

— Марынка?

— Ну, сястра, малодшая.

— Сястра ёсць? — чамусьці здзівіўся Цімур.

— Студэнтка. Бацька ёсць, матка, яна з імі жыве, а я асобна, у інтэрнаце.

— У Мінску жывуць? Ты ж кажаш, акцэнт з вёскі.

— З Чарнобылем здорава пашэнціла, — растлумачыў Сашок. — Пайшоў у армію, з Хойнікаў — усё нармальна, вяртаюся — ёперны цеатр, ужо радыяцыя. Ну, Марынка як ільготніца паступіла ў Мінск вучыцца, я таксама паехаў, у ментуру ўстроіўся. А потым бацькоў выселілі, і Мінск выпаў, уяўляеш?

— Халява, — пазайздросціў Цімур.

Выпілі яшчэ. Ужо і Сашок не закусваў. Цімур, расчырванелы, расшпіліў бушлат, смаліў цыгарэту, глядзеў, звузіўшы вочы, на Сашка, але, здавалася, не бачыў яго, думаў пра штосьці сваё.

Сашок, хоць і ап'янеў, ніяк не мог расслабіцца. Чаго ён тут тырчыць, гэты вузкавокі, чаго ўставіўся, дапіваў бы хутчэй ды зматваў адсюль... І не выжанеш — дужэйшы. Сашок крадком зірнуў на гадзіннік. Пара б ужо і тым прыйсці... Ці хоць бы кліента нарад даставіў...

— Халява некаторым, — задуменна паўтарыў Цімур. Ён перагнуўся цераз стол, паківаў пальцам, каб Сашок прысунуўся бліжэй і зашаптаў ледзь не ў вуха: — Дык табе, значыць, напляваць, хто ты? І правільна! Бо заўтра, калі ўсё, можа быць, зменіцца, з цябе ні за што не папытаюць, ты іхні, свой, адна кроў, ды яшчэ ў цёплым куточку, пры п'яніцах адсядзеўся... І заўтра ты ўжо не будзеш саромецца акцэнту, а будзеш, можа, крычаць, як гэтыя сёння: "чамадан — вакзал — Расія"...

— Ды ты што? — адхіснуўся Сашок. Ён нічога не разумеў: што можа змяніцца заўтра? Навошта змяніцца? Хто з яго будзе за што пытаць? Ён бачыў і разумеў толькі, што гэты вузкавокі ўсё больш раздражняецца, усё больш шукае выйсця нейкай злой энергіі, якая гняце яго. І Сашок па сабе ведаў, чым гэта можа скончыцца. Проста яму, Сашку, могуць даць зараз па зубах — вось чым. — Цімур, ты...

— Што?

— Нічога... Давай дап'ем.

— Паспеем. А вось мне не напляваць, хто я! Мне нельга забываць на такое, бо мне першаму — адразу! — усё прыпомняць, — Цімур раптам засмяяўся, заблішчэлі вузкія вочы, яшчэ больш, здалося, выпнуліся, заігралі азіяцкія скулы. Ён склаў дулю: Толькі не дачакаецеся! Ні храна ў вас не будзе, — усё ж паказаў дулю не Сашку, а некуды ўбок, камусьці, хто за гэтымі сценамі. Тады сціснуў кулак, аж пальцы хруснулі: — Вось дзе вы будзеце? Згодзен?

Сашку падалося, што Цімур зараз ударыць яго, і ён ускочыў з-за стала:

— Згодзен...

— Сядзь, не бойся. Не верыш ты мне, не згодзен, па вачах бачу. А калі верыш — тады ты проста тупы, — спакойна сказаў Цімур. — Ты што, верыш, што мы "парадак наводзім"? Верыш, што мы не злачынцы? — насмешліва спытаў ён.

Сашок, прапусціўшы міма вушэй "тупога", прамычэў штосьці няўцямнае, баючыся не дагадзіць.

Цімур ізноў перагнуўся над сталом, зашаптаў:

— Дзеўка, што мы прывезлі, цвярозая была! — і падміргнуў Сашку. — Толькі гарланіла дужа... Гучней за ўсіх. Голас малады, звонкі... Абкруцілася сцягам, а харошанькая сама, ды і ногі... Мяне камандзір штурхнуў у бок — прыглядай, а я і без яго прыглядаюся, — шаптаў Цімур, не спускаючы з Сашка бліскучых звужаных вачэй. — Ну, канчаецца заварушка, а яна, дурніца, зазявалася, вазьмі ды і адстань ад сваіх крыху. Сама вінавата — ідзі сюды, дарагуша, ручкі за спіну, кінулі ў "уазік"... І тут мне крыўдна стала. Разумееш? Так крыўдна, што не перадаць! — Цімур стукнуў сябе кулаком у грудзі. — Ах, думаю, вы на сваёй зямлі? Ах, у вас правы ёсць? Я ж вам пакажу, якія ў вас правы... Усё адно ж, думаю, вы, сволач мітынговая, як бы і за людзей не лічыцеся, супраць

*(Працяг на стар. 12)*

## Мастак музея



**Ці задавалі вы сабе пытанне, апынуўшыся ў музеі, хто стварае музейныя экспазіцыі?**

**Так, навуковыя супрацоўнікі і... мастак. І менавіта ён з'яўляецца пасрэднікам паміж думкай і працай навуковага супрацоўніка і наведвальнікам музея.**

**У мастацтве праектавання музейных экспазіцый ужываецца вельмі своеасаблівы творчы метад, які патрабуе ад мастака адчування часу і здольнасці данесці яго да сучасніка. І гэтым метадам дасканала валодае мастак Генадзь Чысты. У яго ён бліжэй да метаду архітэктара і дызайнера. У палітру яго матэрыялаў уваходзяць музейныя прадметы-экспанаты, выяўленчыя архітэктурна-пастаровыя і тэхнічныя сродкі іх паказу, якія мастак скарыстоўвае не механічна, а пераасэнсоўвае ў асабістую вобразную мову.**

**У мастацтва музейнай экспазіцыі Г. Чысты прыйшоў даўно. На яго рахунку шэраг музеяў — літаратурных і гістарычных. Улюбёны у акварэль, ён аднойчы зразумеў, наколькі мастацтва музейнай экспазіцыі шырокае, litrазнабаковае, сінтэтычнае, якія вялікія магчымасці яно адчыняе для творчасці. А хутчэй за ўсё напомнілі аб сабе гены бацькі — тэатральнага мастака Рыгора Чыстага.**



**Пяць год супрацоўніцтва Г. Чыстага з Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі далі магчымасць стварыць шэраг разнастайных і цікавых выстаў: "Стары гарадскі быт", "Жыве Беларусь", "Генезіс і семантыка сімвалаў", "З гісторыі зброі", "Беларусы ў Латвіі", "Спадчына, якая належыць Беларусі". Дарэчы, у стварэнні апошняй прымаў удзел і яго сын Мікіта, студэнт Мастацкай акадэміі. Гэта значыць, можна весці ўжо гаворку аб дынастыі мастакоў Чыстых.**

**Менавіта з Генадзем Чыстым музей звязвае свае творчыя планы на будучыню. Ужо падрыхтавана мастацкая канцэпцыя новай экспазіцыі, у якой пойдзе размова аб лёсе Беларусі другой паловы XVIII — пачатку XX стагоддзяў.**

**У красавіку ў мастака — юбілей. Музей віншуе яго і жадае здароўя і творчай узнёсласці на доўгія гады.**

**Т. ВОРАНАВА, І. ПАХОМЕНКА**

*На здымку: фрагмент выставы "Спадчына, якая належыць Беларусі".*

МАЙСТЭРНЯ

# Экстаз душы

На прэс-канферэнцыі ў Доме прэсы 27 сакавіка 1997 г. адбылася цікавая гутарка са старшынёй Саюза мастакоў Беларусі, скульптарам Генадзем Буралкіным. У невялічкай зале на сценах віселі яго цудоўныя работы, напісаныя вугалем, дзе-нідзе стаялі яго невялічкія скульптуры. За круглым сталом сабраліся журналісты. Усіх цікавіла, у першую чаргу тое, як жыве ў цяперашні нялёгкі час мастак, як ён творыць, за кошт чаго "трымаецца" Саюз мастакоў, якую ролю адыгрывае саюз у жыцці мастакоў. На ўсе гэтыя і многія іншыя пытанні адказваў Генадзь Васільевіч, старшыня саюза мастакоў з 1990 года. У першую чаргу ён адзначыў, што Саюзу дапамагаюць дзяржаўныя структуры, найперш Міністэрства культуры і гарвыканкам. Ідзе падрыхтоўка да выдання вялікага каталога мастакоў Беларусі, запланаванага на 1998 год. Аднак у саюзе — і вельмі шмат праблем: зняты льготы з прадпрыемстваў, якія выпускаюць мастацкія вырабы (Мінская фабрыка мастацкіх вырабаў, Барысаўскі камбінат прыкладнога мастацтва і інш.), страшэнна дарагая аплата майстэрняў. Зараз сумеснымі намаганнямі прапрацоўваецца закон аб творчых саюзах, дзе будзе і артыкул аб падтрымцы мастацкіх і творчых суполак і інш. Прайшлі выставы "Зямля Палесся", "Кніжная графіка", "50 гадоў Брэсцкай арганізацыі", рыхтуецца выстава да 60-годдзя Саюза мастакоў Беларусі.

Нельга не адзначыць і той факт, што па ініцыятыве Г. Буралкіна ў 1995 годзе Саюз мастакоў стаў праўдзейным членам Міжнароднай асацыяцыі мастакоў пры ЮНЕСКА ў Парыжы.

Аднак жа Генадзь Буралкін варты слоў як мастак-творца. Яго ведаюць больш як грамадскага дзеяча. Сам жа ён чалавек сціплы, найперш дбае пра іншых, а пра сябе — у апошнюю чаргу, да гэтага часу нават каталога не мае.

І вось — ягоная выстава. Яна была адкрыта ў новай галерэі ў памяшканні Мастацкага салона, што на праспекце Ф. Скарыны, 27 сакавіка. Прымеркавана выстава да 55-годдзя з дня нараджэння Генадзя Васільевіча. Перад гледачамі ён паўстаў мастаком удумлівым, таленавітым, арыгінальным і непадобным на іншых.

Мастак нарадзіўся ў г. Ленінагорску, што ў Казахстане, у 1942 годзе ў сям'і ссыльнага перасяленца з Беларусі. У 1947 г. сям'я пераехала на радзіму, гісторыя якой і сталася яго песняй.

Працуе ён пераважна ў галіне манументальнай і станковай скульптуры. Асноўныя тэмы яго твораў узяты з народнага жыцця, гісторыі, нацыянальных паданняў. Станковыя кампазіцыі вызначаюцца манументальнасцю, якая прасочваецца ў значнасці і філасафічнасці вобразаў, у велічнай раўнавазе прапорцый, адточанасці, вытанчанасці формаў.

Ужо ў дыпломнай рабоце "Манумент шахцёрскай славы" (1976, Салігорск) скульптар зарэкамендаваў сябе як мастак-манументаліст. Скончыўшы ў тым жа годзе наш тэатральна-мастацкі інстытут, ён едзе працаваць у Гродна, дзе стварыў архітэктурна-скульптурны знак у гонар 850-годдзя горада, прасторавыя кампазіцыі са шкла і металу ў абласным драмтэатры і ў Доме грамадзянскіх абрадаў, шамотныя рэльефныя выявы ў інтэр'ерах завода "Электрапрыбор" і мемарыял "Полымя" ў гонар загінуўшых у Вялікай Айчыннай вайне ў Лідзе, шмат іншых работ, якія сведчаць, што мастак умела выкарыстоўвае прастору. Яго помнікі вылучаюцца вялікімі памерамі, маштабнасцю, з'яўляюцца арганізуючым элементам архітэктурнага, прыроднага асяроддзя.





Што датычыць скульптуры, дык мастак перакананы, што яна павінна быць пабудавана ў прасторы так, каб поўнае ўражанне пра яе можна было скласці толькі пасля кругавога агляду, каб з кожнага новага боку яна паўставала іншай, часта нечаканай, як бы развіваючыся ў часе і аб'ёме.



Уражваюць яго скульптурныя кампазіцыі (шматфігурныя ці двухфігурныя) "Песня пратэсту", "Уз'яднанне Беларусі", "Вясна Перамогі", "Лесавічок", "Двое". Хораша перададзены душэўны стан гераіні ў партрэце актрысы А. Уманцавай (1982) і іншых. Асаблівае значэнне мастак надае матэрыялу, яго апрацоўцы і фактурнай колеравай насычанасці. Ён сінтэзуе розныя пароды дрэва, альбо дрэва з металам ("Кастусь Каліноўскі", "Белая Ганча", "Сумненне", усе 1993), "Вяртанне белага Анёла", "Сымон-музыка", "Адам і Ева" (усе 1994), серыя "Прысвячэнне П. Пікаса" (1996), цыкл "Скок". У апошніх кампазіцыях Г. Буралкіна на першы план выходзіць драматычнае гучанне вобразаў, тут скульптар пры дапамозе разьбы, лепкі дасягае незвычайнай экспрэсіўнай вобразнасці пластычнай мовы.



Выкарыстоўваючы ў сваіх работах розныя матэрыялы: дрэва, камень, медзь, бронзу, шамот і інш., мастак стварае станковыя работы, якія сёння ўпрыгожваюць многія музеі і асабістыя калекцыі ў Беларусі і за мяжою. Нечакана, будучы з выставай у Францыі, мастак, не маючы пад рукою ніякіх іншых матэрыялаў, узяўся за пяро і надзвычай цікава праявіў сябе ў гэтай тэхніцы. Ягоныя замалёўкі — вельмі пластычныя, дынамічныя. Выкарыстоўваючы чорныя тлустыя лініі як элемент дэкору, мастак перадае пластыку жаночага цела. Сама натура — аголеная, яна ў спакойным стане, але рытм прапрацаваных ліній стварае ўражанне руху. Вобразы нагадваюць красуню-русалку ("Дзяўчына на камені", "Каля люстэрка", "Дзяўчына на каленях"), у іх выяўляецца экстаз душы маладой жанчыны. Вобразы гэтыя — гэта і экстаз душы самога мастака.

**Галія ФАТЫХАВА**

# І ўсведамленне сваіх роляў

## "ДАМЫ І ГУСАРЫ" А. ФРЭДРЫ НА СЦЭНЕ БРЭСЦКАГА ТЭАТРА ДРАМЫ І МУЗЫКІ

***Спектакль рэжысёра з Любліна Цэзары Карпінскага (сцэнаграфія Барбары Валасюк) паводле камедыі вялікага польскага драматурга XIX стагоддзя Аляксандра Фрэдры на берасцейскай сцэне засведчыў, што беларуска-польскае тэатральнае супрацоўніцтва перажывае якасна новы этап. Ягоная падстава — не ранейшыя кан'юнктурна-ідэалагічныя імператывы, а глыбінная шматвяковая ўзаемасувязь дзвюх культур і шчырая зацікаўленасць сённяшніх пакаленняў творцаў адно ў адным.***

***Добра, што такое супрацоўніцтва мае надзейны падмурак на дзяржаўным узроўні (апошні прыклад — падпісанне 6 сакавіка ў Мінску чарговага пагаднення паміж Міністэрствамі культуры Беларусі і Польшчы). Але сам беларуска-польскі тэатральны дыялог залежыць ужо ў значнай ступені ад творцаў, іх таленту, таксама... ад усведамлення сваіх роляў (заўважу: вельмі значных!). А калі ўлічыць сённяшнія палітычныя рэаліі, дык прафесійны дыялог людзей тэатра немагчыма пераацаніць у кантэксце памкненняў еўрапейскіх народаў жыць у згодзе і еднасці. Таму рызыкну перафразаваць вядомую думку І. Гётэ аб ролі тэатра ў фарміраванні еўрапейскіх нацый наступным чынам: калі хочаце стварыць агульны еўрапейскі дом, найперш стварыце ўмовы для плённага ўзаемадзеяння нацыянальных тэатральных культур. Каб ролю кожнай усвядомілі...***

А. Фрэдра ў сваіх дасціпных камедыях (на вялікі жаль, беларуская сцэна пакуль спазнала асалоду ўвасаблення толькі бліскучых "Дам і гусараў", хоць ёсць і "Помста", якая лічыцца лепшай у творчай спадчыне класіка, а таксама "Муж і жонка", "Дзявочыя абяцанкі", "Пан Явяльскі", "Вялікі чалавек на малыя справы" і іншыя адметныя творы), не толькі дакладна ўзнавіў норавы польскай шляхты мінулага стагоддзя, але і выказаў свой адметны погляд на спрадвечныя маральныя каштоўнасці, якія робяць дачыненні паміж мужчынамі і жанчынамі людскімі, высакароднымі, нарэшце, прыгожымі і ўзнёслымі. А. Фрэдра быў сярод тых вялікіх творцаў-гуманістаў і філосафаў XIX стагоддзя, якія лічылі, што свет трымаецца на каханні, прыгажосці і маральнай высакароднасці, а ўсё астатняе — менавіта ад гэтых пачуццяў (вядома, калі Бог узнагародзіць чалавека такім багаццем). Адсюль і трывалая цікавасць тэатраў і гледачоў да творчасці польскага драматурга, адсюль і шырокія магчымасці ў падыходах да сцэнічнага ўвасаблення яго камедый.

Цэзары Карпінскі не засяроджвае ўвагу на падрабязным і дакладным узнаўленні далёкай эпохі, яе атмасферы, прыкметаў і асаблівасцей (эстэтычную сумяшчальнасць з рэжысёрскім рашэннем дэманструе Барбара Валасюк, у сцэнаграфіі якой пануе ўмоўнасць: толькі асобныя дэталі вызначаюць месца дзеяння); асноўны клопат пастаноўшчыка — дапамога акцёрам у распрацоўцы сцэнічных вобразаў і (праз іх узаемаадносіны) стварэнне дасціпнага і гарэзлівага відовішча пра чароўную магію кахання.

Хачу адразу засведчыць: спектакль выклікае вялікую цікавасць у гледачоў, абуджае ў іх мноства самых розных пачуццяў, уражанняў, асацыяцый, думак. Пануе добры святочны настрой, нябачныя флюіды якога таямнічым і дзівосным чынам аб'ядноўваюць сцэну і глядзельную залу.

У такіх варунках глядач даруе акцёрам некаторы "фарсаж" у манеры ігры, не заўважае пэўнай спрошчанасці мізансцэн... Хоць, магчыма, так і задумвалася рэжысёрам — даходлівай тэатральнай мовай у жанры лірычнай камедыі з актыўным выкарыстаннем вадэвільных і фарсавых прыёмаў нагадаць, што, акрамя штодзённай заклапочанасці палітыкай і заробкамі, ёсць у жыцці чалавека рэчы, дакладней, каштоўнасці, якія ўпрыгожваюць зямное існаванне, робяць яго свядомым, годным, а калі пашанцуе, то і шчаслівым.

Не бяруся вызначаць лёс абаяльных і мілых герояў спектакля (наколькі яны шчаслівыя ў салодкіх і горкіх пакутах кахання, тут, як той казаў, ёсць свае істотныя нюансы), але тое, што большасць выканаўцаў іграюць з вялікім імпэтам і задавальненнем — відавочна і бясспрэчна. (Як, дарэчы, і вельмі рэдка для сучаснай сцэны). Сцэнічнае відовішча вылучаецца сучаснай культурай, добрым густам, мяккім гумарам. Яшчэ адна асаблівасць спектакля — яго стылістыку вызначаюць не пастановачныя прыёмы, а ігра акцёраў. Берасцейская трупа ў садружнасці з польскім рэжысёрам прадэманстравала не толькі высокую акцёрскую тэхніку і здольнасць да імправізацыі, але і пачуццё ансамблевасці, што ўпоруч з глыбокім псіхалагізмам заўсёды вызначала адметную моц беларускага драматычнага мастацтва.

Калісьці ў ролі пана Маёра на купалаўскай сцэне выступаў вялікі камедыйны акцёр Глеб Паўлавіч Глебаў (пастаноўка 1957 г.). Сёння на берасцейскай сцэне гэтую ролю выконвае заслужаны артыст Беларусі Канстанцін Пераляліца — вядомы і спрактыкаваны майстар камедыйнага жанру. Не памылюся, калі скажу, што роля Маёра — адна з самых буйных творчых перамог К. Пераляліцы. Яна здабываецца праз складаную шматпланавасць выканання, з актыўным выкарыстаннем багатага арсенала "акцёрскага ўзбраення", які назапасіў за многія гады руплівы і таленавіты майстар сцэны. Ён стварае абаяльны вобраз гусара, які пражыў ладны кавалак жыцця, ганарыўся сваёй вайсковай зухаватасцю і закаранелым халасцяцтвам. Але раптам прыехалі дамы і абвясцілі аб сваім рашучым намеры пазбавіць яго халасцяцкай волі. Герой К. Пераляліцы спачатку ўспрыняў гэта з гумарам, маўляў, і не такія атакі адбіваў; потым з трывогай, — хто іх ведае, гэтых жанчын...

Акцёр літаральна "купаецца" ў камедыйных абставінах, прапанаваных драматургам. Крок за крокам выяўляе ў характары свайго героя маральны стрыжань і здольнасць у рашаючы момант цвяроза зірнуць на сітуацыю, на самога сябе, ацаніць усё і зрабіць выбар. У даным выпадку — на карысць маладых закаханых. Шматлікія эпізоды з удзелам К. Пераляліцы напоўнены не толькі мяккім гумарам, што зусім натуральна для камедыйнага спектакля, але час ад часу і нечаканым шчымлівым смуткам, бо за знешняй зухаватасцю гусара хаваецца яго чалавечая адзінота.

Вартымі і ўважлівымі партнёрамі К. Пераляліцы выступаюць іншыя вопытныя акцёры берасцейскай трупы — Віктар Міхайлаў (Ротмістр), Уладзімір Пестунаў (Капелан), Генадзь Токараў (Гжэгаж), Аляксей Беражны (Рэмба). Асабліва каларытныя камедыйныя вобразы ствараюць В. Міхайлаў і У. Пестунаў, якія з творчай вынаходлівасцю выкарыстоўваюць адметны драматургічны матэрыял. В. Міхайлаў — разнастайныя гратэскныя фарбы, асабліва ў пластычнай вонкавай абмалёўцы сцэнічнага вобраза, дасягаючы значнага камедыйнага гучання ролі. У. Пестунаў вядзе сваю ролю ў стрыманай, аскетычнай манеры, але гэта не пазбаўляе вобраз Капелана асаблівых камедыйных фарбаў і адценняў.

Брэсцкі тэатр заўсёды вылучаўся цікавым складам жаночай часткі акцёрскай трупы, што нярэдка вызначала поспех многіх спектакляў. "Дамы і гусары" ў чарговы раз пацвердзілі гэта. Дзіна Дойбан (Арганова), Тамара Багрэева (Дандальская), Тамара Ляўчук (Анэля), Алена Ягорава (Зоф'я), Таццяна Юрык (Фрузя), Алена Сунцова (Зузя), Анастасія Мантрава (Юзя) складаюць своеадметны сцэнічны букет з розных жаночых характараў — наіўных і хітрых (у сваіх намерах ажаніць старых халасцякоў), даверлівых і насцярожаных (да гусарскіх заляцанняў і салодкіх абяцанняў). Асабліва дакладным адчуваннем аўтарскага стылю і адпаведным сцэнічным увасабленнем вобразаў вылучаецца ігра Т. Багрэевай, Т. Ляўчук і А. Ягоравай, у выканаўчай манеры якіх удала спалучаецца вонкавая экспрэсія і ўнутраная засяроджанасць, увага да партнёра. Гэта, як мне здалося, супадае з той тэатральнасцю, што спавядае польскі рэжысёр у прачытанні славутай камедыі свайго земляка.

**Рычард СМОЛЬСКІ**

# Фільмасховішча... на кніжных старонках

Выпуск першага каталога "Усе беларускія фільмы" (выдавецтва "Беларуская навука", Мінск, 1996, на рускай мове) — адметная падзея ў кіназнаўстве. Я даўно займаюся кінематографам і ведаю, якая вялікая патрэба ў сістэматызацыі, дакладным апісанні таго, што створана і ствараецца, вырашаецца рознымі кінасродкамі і натуецца на цэлулоідную стужку пад назвай "фільм". Патраліўшы (альбо не) пасля завяршэння вытворчасці на экраны, стужкі скіроўваюцца ў фільмасховішчы, старэюць, губляюць свае часткі і чакаюць, што хтосьці калісьці іх запатрабуе. Многія асуджаны на невядомасць.

Ёсць, аднак, форма, якая дае магчымасць нібы "расчыніць" фільмасховішчы і гартаць старонкі гісторыі кіно. Гэта фільмаграфічныя даведнікі, каталогі, калі яны ахопліваюць усю кінапрадукцыю і складзены з навуковай дакладнасцю. Ва ўсіх кінематаграфічных краінах свету ёсць разгорнутыя фільмаграфічныя даведнікі і толькі ў Беларусі такога выдання не было, хоць кінематаграфія наша мае больш як 70-гадовую гісторыю, занатаваную ў сотнях стужак, і вось, нарэшце, выйшаў першы том фундаментальнага кінакаталога "Усе беларускія фільмы", падрыхтаванага навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.

Аўтары-складальнікі каталога І. Аўдзееў і Л. Зайцава (кандыдат мастацтвазнаўства) умясцілі ў першы том усе ігравыя фільмы вытворчасці Белдзяржкіно і кінастудыі "Савецкая Беларусь" (з 1945 г. — "Беларусьфільм") на працягу амаль 45-ці гадоў (1926—1970). Далі ім сюжэтна-тэматычную характарыстыку, вызначылі жанравыя асаблівасці, удакладнілі назвы, метраж, склад здымачных груп, час заканчэння вытворчасці і выпуску на экраны, склалі бібліяграфію. У працэсе такой карпатлівай працы стваральнікі фільмаграфічнага даведніка адкрывалі падрабязнасці, якія звычайна абміналіся даследчыкамі кіно і зусім ігнараваліся аматарамі "ўласных поглядаў" на беларускі кінематограф. Наўрад ці хто цяпер будзе спрачацца наконт першанца нашага кіно — "Лясной былі" Ю. Тарыча (а было, што аспрэчвалі: маўляў, раней выйшла камерцыйная стужка "Забітая жыццём" ("Прастытутка"). У каталогу пераканаўча паказана, што першай кінапрэм'ерай у Мінску была "Лясная быль" і адбылася яна пры канцы 1926 г. у спецыяльна адрамантаваным да такой урачыстасці кінатэатры "Культура". Па розных назвах: "Масква Кабацкая", "Будні", "За і супраць", "Горад кліча" можна ўявіць, як цяжка нараджаўся адзін з першых фільмаў "Белдзяржкіно" аб сучаснасці — "У вялікім горадзе", адкуль пачынаўся шлях у рэжысуру вядомага дзеяча савецкага кіно Марка Данскога.

Шмат іншых цікавых фактаў і з'яў занатавана ў даведніку "Усе беларускія фільмы". Ён падрыхтаваны на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай і можа быць крыніцай дакладных звестак як для даследчыкаў гісторыі беларускага кіно, так і тых, хто піша пра яго сённяшні стан. Сабраны пад адну вокладку досвед дасць магчымасць параўноўваць новыя тэндэнцыі з традыцыямі. Многія з беларускіх фільмаў увайшлі ў агульны (з уключэннем усіх нацыянальных кінематаграфій) пяцітомны каталог "Советские художественные фильмы", выпушчаны ў 60-х гадах у Маскве выдавецтвам "Искусство". Звесткі ў ім заканчваюцца 1965 годам, у двух частках гісторыі беларускага кіно — 1967-м.

Выданне, якое цяпер распачатае ў нас, прынцыпова адрозніваецца ад названых (як і іншых такога плана даведнікаў): у ім кожны фільм пададзены ў суправаджэнні матэрыялаў прэсы часу выпуску на экран і спасылак на даследчыя працы. Колькі ж газет і часопісаў трэба было адшукаць, перачытаць водгукаў, рэцэнзій, артыкулаў, каб выбраць фрагменты, якія ўводзяць кінапрадукцыю рознага кшталту ў кантэкст гісторыі!.. Урыўкі дадзены на мове, на якой былі напісаны, першыя водгукі з лексікай і правапісам свайго часу. Гэта дазваляе адчуць каларыт часу, асаблівасці адпаведных яму меркаванняў.

Карысную, вартую добрых слоў справу распачалі кіназнаўцы. Каб толькі нічога не перашкодзіла ім падрыхтаваць і выпусціць наступныя тамы ўсеахопнага даведніка! Тады мы будзем мець поўную гісторыю беларускага кіно ў назвах, фактах і асобах на фоне стаўлення да яе грамадства.

**Ефрасіння БОНДАРАВА,**
**доктар філалагічных навук,**
**кінакрытык**

# Проста... тэатр музыкі!

Пашанцавала тым, хто прыйшоў у адзін з вясновых вечароў у актавую залу Светлагорскай школы мастацтваў. Тут гучала музыка Н. Паганіні, Р. Шумана, П. Чайкоўскага, Ф. Шапэна, С. Рахманінава, Г. Свірыдава... Прытым, не ў звыклым інструментальным выкананні, а на... мандаліне і домры. Ды яшчэ як гучала! Граў прафесар Беларускай акадэміі музыкі лаўрэат міжнародных конкурсаў Мікалай Марэцкі.

Зрэшты, ён і расказваў цудоўна. Пра гісторыю сваіх любімых музычных інструментаў, пра кампазітараў, творы якіх выконваў. Для многіх, магчыма, было адкрыццём, што менавіта вялікі скрыпач Н. Паганіні напісаў "Венецыянскі карнавал". Не прызначаўся гэты надзвычай складаны твор для мандаліны. Але як віртуозна прагучаў менавіта на гэтым інструменце! А "Канцэртны вальс"? А жартоўны "Марш мандалістаў" А. Мешчакапа?

Потым у руках Мікалая Марэцкага апынулася домра. І загучалі "Італьянская полька" С. Рахманінава, і "Вальс-жарт" Д. Шастаковіча, і... разнастайны, самы нечаканы па тэхнічных складанасцях рэпертуар. У праграме знайшлося месца і для няхітрых мелодый, якія суправаджаюць экранізацыю казак "Трое парасят", "Брэменскія музыкі". Трэба было бачыць, наколькі ўдзячна ўспрымалі гэта юныя слухачы.

Незвычайнай пранікнёнасцю, узнёсласцю вызначаюцца музычныя ілюстрацыі Г. Свірыдава да аповесці А. Пушкіна "Мяцеліца". Мікалай Марэцкі здолеў надаць ужо вядомаму твору нейкае асабліва пяшчотнае гучанне. Парадаваў ён і выкананнем варыяцый на тэмы цыганскіх народных песень свайго сябра, сучаснага кампазітара Аляксандра Цыганкова.

Салісту выдатна акампанавала піяністка Таццяна Вішнякова, якая і сама цудоўна выканала некалькі вядомых твораў Ф. Шапэна, Л. Бетховена, Ф. Шумана, П. Чайкоўскага.

**— Мне вельмі прыемна было выступаць у Светлагорску. Спадабаліся ўдзячныя слухачы. Хацелася парадаваць іх. Была і яшчэ адна падстава для менавіта такога канцэрта. Рэч у тым, што ён стаўся своеасаблівай прэм'ерай Светлагорскага Тэатра музыкі. Ведаю, што ёсць наконт гэтай справы адпаведная дамова з Гомельскай філармоніяй. Я жадаю новаму тэатру шчаслівага, шматгадовага жыцця, — сказаў М. Марэцкі аўтару гэтых радкоў.**

І сапраўды, дзякуючы падтрымцы старшыні гарадскога выканаўчага камітэта А. Якабсона ў нашым горадзе створаны Тэатр музыкі. Два разы на месяц канцэртная зала школы мастацтваў запрашае яго прыхільнікаў. У планах — выступленні вакальнага ансамбля "Камерата", дуэта цымбалістаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, музыкантаў з Гомеля і лепшых мастацкіх калектываў Светлагорска.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

## Даследчык мовы

**Споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму вучонаму-мовазнаўцу, доктару філалагічных навук, прафесару кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка, заслужанаму настаўніку Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхасю Яўневічу.**

**На доўгім і нялёгкім жыццёвым шляху Міхася Станіслававіча было ўсё: цяжкае дзяцінства ў в. Кліны Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці, вайна, вучоба ў Магілёўскім педінстытуце (скончыў у 1947 годзе), настаўніцкая праца на Століншчыне, Валожыншчыне, у Барысаве, аспірантура і выкладчыцкая дзейнасць у Мінскім педінстытуце імя М. Горкага (а цяпер у Белдзяржпедуніверсітэце імя М. Танка). Больш за 11 гадоў ён загадваў кафедрай беларускага мовазнаўства.**

**М. Яўневіч — аўтар больш як 50 навуковых прац пераважна ў галіне сінтаксісу сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Вядомасць і аўтарытэт у навуковых і педагагічных колах Беларусі і за яе межамі атрымалі манаграфія "Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове" (1977) і дапаможнік для студэнтаў ВНУ "Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы" (сумесна з П. Сцяцко, 3-е выд. 1987). М. Яўневіч з'яўляецца сааўтарам шэрагу іншых вучэбных дапаможнікаў па сучаснай беларускай мове для студэнтаў-філолагаў ВНУ Беларусі. А створаныя сумесна з У. Андрэенкам падручнікі "Беларускай мовы" для сярэдняй школы з беларускай і рускай мовамі навучання больш за 30 гадоў заставаліся адзінай крыніцай навучання роднай мове мільёнаў беларускіх дзяцей. Менавіта гэты падручнік у 1990 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.**

**Як член часовых камісій Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР у 1989—1990 гг. удзельнічаў у падрыхтоўцы Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" і "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР", а таксама ў працы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні беларускага правапісу. Мае шэраг высокіх узнагарод, у тым ліку медаль Францішка Скарыны.**

**Калегі па працы, вучні, настаўнікі, школьнікі, усе, хто ведае гэтага цудоўнага і самаадданага руплівіца на ніве роднай мовы, жадаюць Міхасю Станіслававічу здароўя і новых творчых поспехаў.**

**Павел МІХАЙЛАЎ**

## У духу выяўленчага атэізму

**110 гадоў з дня нараджэння паэта, сатырыка і гумарыста Анатоля Дзеркача (сапраўднае прозвішча — Зміёнка). Ён выдаў зборнікі сатырычных і гумарыстычных твораў "Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў" (1925), "Бог удвох", "Качаргой па абразох", "Усім патроху..." (усе 1930), паэму "Міколава гаспадарка" (1927). Акрамя таго, ён з'яўляецца аўтарам кніжак для дзяцей "Нашы прыяцелі", "Першы дзень у дзіцячым садзе", "Працавітая дзяўчына" (усе 1928), "Звяры нашых лясоў" (1929). Шмат працаваў А. Дзяркач і ў галіне перакладу, вядомы як аўтар працы "Интервенция и оккупация в Белоруссии", што выйшла ў 1932 годзе ў Маскве.**

**Нарадзіўся пісьменнік 110 гадоў назад у мястэчку Турэц цяперашняга Карэліцкага раёна. Удзельнічаў у рэвалюцыйным руху, быў у турме, адбываў ссылку. Пасля рэвалюцыі працаваў у рэдакцыях газет "Беларуская вёска", "Піянер Беларусі", рэдагаваў сатырычна-гумарыстычны часопіс "Дубинка", што выходзіў як дадатак да газеты "Звезда". Як многія беларускія пісьменнікі, А. Дзяркач стаў ахвярай сталінізму і быў расстраляны 5 верасня 1937 года.**

ВЫСТАВЫ

# Яго плакатныя вобразы

Уладзімір Крукоўскі, чыя юбілейная (да шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння) выстава адкрылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі, — прызнаны на Беларусі плакатыст. Умовы для фарміравання яго як мастака былі спрыяльнымі. Дзіцячыя гады прайшлі ў старажытным, надзіва прыгожым мястэчку Ружаны Брэсцкай вобласці. Скончыўшы архітэктурна-будаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, ён зноў паступае вучыцца — у Віцебскі педінстытут на мастацка-графічны факультэт, дзе і адбываецца канчатковы выбар плакатнай працы. З 1970 г. У. Крукоўскі працуе ў "Агітплакаце Саюза мастакоў БССР", выстаўляецца. Мастацтва плаката становіцца не толькі яго захапленнем, але і прафесіяй, часткай жыцця, творчым лёсам, што несумненна і падкрэсліла ягоная персанальная выстава.

У. Крукоўскі пачынаў як прафесійны плакатыст у 60-х — пачатку 70-х гадоў, у час, спрыяльны для яго творчага росту. Гэтыя гады сталіся для беларускага плаката ў пэўнай ступені знамянальнымі. Адкрылася магчымасць для творчага, нестандартнага мыслення, для адыходу ад абмежаванага, нават дагматычнага разумення рэалізму. Абнаўленне пластычнай мовы, пошук новых сродкаў выяўленчасці, алегорыі і сімвалы, метафары, а не валадаранне фабульнасці, адкрытай тэматычнасці — гэта сапраўды падстава для вобразнага аналізу, а не звычайнай прамалінейнай канстатацыі. Праўда, у тыя гады прэстыж прафесіі плакатыста быў нізкі — тэндэнцыя, зададзеная папярэднім перыядам, — і маладому мастаку плаката Уладзіміру Крукоўскаму трэба аддаць належнае, бо для прафесійнай працы ў гэтым накірунку трэба было быць сапраўдным энтузіястам.







Так, цяпер за плячыма мастака — серыі і асобныя плакаты, ленінская тэма, сацыяльныя праблемы, тэма вайны і міру і, натуральна, тэма Беларусі, з якой плакатыст і стаўся вядомым шырокай грамадскасці. Помнікі старажытнасці ("Павага да мінулага", 1976 г.), этнаграфічнасць ("Народ стварае хараство", 1975 г.), гісторыя ("Францыск Скарына. 460 год беларускага кнігадрукавання" 1976 г.), дзеячы культуры ("Стану песняй у народзе...", 1976 г., "90 год з дня нараджэння Язэпа Драздовіча", 1978 г., "Янка Купала. 100 гадоў з дня нараджэння", 1982 г., "Якуб Колас. 100 гадоў з дня нараджэння", 1982 г.), тэатральныя пастаноўкі беларускіх п'ес ("Паўлінка", 1987г., "Сівая легенда", 1978 г.), развагі на нацыянальную тэму ("Шануйма родную мову", 1987 г., "У бітвах за волю, у бітвах за долю", 1980 г.) — усе гэтыя і многія іншыя плакаты сталіся вехамі ў творчай біяграфіі мастака.

У тыя ж гады сфарміравалася і адметнасць мастацкай мовы У. Крукоўскага, які ўжывае разнастайную сімволіку, знакавасць, выразны лозунг спалучае з абстрагаванымі графічнымі формамі, а лаканічную мову — з шырокім сэнсавым зместам. Мастак скарыстоўвае і мантаж, і спосаб вылучэння фрагмента побач з умоўным фонам, і выяўленчыя магчымасці шрыфту.

Выстава У. Крукоўскага атрымалася яркая і вызначальная тым, што перад вачыма як бы прайшла эпоха станаўлення нацыянальнай ідэі, пік якой прыпаў на росквіт творчасці мастака. Гэта станаўленне, нават сцвярджэнне нацыянальнага вымагала скарыстання дакладнай, вядомай, запаміналь-най сімволікі і вобразаў, якія недвухсэнсоўна накіроўвалі разуменне гледача да беларускасці. На такой хвалі выраслі і сфармава-ліся многія беларускія мастакі, такія, як Я. Кулік, М. Купава, А. Марачкін... У жанры ж плаката, дзе асноўную дзялянку заняў У. Крукоўскі, такая тэма мусіла несці адназначную, нават прамалінейную выразнасць, у адпаведнасці з законамі жанру плаката. Нават метафары і сімвалы, якія разнастаілі і намнога палепшылі выразнасць "ленінска-камуністычных плакатаў", ігралі адну і тую ж ролю замацавання ў свядомасці і прапаганды нацыянальнай гісторыі, культуры і ўвогуле спадчыны. Можа,




менавіта таму плакаты У. Крукоўскага, прадстаўленыя на выставе, глядзяцца цікавым, моцным, неабходным, хоць, можа, ужо трошкі і аднесеным да гісторыі фактам. Больш надзённа гучыць плакатная серыя, прысвечаная Чарнобылю ("Sos. Жыццё. Жытло. Мастацтва"), у якой мастак, дарэчы, найбольш наблізіўся да магчымасці перайсці на больш абстрагаваную мову, застаючыся пры гэтым верным сваім колішнім распрацоўкам мастацкай выразнасці, найперш у плакатах з нацыянальнай тэматыкай, якія і зрабілі яго вядомым.

**Н. ЖОГЛА**

# ЦВЕРАЗІЛАЎКА

*(Працяг. Пачатак на стар. 8-9)*

улады йдзяце, таму не спадзявайцеся, што ўлада вас пашкадуе... Ну, заехалі мы, значыць, у дворык, — шаптаў Цімур, — тут мне і прыйшла мысля, стоп, кажу хлопцам. Заскочыў у магазін з двара, там міталем вадзяры бутэльку прынеслі, яны ўжо ведаюць, як мы стрэсы здымаем... Пагуляйце, пакурыце, кажу хлопцам. У машыне цёмна, ды і дворык глухаваты, "ментавозка" стаіць — які нармальны чалавек блізка падыдзе?.. Ды і малая спалохалася, амаль не супраціўлялася, спачатку толькі дрыгнулася пару разоў, а тады прыцiхла, самой, відаць, спадабалася... Вось табе, авечка, твае правы, ведай сваё месца. Адвёў душу, пакуль хлопцы курылі... Адкаркаваў бутэльку — пі, кажу. А яна як так, дык маўчала, а гарэлку ўбачыла — бы звар'яцела, крычыць, матляе галавою, зубы сціснула... Я бяру, вось так,

Цімур яшчэ больш перагнуўся і дужымі пальцамі націснуў Сашку каля вушэй паміж сківіцамі. Рот у таго ад болю сам сабою раскрыўся.

— І ўліў амаль поўную, а рэшткі дапіў. Пакуль давезлі, дзяўчынка гатовая, сам на руках занёс, вось сюды, на гэтую лаву.

— Але навошта... ты ж кажаш, самой спадабалася? — Сашок зглытнуў сліну. Здагадка, што прыйшла яму на розум як толькі Цімур пачаў расказваць, не адступала, а з кожным новым словам толькі мацнела, перарастала ў дзікую, неверагодную рэальнасць.

— На ўсялякі пажарны. П'яная, на мітынгу — ідзі цяпер даказвай свае правы каму хочаш, свабодная, як сапля ў палёце... А ты кажаш, сястра, а ты кажаш, студэнтка, — закончыў Цімур нечакана цвярозым голасам і ўжо без іроніі.

Сашок, дранцвеючы, уталопіўся ў яго. Потым схапіў ключы і кінуўся ў канец калідора, да чацвёртай камеры.

Пальцы не слухаліся яго. Ён ледзь уставіў ключ у шчыліну. Адамкнуў дзверы, ступіў да бліжняга ложка, на які падала з калідора палоска святла. Ён нічога не думаў, а толькі адчуваў, як гідка макрэе пад пахамі; вусны яго самі сабою шапталі: "Свечку закажу, свечку... Усе грошы папу аддам..."

— Начальнік!.. — разбуджаная, тоўстая баба з суседняга ложка паспрабавала ўстаць, але не ўтрымалася, упала назад. — У-у, мянцяра.. — вылаялася доўга і брудна і сціхла.

Дзяўчына ляжала скурчыўшыся, на баку, прасціны былі скручаныя ў жгут. Сашок нагнуўся над ёю. Свет для яго раптам пацямнеў і звузіўся да памераў гэтай цверазілаўкі, гэтай камеры... Дрыжачымі рукамі ён перавярнуў дзяўчыну на спіну, схіліўся яшчэ ніжэй, узіраючыся ў твар. Дзяўчына не расплюшчыла вачэй, слаба прастагнала і адвяла яго руку. На яго дыхнула звыклым пахам — як ад усіх "кліентаў"... Ён паморшчыўся. Гэта была не Марына.

Цімур стаяў у дзвярах і, пасміхаючыся, глядзеў на яго.

— Ну, што? — пацікавіўся ён, калі Сашок выйшаў.

Сашок маўчаў.

— Не... яна, — выцiснуў з сябе ён урэшце.

— Слабак ты, сяржант... Забудзь пра ўсё, што чуў, ясна?

Сашок кіўнуў. Яны стаялі адзін насупраць другога. І за гэты кароценькі міг Сашок, акрамя страху перад гэтым чалавекам, адчуў, зразумеў да неверагоднасці ясна: Цімуру хацелася, каб тут, у камеры, была Марынка. І калі б на месцы гэтай дзяўчыны — чыёйсьці сястры, аказалася Марынка — усё гэтак сама было б. Нічога б ён, Сашок, не зрабіў бы. Як той мужчына, якога ён нядаўна біў, ён стаяў зараз перад Цімурам, скурчыўшыся, чакаючы кожную хвілю ўдару.

— Дзверы не забудзь зачыніць, — сказаў Цімур. — Пайшлі.

У "прыёмнай" Сашок, ні слова не кажучы, выліў рэшткі гарэлкі сабе ў шклянку.

— Ого! — Цімур прысвіснуў, відаць, не чакаў такой смеласці.

Сашок ужо больш не мог фізічна выносіць гэтага голасу, гэтых скулаў і асабліва гэтых вузкіх вачэй. Яму раптам да свербу ў пальцах, да болю ў скронях захацелася плюхнуць са шклянкі ў гэтыя вочы — каб толькі не бачыць у іх самога сябе... Ён заплюшчыўся і павольна выпіў усё да дна.

— Хлопчыкі! — пачуўся голас Іванаўны. — Зноў крычаць, просяцца гаротнікі!..

Сашок скрыпнуў зубамі. Выцягнуў дубінку:

— Ну, зараз дапросяцца! — і пайшоў, амаль пабег.

Цімур, пасміхаючыся, глядзеў яму ўслед.

**Уладзімір Дубоўка і Гаўрыла Гарэцкі — абодва равеснікі нашага стагоддзя — пасябравалі з першай сустрэчы ў Маскве, калі ім было па 21 годзе. 1930 год — сумна вядомы на Беларусі, як год барацьбы з "нацдэмаўшчынай" — раскідаў сяброў па далёкіх абшарах "краіны ГУЛАГа". Толькі амаль праз 30 гадоў яны, ужо рэабілітаваныя "за адсутнасцю саставу злачынства", зноў сустрэліся. Адзін жыў у Маскве, другі — у Мінску. Перапісваліся, пры прыездах па магчымасці сустракаліся, дарылі адзін другому свае кнігі — сябравалі. Адзін адышоў ад нас назаўсёды ў 1976 г., другі — у 1988 г. У паперах Гаўрылы Гарэцкага я знайшоў успаміны пра Уладзіміра Дубоўку. Відаць, яны былі напісаны прыблізна за год да смерці майго таты.**

**Радзім ГАРЭЦКІ**

Гаўрыла ГАРЭЦКІ

# Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкам

Найбольш памятная мая сустрэча з Уладзімірам Дубоўкам адбылася 30 мая 1921 года на маёўцы зямляцтва студэнтаў-беларусаў Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі (цяпер імя Ціміразева), прысвечанай памяці Максіма Багдановіча. На маёўку прыйшлі і нашы сябры-студэнты ПСГА са Смаленшчыны, Украіны, з цэнтральных абласцей Расіі. Маёўка была каля вёскі Ліхаборы, недалёка ад станцыі Пятроўска-Разумоўскае. На маёўку былі запрошаны супрацоўнікі прадстаўніцтва Беларускай ССР у РСФСР. З імі прыехаў сакратар ЦК КП(б)Б Сцяпан Булат, нягледзячы на цяжкую хваробу (сухоты). Праз 2 месяцы ён і памёр. Янка Купала прысвяціў яго памяці цудоўны верш "На смерць Сцяпана Булата". Уладзімір Дубоўка быў яшчэ у Чырвонай Арміі, але маючы адпачынак, таксама прыехаў на нашу маёўку.

Прысутнасць высокіх гасцей, асабліва Сцяпана Булата, якога вельмі шанавала і любіла беларуская моладзь, надавала ліхаборскай маёўцы неякую ўрачыстасць і строгасць, нават хваляванне. Бо мы ж сабраліся, каб адзначыць памяць нашага выдатнейшага паэта, болька па заўчаснай смерці якога далёка ад родных гоняў яшчэ жыла ў сэрцах многіх удзельнікаў. Веснавое сонейка шчыра свяціла, але думкі ляцелі з сумам да адзінокай магілкі Максіма ў Ялту. "Не кувай ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары...", успаміналіся словы паэта. І яго жаданні: "Прыляці ж тады ты на магілу, закувай як у бары". Здавалася, што мы чуем гэтыя гукі ў недалёкім ляску.

Мой даклад аб творчасці Максіма Багдановіча быў мінорным; я цытаваў урыўкі з многіх вершаў Багдановіча, хваляваўся сам і ствараў сумны настрой у прысутных.

І вось у абмеркаванні майго даклада слова бярэ Уладзімір Дубоўка. Прамова Уладзіміра была трапяткая, палкая, глыбокая па змесце, пераканаўчая. Дубоўка даводзіў, што творчасць Максіма Багдановіча была не такая песімістычная, што ён (Багдановіч) быў пэвен у вялікай будучыні беларускага працоўнага народа, у росквіце яго гаспадаркі, культуры, навукі, літаратуры, перамогі над усімі перашкодамі.

Багдановіч, па Дубоўку, ганарыўся слаўным мінулым беларускага народа, яго выдатнымі прадстаўнікамі, летапісцамі, вучонымі, першадрукарамі, паэтамі, стваральнікамі найбагацейшага фальклору...

Уладзімір Дубоўка цытаваў на памяць многія вершы Багдановіча для ілюстрацыі сваіх доказаў, чытаў гэтыя вершы сапраўды па-мастацку, з выключнай артыстычнасцю, захапляў сваім словам усіх слухачоў, ствараў гераічны вобраз паэта-змагара, узнімаў настрой.

Прамова Сцяпана Булата была узнёслай, поўнай рэвалюцыйнага пафасу і шчырасці, ён з гонарам гаварыў аб перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі і на Беларусі, аб пачатку велічнай адбудовы гаспадаркі і культуры Беларусі, аб удзеле ў сацыялістычным будаўніцтве народнай беларускай інтэлігенцыі, шэрагі якой павінны папоўніць і беларусы-выпускнікі Пятроўкі, да чаго палка і заклікаў іх Сцяпан Булат.

●

Ніколі не забуду сустрэчу з Уладзімірам Дубоўкам у верасні 1922 года ў Беларускім прадстаўніцтве па Малой Мікіцкай, 18. У горкія часіны, калі трагічна загінула, трапіўшы пад трамвай, адзіная ў нашай сям'і сястрычка Ганначка, студэнтка. Дубоўка суцяшаў мяне як брат. У хуткім часе Уладзімір Дубоўка склаў першую кнігу вершаў "Строма", як вяночак на магілу Ганнулькі. "Строма" паказала, які здольны лірычны паэт з'явіўся на Беларусі, як блізка стаіць ён каля творчай постаці Максіма Багдановіча.

●

Уладзімір Дубоўка запрасіў мяне да сваіх бацькоў, на Малую Грузінскую, 34. Уладзімір быў вельмі падобны да сваіх бацькоў, асабліва да маці — і выглядам, і голасам, і моваю, і добразычлівасцю, спагадай. Адчувалася роднасць Уладзіміра і да бацькі — рахманасцю, разважлівасцю, рухамі, сціпласцю, пранікнёным поглядам вачэй, удумлівасцю. Ад бацькі перадалася Уладзіміру схільнасць да лінгвістыкі. Калі маці Дубоўкі нават у Маскве гаварыла толькі па-беларуску і была непісьменнай, дык бацька Уладзіміра валодаў рускай, польскай, літоўскай, яўрэйскай і нямецкай мовамі.

Маці Дубоўкі перадала яму не толькі лексіку беларускай мовы, але і яе мілагучнасць, усе тонкасці вымаўлення, музычнасці, вобразнасці, фальклорнага багацця.

У сям'і Дубоўкаў панавала жывая, чыстая беларуская мова, у атмасферы якой арганічна ўзрастаў талент Уладзіміра як нацыянальнага паэта.

●

У 1924—25 гг. Уладзімір Дубоўка выкладаў у Маскве, у Камуністычным Універсітэце народаў Захаду, на Беларускім сектары, беларускую літаратуру, а я выкладаў там жа эканамічную геаграфію. Аднойчы трапіў я на лекцыю Дубоўкі пра Максіма Багдановіча. Гэта была лекцыя — імправізацыя. Уладзімір гаварыў без усякіх папер, без усякіх дапаможнікаў і падручнікаў. Урыўкі з твораў Багдановіча дэкламаваў па памяці.

Гэта лекцыя нагадвала прамову Дубоўкі на ліхаборскай маёўцы ў 1921 годзе. Але больш увагі ў ёй надавалася аналізу мастацкай вартасці твораў Багдановіча, іх вытокаў, параўнанням, арыгінальнасці, сацыяльнай накіраванасці, ідэйвасці, новым шляхам, новым формам, філасофскаму асэнсаванню, неўміручасці беларускага слова.

Дубоўка гаварыў з выключнай пераканаўчасцю, захапленнем, замілаваннем да Максіма Багдановіча, глыбокай павагай да надзвычайнай мужнасці паэта, да яго адданасці беларускаму працоўнаму народу і Беларусі. Студэнты слухалі Уладзіміра Дубоўку з найвялікшай увагай.

Творы Дубоўкі дваццатых гадоў рабілі моцны ўплыў на тагачасную моладзь і на мяне дзвюма асаблівасцямі: палымяным патрыятызмам, савецкім і беларускім гневам і абурэннем за здзек над Заходняй Беларуссю з боку польскай буржуазна-шавіністычнай улады. Неўміручымі зрабіліся вершы Дубоўкі "О, Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет" і "Адна зара, ой зорка-зарніца! — у літарах БССР цвіце. Другія ночы, ночы-начаніцы дапамагае крыллем шалясцець".

●

Доўгі час Уладзімір Дубоўка не займаўся літаратурнай працай. Сустрэўся я з ім у цягніку Масква—Мінск у 1959 г., — выпадкова ехалі мы, Уладзімір Мікалаевіч, мая жонка і я ў адным вагоне. Дубоўка быў з сівой барадою, як яго звычайна паказваюць на фотаздымках. Пазналі яго мы адразу, хаця мінула каля 30 год з часу развітання. Гаманілі да самага рання. Дубоўка — вялікі майстар апавядаць пра свае жыццёвыя прыгоды, і не губляць жартаўлівасці, добрага настрою. Ларыса Восіпаўна і я былі здзіўлены і захоплены мудрасцю Дубоўкі, яго жыццёвым імпэтам, энергіяй, разуменнем людзей, маладосцю духа.

Аднаго я не разумеў. Як мог Дубоўка не пісаць па-беларуску столькі год, не ствараць вершаў, захаваўшы юнацкую прагнасць да жыцця, да людзей, да літаратуры?



●

Наблізіў крыху да разумення надпіс Дубоўкі на фотакартцы, зробленай 5 мая 1970 г. у Маскве, у адну з апошніх маіх сустрэч з Уладзімірам Мікалаевічам. Вось гэты надпіс:

*"Ай, дзяды! Гляньце, колькі на іх сівізны!
А нядаўна ж былі маладымі яны:
Удваіх накруцілі сто сорак гадоў...
Застаецца капа да двух круглых вякоў.
Паднаціснім, браток, ды... ў Зацішны Куток...*

*Масква. Ул. Дубоўка."*

З фотакарткі ўзіраецца мудры Чалавек, з ласкавым поглядам маладых вачэй, з пышнай сівой барадою і добрай чупрынай сівых валасоў.

Здаецца, што гэта Чараўнік Жыцця, пераапрануты Юнак, які пазнаў усе таямніцы жыцця і не згубіў ні веры ў яго, ні цікавасці. Трагічную згубу сына Аліка, які падарваўся на міне, Уладзімір Мікалаевіч і Марыя Пятроўна перажывалі цяжка і доўга, але мужна.

Дубоўка праз усё жыццё пранёс нязгасны аптымізм, любоў да людзей і прыроды, да новага ладу жыцця, да ўсяго Прыгожага, паэтычнага, да Беларусі, да беларускага слова, да Чалавека:

*"А колькі б дзе ні вандраваў,
хоць добра ўсюды і прыгожа, —
мяне цягнула да Паставў,
хацелася пабыць ля Доўжа"*
(1958)

*"У песнях мне шумеў чарот
пра нарачанскія азёры.
У казках казачны народ
насіў лятункі аж на зоры...
Які б цяжар ні быў калі,
на сэрцы гаркага якая,
ад гэных песень і быліц
яны крышыліся, зніклі"...* (1958)

Творчы імпэт збіраўся ў душы Дубоўкі дзесяткамі год і ён выбухнуў полымем пасля ўзвароту на Беларусь. Але пошукі літаратурных жанраў даліся Дубоўку не адразу і нялёгка. Мне здаецца, што найбольш яскрава выявіліся яны ў "Пялёстках" і "Казках", у грамадзянскай лірыцы.

Зарана адышоў Дубоўка ў "Зацішны Куток", не сказаўшы свайго велічнага і апошняга слова.

---

ПАМЯЦЬ

## А будынкі яго стаяць...

Пайшоў з жыцця вядомы беларускі дойлід — заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь Марк Навумавіч Ліўшыц.

Нарадзіўся ён ў Рэчыцы, вышэйшую архітэктурную адукацыю атрымаў у Ленінградзе, з 1946 г. і да апошніх дзён свайго жыцця працаваў у Мінску. У вядучых праектных арганізацыях рэспублікі ён прайшоў шлях ад радавога архітэктара да галоўнага архітэктара Белкамунпраекта, Белжылпраекта, быў галоўным спецыялістам па архітэктуры ў Белгіпрагандлі.

Марк Навумавіч любіў Мінск, родную Беларусь і ўсе свае веды і ўменне аддаваў праектнай рабоце. Сярод яго работ — помнік-танк ля Дома афіцэраў, комплексы жылых дамоў па вул. Чырвонай, Камуністычнай, Я.Коласа, Захарава, па праспекце Скарыны, буйныя адміністрацыйныя будынкі Міністэрства прамысловага будавання і Бельсельгастэхнікі, Мінспецмантажбуду БССР на пл. Мяснікова, шэрагу міністэрстваў па вул. Савецкай, будынка Белжылпраекта і ІВЦ Мінфіна БССР і шэраг іншых збудаванняў у г. Мінску. Да ўсіх сваіх работ ён ставіўся з характэрнай для яго сур'ёзнасцю і поўнай аддачай творчых сіл. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле створаны серыі тыпавых праектаў жылых і грамадскіх будынкаў для будаўніцтва на Беларусі. Ім спраектавана цэнтральная плошча ў г. Барысаве, рэканструкцыя гістарычнага цэнтра ў г. Гродна і многія іншыя творчыя работы.

Свой вялікі праектны вопыт ён перадаваў маладому пакаленню архітэктараў. Да яго думкі прыслухоўваліся, з ім лічыліся таварышы, калегі. Шмат энергіі аддаваў грамадскаму жыццю, прымаў актыўны ўдзел у рабоце Беларускага Саюза архітэктараў: на працягу шэрагу гадоў ён быў членам праўлення, першым намеснікам старшыні праўлення, каля 14 гадоў узначальваў Бюро ветэранаў архітэктуры пры Саюзе архітэктараў.

За актыўны ўдзел і поспехі ў развіцці Беларускай архітэктуры яму прысвоена званне заслужанага архітэктара Беларусі, ён узнагароджаны медалямі. Чалавек чулы, добры, ён заўсёды знаходзіў кантакты з людзьмі, і ўсе, хто з ім сустракаўся па рабоце і ў жыцці, дарылі яму сваю ўвагу і сардэчнасць.

Мы, ягоныя калегі, знаёмыя, сябры, запомнім яго чалавечую цеплыню. А ў сталіцы нашай краіны памяць пра яго берагуць і будуць зберагаць доўгія гады будынкі, пазначаныя адзнакай ягонага яркага таленту.

**Ветэраны-архітэктары**

## Паклікаў... "Гальшанскі замак"

У вёсках Гальшаны, Багданава, Адамова (Ашмянскі і Валожынскі раёны) адбыўся семінар "Вопыт патрыятычнага выхавання ў сельскай школе", арганізаваны фондам "Гальшанскі замак" — мэтавым падраздзяленнем грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра "Беларуская перспектыва". У семінары бралі ўдзел настаўнікі сярэдніх і базавых школ з названых вёсак, а таксама з вёсак Баруны, Трабы і Сакаўшчына. Семінар аб'яднаў педагогаў — руплівцаў выхавання ў школьнікаў любові да Бацькаўшчыны, свядомага стаўлення да гісторыі Беларусі, ашчадлівых адносін да помнікаў культуры.

Прагучалі даклады "Выкарыстанне краязнаўчага матэрыялу ў патрыятычным выхаванні школьнікаў" настаўніка гісторыі Гальшанскай СШ Эдуарда Корзуна; "Адраджэнне нацыянальных традыцый як адзін з галоўных аспектаў выхаваўчай работы" намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце Барунскай СШ Тэрэсы Розель; "Захаваць душу народа ў асобе кожнага вучня" настаўніцы пачатковых класаў і польскай мовы Вішнеўскай СШ Эмы Барадакі і інш.

Удзельнікі семінара абмяняліся вопытам стварэння школьных краязнаўчых і этнаграфічных музеяў, разнастайных гурткоў, самадзейных творчых калектываў.

Удзельнікі семінара пазнаёміліся з архітэктурнымі і гістарычнымі помнікамі Гальшан і Вішнева, наведалі Гальшанскую філію нацыянальнага мастацкага музея, дзе за кубачкам кавы загадчыца філіі Часлава Акулевіч распавяла старажытныя паданні і легенды, звязаныя з гальшанскім замкам і кляштарам.

Пры развітанні гучалі словы надзеі на наступныя сустрэчы і пажаданні аб пашырэнні вопыту правядзення падобных семінараў і на іншыя рэгіёны Беларусі.

**ПРЭС-СЛУЖБА ЦЭНТРА "БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА"**

## Пабывалі ў Закапаным



**Мінула 60 гадоў з дня смерці польскага кампазітара К. Шыманоўскага. (Нарадзіўся ў 1882 г. у Тамашоўне (Украіна), памёр у 1937 г. у Лазане (Швейцарыя). З гэтай нагоды ў польскім курортным мястэчку Закапаным з 10 па 13 сакавіка праходзіў Міжнародны фестываль і музыказнаўчы сімпозіум.**

**Арганізатары фестывалю, а гэта Міністэрства культуры РП, Таварыства аматараў музыкі Шыманоўскага, іншыя дабрачынныя арганізацыі, паставілі задачу — выканаць усе песні К. Шыманоўскага. І з дапамогай выдатных спевакоў і піяністаў з Польшчы, Карэі, Англіі ды Беларусі паспяхова яе вырашылі.**

**Слухачамі і ўдзельнікамі фестывалю былі вядомыя музыказнаўцы з Канады, ЗША, Германіі, Італіі, Францыі, а таксама жыхары і госці Закапанага.**

**З поспехам выступілі ў Польшчы нашы выканаўцы — салістка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Тацццяна Варапай і канцэртмайстар Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Ганна Каржанеўская. Беларускія музыканты ўдзельнічалі ў гэтым фестывалі ўпершыню. Яны выканалі два вакальныя цыклы К. Шыманоўскага на вершы Дзм. Давыдава і Я. Івашкевіча ды яшчэ вакальны цыкл С. Пракоф'ева на вершы Г. Ахматавай.**

**Нашы музыканты невыпадкова былі запрошаныя на фэст у Закапанае. У 1995 г. на ІІ Міжнародным конкурсе імя С. Манюшкі ў Варшаве Тацццяна Варапай атрымала спецыяльную прэмію за лепшае выкананне песні К. Шыманоўскага, а піяністка Ганна Каржанеўская была ўзнагароджана як лепшы канцэртмайстар конкурсу.**

**Трэба адзначыць, што традыцыі выканання музыкі К. Шыманоўскага на Беларусі даўнія і глыбокія. Эдзі Тырманд, выхаванка Варшаўскай акадэміі музыкі, а потым дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, вялікая аматарка і знаўца творчасці Шыманоўскага, шмат гадоў прапагандавала музыку кампазітара сярод сваіх вучняў і слухачоў Мінска. Большасць вакальных і інструментальных твораў К. Шыманоўскага была выканана вядомымі артыстамі, студэнтамі і выкладчыкамі Беларускай акадэміі музыкі. І зараз адметная і вобразная музыка К. Шыманоўскага займае пачэснае месца ў канцэртных праграмах нашых выканаўцаў.**

**К. Г.**

*На здымку: салістка беларускай оперы Тацццяна Варапай*

## Не дапісаў апошняга радка...

**Мікола Нікановіч (15 красавіка з дня яго нараджэння спаўняецца 95 гадоў) прапаў без вестак у кастрычніку 1944 года на тэрыторыі Чэхаславакіі. А родам ён з вёскі Кляннік цяперашняга Смалявіцкага раёна. Вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, затым у Ігумені (Чэрвень) у гімназіі, пасля грамадзянскай вайны настаўнічаў. З 1928 года жыў у Мінску, працаваў стылістам у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена". У 1933 годзе М. Нікановіч быў рэпрэсіраваны, высланы за межы Беларусі. Працаваў у рэдакцыях газет "Уральский рабочий", "Советский Дон". У 1942 годзе быў прызваны ў армію, адпраўлены на фронт.**

**Першае апавяданне М. Нікановіч апублікаваў у 1923 годзе ў газеце "Савецкая Беларусь". Аўтар зборнікаў апавяданняў "Золак", "Радасць" (1926), кніг аповесцей "Мяцеліца" (1930) і "У паўстанцаў" (1931). Выбраныя творы М. Нікановіча ўключаны ў яго зборнікі "Летнім днём" (1960), "Светлая даль" (1985)...**

# Зацемкі з левай кішэні

(Працяг. Пачатак на стар. 5)

Але па сутнасці — гэта працяг адной кніжкі чалавечага жыцця, якое *рассыпаецца* перад нашымі вачыма...

●

Святкаванне ўласнага дня нараджэння заўжды псуе мне настрой. Ты і не хочаш яго адзначаць, але заангажаваны калегамі, — мусіш. А калі мусіш, то якое гэта свята?

Таму я заўжды бяру адпачынак у жніўні, на дванаццаты дзень якога і выпадае дата майго нараджэння. У вёсцы за працай пра яго й не ўспамінаеш...

Каб людзі не ведалі вылічэння часу, жыць было б цікавей, асабліва пасля пяцідзесяці і, найперш, жанчынам... Ну, здаровы — то й жывы сабе далей, меры не ведаючы...

А так над намі, як дамоклаў меч, вісіць гэтая магічная 100-гадовая лічба чалавечага веку, дацягнуцца да якой перашкаджаюць нам, прынамсі, і нашыя дні нараджэння...

Успамінаю свае даўнія вершаваныя радкі:

***Ёсць два няведанні, ў якіх вучуся***
***Шчаслівым быць і знаць сваю пару:***
***Не ведаў дня, калі я нараджуся,***
***Ў якую ноч — не ведаю — памру...***

Выдатныя радкі (і гэта не запозненый камплімент сабе, а ўдзячнасць прыродзе), але наўрад ці зразумелыя за святочным сталом з нагоды нараджэння.

А ўвогуле, я прыхільнік смерці, калі жыццё *дажываецца* да канца, а не *цягнецца* да скону...

І ўсё ж: "сто лят" вам, дарагія ЗАСТОльнікі днёў нараджэння!

●

Пра розныя неардынарныя здарэнні ў дамах творчасці напісана столькі мемуарнай літаратуры, што — жах! Чаго там толькі ні тварылася і ў савецкі час, і ў цяперашні...

Я ніколі не меў ні звычкі, ні ахвоты, як некаторыя іншыя, — асабліва "на халяву" ці са скідкай Літфонду — ездзіць туды адпачываць ці што-небудзь тварыць.

І, відаць, толькі дзякуючы гэтай сваёй заганнай нясвецкай звычцы я так і не быў ні ў адным Доме творчасці і, само сабой зразумела, — нічога дрэннага там не *натварыў*...

●

Мяняю стары перакідны каляндар 1996-га года на новы. Натрапляю на такія запісы. "Трэба хоць што-небудзь прачытаць з Гегеля! Сорамна перад В. К." "Усё-ткі — прачытаць Гегеля!" "Неабходна прачытаць Гегеля!"

Усё гэта на працягу тыдня...

Прачытаў Гегеля. "Навуку логікі". Не зразумеў... Навошта было траціць час на чытанне? Каб уявіць магчымасці ўласнага розуму. Уявіў? Не. Чаму? Таму што не ўявіў усіх магчымасцяў розуму Гегеля...

Без каментару.

●

Рэгулярна гляджу па "астанкінскім" расійскім канале тэлебачання *"Смехапанараму"* з Яўгенам Петрасянам.

З нашых у падобным жанры найбольш выдзяляецца проста *"Панарама"*, асабліва з Інгай Хрушчовай...

●

Палітычная сітуацыя ў рэспубліцы рэзка абвастрылася ў сувязі з маючым адбыцца рэферэндумам і паводзінамі большасці дэпутатаў ВС...

Лукашэнка патрапіў у складанае становішча.

Глядзеў па БТ яго прысутнасць у Століне на "Дажынках". Твар разгублены, вочы патухлыя... І словы яго перад адлётам да публікі, нібы спецыяльна абкарнаныя пры мантажы: "Я прощаюсь с вами..." І — зацямненне, і пасля, адразу ж — мінорная музыка на фоне восеньскай палескай прыроды — пачатак вядомага тэлевізійнага фільма Віктара Турава "Людзі на балоце"...

*Дажалі?* Наўрад ці...

●

Гамонім-абмяркоўваем з жонкай нечаканы альянс камуністаў і дэмакратаў (аж да БНФ!) дзеля супрацьстаяння Лукашэнку...

І жонка, раптам, згадвае, як на пачатку перабудовы нехта з расійскіх літаратараў, прыехаўшы ў ЗША, сказаў пры сустрэчы Бродскаму, што Еўтушэнка пачаў выступаць у друку супроць калгасаў... На што Бродскі, нервова патушыўшы недапалак, без заікання выпаліў: "Если Евтушенко — *против*, то я — *за*."

●

У адным з нумароў "Нового мира", чытаючы "вершапрозу" Бітава, аслупянеў, натыкнуўшыся на два радкі піцерскага прапітага паэта-бомжа Грыгор'ева (ужо нябожчыка, які, дарэчы, другім з расійскіх паэтаў пасля Пушкіна, быў адпеты ў Канюшыннай царкве):

***Лежу я в одиночестве***
***На человеке голом...***

Ну што, мужыкі, хіба не здаралася?! А калі *здаралася*, значыць, — паэзія, як сцвярджаў Вазнясенскі Андрэй...

●

Яшчэ летам у вёсцы напісаліся-выдыхнуліся пятнаццаць вершаваных радкоў... Не ставала шаснаццатага, заключнага.

...І ўжо колькі часу яго няма і няма. І гэта пры тым, што амаль штовечар я пра яго адсутнасць задумваюся (ці ён мне напамінае тымі, ужо адзінока-сіратлівымі, пятнаццаццю радкамі...)

Верша не адбылося, але адбылося і яшчэ адбываецца нешта больш значнае, чым сам верш — працягваецца пошук яго завяршэння...

Верш, які не скончыўся адразу — працягвае жыць...

●

Затрымаўся на нейкіх пасядзелках. На пачатку першай гадзіны ночы тэлефануе па тым адрасе жонка.

— Ты хоць пазваніў бы, што затрымліваешся. Я тут хвалююся, не дай Божа, здарылася што ў дарозе. Ноч жа наўкол глухая, нераўнуючы як у піліпаўку...

Госпадзе, думаю, яна яшчэ ўсё дае веры, што я магу некаму *спатрэбіцца*, што са мной усё-ткі яшчэ нешта можа *здарыцца*... Прыемна спадзявацца...

●

Найбольш красамоўнымі бываюць філосафы ў кампаніі нападпітку. Адзін нешта абсурдна даводзіць, другі — аспрэчвае... каб, у рэшце рэшт, *разысціся*, адзін другога *падтрымліваючы*: яны ведаюць, што зямля круглая і *іншы пункт апоры*, пра які патэтычна марыў Архімед, да гэтага часу так і не знойдзены...

●

Акудовіч за добрым кампанейскім сталом можа піць усё без разбору: самагонку, гарэлку, віскі, каньяк, віно, піва, пепсі, чай, каву, мінеральную ваду і проста ваду з-пад крана, калі толькі нешта з гэтага пераліку будзе наліта ў ягоную чарку...

— Валянцін, — часам прасіш, — паберажы здароўе...

— На жаль, нічога вечнага няма, — няўзнак буркоча ён, развіваючы з безнадзейным у філасофіі, але ўдзячным слухачом, сваю ідэю-фікс, што чалавека па сутнасці не было, няма й не будзе, а расхваляванаму, напітаму і ашаломленаму субяседніку безапеляцыйна даводзіць, што таго ўвогуле ўжо й цяпер няма... сёння, вось тут... пустое месца...

І таму нічога не застаецца, як пагаджацца, самнамбулічна адкрываць рот і ківаць няўпэўненай галавой...

Прыгледзішся ўважліва збоку — і сапраўды, чалавека поруч з Акудовічам няма... А Валянцін ёсць! Ён зноў падымае нечым налітую чарку, і да слёз не хочацца верыць, што аднойчы не будзе й яго...

●

Вычытваю рукапіс сваёй будучай кніжкі пасля рэдактарскіх праваак Дранько-Майсюка. З усім пагаджаюся. Даходжу да гэтага: "Жонка спіць раскрытая, уроскід, агаліўшыся да клубоў, маленькія грудзі ўздымаюцца пад тонкай белай сарочкай імпульсіўна і часта..."

І тут заўважаю, як рэдактарскі аловак Дранько-Майсюка, па-фетаўску "тлуста" і грубавата, прайшоўся па "клубах і маленькіх грудзях" маёй жонкі...

Ведаючы Леаніда Васільевіча як датклівага, тонкага эстэта, з выкрасленымі "клубамі" з-за грубаватага інтыму я пагаджаюся, але ніяк не магу даўмецца, чаму ён не пагадзіўся з маім бачаннем "маленькіх грудзей"... Гэта дужа здзівіла і азадачыла. Ці то ён не даварае маім вачам, ці то — трэба меркаваць! — на яго погляд, грудзі маёй жонкі аніяк не маленькія...

●

Бегла праглядваю чарговы *канстытуцыйны* артыкул Паўла Якубовіча, і думаю, што з гэтага артыкула *вынікае* для Сяргея Дубаўца...

●

Я — алкаголік... *Быў ім*, таму што не меў пэўнасці ў сваёй меры. *Застаўся ім*, таму што не ведаю меры сваёй пэўнасці...

●

Шамякін на радзе СП Беларусі даводзіў, што пры фінансавай мэтазгоднасці можна аб'яднаць газеты "ЛіМ", "Голас Радзімы", "Наша слова", "Культура"... Адно, маўляў, толькі важна — захаваць пры гэтым традыцыйны назоў будучай аб'яднанай літаратурна-мастацкай газеты: "Літаратура і мастацтва"...

Гэта як пад адной вокладкай змясціць тэксты Шамякіна, Навуменкі, Чыгрынава, а на супервокладцы аўтарства пазначыць абрэвіятурай Саюза пісьменнікаў Беларусі...

●

Акудовіч — майстар спорту па горным турызме. Літаратура — гэта яго чарговы пад'ём *угару*...

Часам ён прызнаецца, што на сёння самай непрыступнай і высокай для яго ёсць напісаная намі *гара літаратуры*...

●

Месяцы тры як зарокся не пісаць вершаў. Я напісаў іх дастаткова. Навошта пісаць лішнія?..

Аднак жа, не — зноў засвярбела... Адназначна, што я, як і ўсе іншыя, графаман...

●

ГРАФАМАН — гэта той, хто бясконца піша вершыкі пра снег, бярозы, радасць і слёзы...

А той, хто рыфмуе выключна патрыятычную, грамадзянскую, трыбунную тэматыку, — гэта ўжо ГРАМАФОН.

Дубавец гэта зразумеў раней за іншых.

●

Падчас пісьменніцкага сходу памёр Капусцін. Хворы, сардэчнік, каб адзяхнуцца ад пустой арытмічнай гаварыльні, выйшаў у фае і раптам — упаў....

Я падымаюся якраз у залу. Ляжыць на падлозе чалавек, раскінуўшы рукі, — *як разгорнутая кніга*... Над ім стоўпіліся пісьменнікі, не маючы як дапамагчы, і ўжо не дачакаўшыся хуткай дапамогі, асцярожна склалі рукі нябожчыка па-хрысціянску, загарнулі старонкі яшчэ адной, да канца так і не прачытанай, кнігі чалавечага жыцця...

●

Воляй-няволяй схіляюся да брылёўскай формы і стылю. Прачытаў і пазначыў у першым томе Івана Гарына ("Пракрокі і паэты", "Віён", стар. 334): "...английский король Эдуард повесил в своем клозете герб Франции, не потому, что хотел ее (Францию) унизить, а потому что страдал запором и вид герба помогал ему облегчиться. От страха".

Можна было б зрабіць і каментарый, але тое было б залішне для газеты, разлічанай на творчую інтэлігенцыю...

●

Мінчук, што лушчыць семкі — хоча ён таго ці не хоча, так гэта ці не так — адназначна з'яўляецца для мяне электаратам... Менавіта базарныя семкі ёсць паказчыкам адсутнасці інтэлекту і інтэлігентнасці...

Прыглядзіцеся, як многа наўкол *шалупіння!* І як мала тых, хто звяртае на гэта ўвагу...

●

Чытаючы дзённікі М. Танка ("Полымя", N 9, 1996 г.), узнікла асацыяцыя з вядомымі радкамі У. Маякоўскага, своеасаблівы перафраз: "Чытайце, зайздросце, я — *беларус* Савецкага Саюза".

І многа чаго яшчэ *ўзнікла* з таго, што *знікла*...

●

Літаратура, а тым больш паэзія, не пішуцца крывёю, хіба можна пачуць ці прачытаць у "откровениях" класікаў.

Паэзія пішацца страсцю і лёсам... Крывёй пішацца зусім іншае... Да прыкладу, ясенінскі некралог самому сабе: "До свиданья, друг мой, до свиданья..."

●

Мне падабаецца гэтая жанчына. І — выдатна! Любуйся ёй і вока цеш. Ды, не... Я

хачу яе... Анак, нельга, немагчыма... Па розных прычынах. І маральных у тым ліку.

Тады — забудзься на яе і ўспрымай як звычайную...

О чорт, я думаў пра сябе значна лепш. Не, такі, як і большасць...

●

Заўжды цяжкім для мяне было проста і адкрыта глядзець чалавеку ў вочы. Здавалася б, ні ты яму, ні ён табе нічога не вінны, — абодва шчырыя. І усё ж, глыбока зазірнуўшы ў вочы *чалавеку насупраць*, міжволі адчуваеш нейкую непамыснасць, што змушае цябе ў рэшце рэшт адвесці свой погляд ад яго вачэй.

Магчыма, усё заключаецца ў гэтым трошкі недасказаным слове *пагляд*. Можа, у нашым выпадку гэта не што іншае, як *падгляд*.... Падгляд за той самай непамыснай таемнасцю, якую хавае кожны з нас на самым донцы сваіх глыбокіх вачэй...

Калі хочаце займець блізкае сяброўства альбо моцнае каханне, — не заглядвайце вельмі часта і залішне доўга ў вочы абранага чалавека. Гэта небяспечна. І для вас і для яго. Ва ўсякім разе, убачанае — не зразумееце, а ва ўзаемаадносінах нешта істотнае страціце...

●

Літаратура, якая хоча займець водгук у чалавечай душы, *павінна пісаць усім чалавекам*, сутнасць лёсу якога метафарычна асацыіруецца з яго словам...

●

Нішто так не *ўзносіць*, як усведамленне сваёй адзінкавасці і непаўторнасці ў гэтым свеце.

І нішто так не *суцяшае*, што памрэш, як і ўсе...

●

Нядаўна я ўпершыню заглянуў з дачкой у краму "Прырода", што насупраць парку Чэлюскінцаў. Жонка параіла нам паглядзець на хамелеона, які змяняе афарбоўку скуры. Аднак, на небараку ўжо нехта спакусіўся — купіў-такі... Ну, што ж...

Прыпыніліся каля шматлікай разяватай публікі. У тэрарыуме бяспечна разгульвала чысцютка-белае куранё — туды-сюды — на хаду здзёўбваючы прасыпанае проса...

А наводдаль, на высахлай сучыне, на першы погляд, мірна драмаў-выгравўся пад святлом электралямпы светла-шэры самавіта-сыты ўдаў...

Калі куранё падышло да пасудзіны з вадой, ён як бы нехаця заварушыўся, расплюшчыў вочы і стаў раз-пораз выкідваць вусікі раздвоенага языка, дзі павольна-асцярожна выцягваць-пасоўваць сваё гібкае гадзючае цела ў тым жа накірунку...

Не паспеў я сказаць дачцэ пра мірнае суіснаванне розных відаў жывёльнага свету — пра што насамрэч падумалася, — як удаў маланкава "выстраліў", ашчэрыўшы сваю ружова-зубатую пашчу, і — схапіў беднае птушанё ўпоперак тулава...

Ад нечаканасці сэрца сцепанулася як ад удару электратокам! Дачка дыганула руку, вырваўшы яе з маёй, і інстынктыўна адскочыла ад тэрарыума... Больш да ўдава яна не падыходзіла. А той усё абкручваў сваім целам лёгкую здабычу, сціскаючы яе, пакуль куранё не выпусціла дух, і толькі пасля, агледзеўшы з якога боку зручней пачынаць трапезу, стаў паступова заглытваць у сябе — усю цалкам — яшчэ цёплую няшчасную істоту...

За ўсім гэтым гідліва і страшна было назіраць, аднак нечым яно прыцягвала выпадковую публіку, нібыта ўдаў гіпнатызаваў яе, і натоўп здранцвела, але неадступна ўпіваўся тым жудасным дзействам...

Ужо вяртаючыся з дачкой дадому, я ўвесь час думаў пра наша чалавечае жыццё-быццё, тым больш асацыяцыі з драпежным удавам і бяспечным куранём былі відавочнымі, асабліва напярэдадні чарговага рэферэндуму, у выніку якога — як ні круці — нехта будзе сыты, а нехта з'едзены. З'едзенымі, вядома, будуць галодныя...

●

Сустрэліся аднойчы ў Мінску Якубовіч і Казінцаў...

Ды ну іх ...да Арафата!

●

Да сённяшняга дня я так і не прачытаў "Уліса" Джойса. Збіраўся, праўда. Як для "гжэчнага" літаратара, то гэта, мабыць, дзікунства.

Але што ўжо... Магчыма, на аднаго эпігона будзе менш...

●

Зацемкі гэтыя пішуцца ўсё радзей, без былога імпэту, інерцыйна...

Нешта падобнае здараецца ў нумізматыцы: аднойчы разумееш, што з мінулага больш нічога ўжо не выцыганіш, і проста трэба счакаць, пакуль дзяржава адчаканіць свае новыя манеты, на якія ты зноў *купішся*...

●

Я адзінокі толькі днём. Ноччу ўсе поруч...

●

Звёў мяне рускамоўны беларус Вячаслаў Казакевіч, што па кантракце ўжо трэці год запар выкладае славістыку ў Японіі, з карэспандэнтам газеты "Майніці", які сабраўся прыехаць на Беларусь, каб напісаць японцам, *што мы ёсць*...

У рэшце рэшт я пагадзіўся быць гідам. І ён, далікатна гэтак, ветліва-інтэлігентна, штодня вызвоньвае мяне па тэлефоне з Масквы...

— Я хочу посетит ваша страна...

— Какое солнце сечас в ваша страна?.. (рэч усяго-наўсяго толькі пра надвор'е).

— Ваша страна радиоактивна?..

— Ваша страна выиграет референдум?..

— А страна ваша...?

І гэтак далей і да таго падобнае... Пасля адказаў на такія пытанні — чаго ўжо й ехаць...

●

Шкада... Пашкадаваць трэба... Пашкадуйце...

Гэтыя словы найчасцей можна пачуць ад люду беларускага. Літасцівы наш народ, боскі... Аднак, увесь час выклікаючы толькі шкадобу да сябе альбо да іншых, ці Чалавекі мы ў поўным сэнсе гэтага слова?

Бо шкадоба — гэта ўсяго толькі інстынкт, а не праява ўсведамлення і розуму.

●

Жалоба ў Доме літаратара па загінуўшым Анатолю Майсеню. Малады таленавіты публіцыст, палітолаг... Не ўтрымаўся ўсё-ткі і ён на гэтым коўзкім *спрадвечным беларускім шляху* паміж Масквой і Варшавай...

Дзве яшчэ маладжавыя жанчыны глядзяць з тратуара на даволі людную жалобную працэсію...

— Каго ж гэта праводзіць так шмат народу прыйшло?

— Гэтага... журналіста, што на алімпійцы разбіўся...

— А... Бач ты... А то я й думаю, не пісацеля, мабыць... На пісацельскія пахаванні столькі народу не прыходзіць...

— Колькі *чытачоў* — столькі й *народу*...

Вось і ўсё. Бывай, Толя...

●

Пра маскультуру. За абедам выпадкова слухаю музычную праграму радыёстанцыі "Маяк". Для лётчыка-выпрабавальніка Кандаурава, які ляжыць у вельмі цяжкім стане ў шпіталі, спявак Юліян прамаўляе ў жывым эфіры: "Я очень люблю летчиков-испытателей. Это для меня что-то неземное. Поэтому я с удовольствием исполню сегодня для вас песню Пахмутовой "На пороге разлуки"...

О-о-о!!!

●

Толькі выходзячы на свет з мацярынскага лона чалавек бывае дарэшты *шчырым*. І толькі адыходзячы са свету ў зямное лона — абсалютна *сумленным*.

У астатні час ён дамагаецца кампрамісу паміж жыццём і смерцю...

●

У паэзіі усе словы па сутнасці другасныя. Яны неабходныя паэту толькі для таго, каб выявіць невымоўнае і тым самым перакана́ць чытача ў адсутнасці тэксту...

І чым больш другасных слоў, тым менш паэзіі...

●

Ну, вось і *прайшоў* рэферэндум...

Але не цешце сваё самалюбства, Аляксандр Рыгоравіч. Як казаў мудры філосаф: усё *праходзіць*...

●

Літаратура — гэта маё асабістае жыццё. І я папрасіў бы вас не ўмешвацца ў яго, калі вы не жадаеце несці роўную са мной *адказнасць* за тое, што са мной *адбываецца*...

А вы ж не жадаеце, праўда?

●

Можаш любіць Разанава, можаш Някляева... А Сыс цябе *сам* палюбіць...

●

Часцей за ўсё *тое*, што ты хацеў напісаць, якраз і застаецца ненапісаным...

Аднак важна, каб з напісанага табой чытач якраз *тое* адчуў і зразумеў...

*г. Менск, 1996 г.*

# На фестываль — у цэнтр Амазонкі!



У адрозненне ад беларускага балета, які ўжо даўно вядомы і карыстаецца нязменным поспехам у многіх краінах свету, беларуская опера толькі чацвёрты год рэгулярна ладзіць свае гастролі за мяжой. Тым не менш нашых оперных салістаў таксама ўжо добра ведаюць, асабліва ў Заходняй Еўропе, і заўсёды чакаюць іх выступленні.

Як паведамляў "ЛіМ", адбылася лютаўска-сакавіцкая вандроўка артыстаў Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі са спектаклем "Чыо-Чыо-сан" па 17 паўднёвых гарадах Германіі. Не паспелі нашы выканаўцы, як кажуць, дух перавесці пасля такіх напружаных, хаця і вельмі паспяховых гастроляў, як давялося зноў збірацца. У самае далёкае творчае падарожжа — на другі канец планеты, у Лацінскую Амерыку! Штутгарцкі скрыпач і імпрэсарыо Міхаэль Йельдэн, які пазалетась пазнаёміўся з беларускай "Кармэн" у горадзе Гамбургу і ўважліва сачыў за сёлетнімі выступленнямі нашай трупы ў Германіі, запрасіў беларусаў прыняць удзел у І Міжнародным фестывалі ў бразільскім горадзе Манаус, размешчаным у цэнтры найвялікшай у свеце ракі Амазонкі.

Гэты фестываль, які пачаўся 5 красавіка ўрачыстым канцэртам, прысвячаецца нованму адкрыццю мясцовага опернага тэатра, будынак якога быў узведзены ў канцы мінулага стагоддзя. Кажуць, што на яго сцэне ў свой час спяваў нават вялікі Карузa. А цяпер нашым спевакам і музыкантам давядзецца заваёўваць сімпатыі публікі двухмільённага горада.

Беларускі оперны "дэсант" са 100 чалавек накіраваўся туды праз аэрапорт Франкфурта-на-Майне, маючы ўжо загадзя распрацаваную мастацкую праграму. Па ўзгадненні з імпрэсарыо М. Йельдэнам (ён, дарэчы, — ініцыятар і арганізатар правядзення гэтага фестывалю), беларускія артысты на працягу двух тыдняў пакажуць па некалькі разоў свае спектаклі "Кармэн", "Травіята", "Севільскі цырульнік", чатыры сімфанічныя праграмы і заключны гала-канцэрт. Разам з нашымі выканаўцамі на сцэне тэатра Манауса выступяць у спектаклях пяць вядучых салістаў аргенцінскага тэатра "Калон" з Буэнас-Айрэса.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

*На здымку: сцэна з оперы "Кармэн". Фота Віт. АМІНАВА*

ПАМЯЦЬ

# Як яно было...

## З НАГОДЫ 75-АЙ ГАДАВІНЫ СМЕРЦІ ЯДВІГІНА Ш.

ЗДАРОЎЕ Ядвігіна Ш. ... Якім яно было? Скуль яму было быць?! Вечна адзін, без сям'і, недагледжаны, не прыгалублены, неабагрэты сямейным цяплом... Калі еў, калі не еў... Пастаянна ў грамадскім клопаце, у грамадскай турботе. Для яго не было важнейшага клопату, як клопат пра Беларусь. Грамадская турбота, грамадскае жыццё... Яно як укруціла Лявіцкага з маладых гадоў, яшчэ тады, калі ў Бутырскі астрог патрапіў, гэтак ужо і не выпускала яго да скону. Ён быў усюды, дзе толькі хоць якое нацыянальнае агніска разгаралася, не заўважаючы, як спакваля траціць сілу, здароўе...

Першы званочак пра хваробу зазваніў Ядвігіну Ш. у Радашкавічах, падчас працы ў аптэцы. Ванда Лявіцкая, дачка пісьменніка, пра гэта згадвае так: "Яшчэ да жаніцьбы прыйшлося А.Л. аставіць работу ў аптэцы па слабасці лёгкіх..." Пра гэта сведчыла і выдадзенае яму медычнае заключэнне.

Адкуль жа ўбілася ў грудзі Лявіцкага, лічы, яшчэ юнака, дзецюка, страшная хвароба веку? Можа, з часу яго пабыўкі ў Бутырскім астрозе? Вельмі магчыма. Лічылася і лічыцца, што самая пашыраная хвароба ў астрогах — туберкулёз, сухоты. Мо юны Антон там і падхапіў яе. Ва ўсякім разе, працаваць у аптэцы больш не змог. Пачаў лячыцца. Здаецца, напачатку пайшло на папраўку. Але жыццё ніколі не стаяла на месцы. Яно чамусь не лепшала, а горшала і горшала. Асабліва здароўе стала нетрывалае на пачатку стагоддзя. Віравалі рэвалюцыі, войны, Беларускае адраджэнне. То ці мог Антось Лявіцкі, чалавек бунтоўнай душы, абысці гэты вір?! Вядома ж, не! З часу заснавання "Нашай Нівы" жыццё яго нагадвае больш жыццё паходніка, чым аселага сем'яніна.

Вось невялікі абразок з часу жыцця Ядвігіна Ш. у 1909 годзе ў Вільні, у рэдакцыі "Нашай Нівы":

"Паветра было прасычана кіслай вільгаццю, дымам ад жалезнай печкі, на якой пякліся прамочаныя наскрозь з вечара чыесь камашы, і тут жа, у скавародцы, сквірчэлі скваркі, якія з вялікім адданнем асцярожна мяшаў пальцам чалавек з рыжаватай бародкай, у расхрыстанай кашулі і ў апорках на босую нагу... Незнаёмы над скваркамі быў А. Лявіцкі..."

Па-спартанску, калі не сказаць па-салдацку, жыў Ядвігін Ш. і ў Мінску. У рэдакцыі "Сахі" спаў на старасвецкім сярэдневяковым шлебане, купленым А. Уласавым, а больш дакладна — ягоным адміністратарам Юзікам за семдзесят капеек на аўкцыёне ў краме Мухіна. А гэта і ўвесь рэдакцыйны побыт: прымус, чайнік, дзве шклянкі. Замест іншай мэблі — пакі драўляныя з-пад тавараў, куфэрак, гліняныя філіжанкі.

У 1914 годзе Ядвігін Ш. з дачкой Вандай жыве пры кнігарні. Побыт таксама далёкі ад арыстакратычнага. Драўляныя лыжкі. Елі з адной місы, гэта паводле успамінаў Зоські Верас.

Вайна яшчэ больш ускладніла жыццё. Ядвігін Ш., апрача грамадскай, беларускай працы, узваліў на свае плечы швейную майстэрню, стаў яе загадчыкам. Ванда ўспамінала: "Работа аплачвалася добра, але тату даводзілася працаваць і ноч, і дзень, недасыпаць. Ускорасці ён захварэў, лёг у бальніцу. Абвастрылася хвароба нырак". Да хваробы лёгкіх, як бачым, дадалася яшчэ і хвароба нырак.

Вельмі цяжка і працягла хварэў Ядвігін Ш. зімою 1918 года, якраз тою парою, калі да Мінска набліжалася нямецкае войска. Бальшавікі, прыхапіўшы казну, уцяклі з Мінска. Беларускія дзеячы, скарыстаўшы момант, узялі ўладу ў свае рукі. Вышэйшай уладай на Беларусі абвясціў сябе Выканаўчы камітэт, які потым абраў і беларускі ўрад — Народны Сакратарыят. У гэтыя ж дні, між 19—21 лютага, першы раз над Мінскам узвіўся бел-чырвона-белы сцяг. Ядвігін Ш. ляжаў у шпіталі. Да яго заходзілі сябры, ягоныя аднадумцы, падбадзёрвалі, казалі: "Ачуньвай хутчэй, гэткія падзеі чакаюць Беларусь".

Як толькі крыху акрыяў, адразу ж са шпіталя кінуўся ў сваю выратоўную Карпілаўку і амаль нікуды з яе не выязджаў, напраўляў здароўе. Ён, як высветлілася, з маладых гадоў, працуючы на гаспадарцы, надарваў і жывот, звозячы камяні з сядзібы ў крушні. Пра гэтую сваю пакуту казаў сам: "Колькі тутака, над тымі камянямі, мною з сынам поту праліта, колькі сілы пакладзена! Вось гэтыя кучы мы ўдвох паскладалі, падымаючы з поля кожны каменьчык. А вялікія камяні на некалькі пудоў узвальвалі на калымажку і вывозілі сюды. Гэтае каменне падарвала маё здароўе. Мой жывот баліць ужо шмат гадоў".

Пасля 1918 года Ядвігіну Ш. давялося шмат яшчэ чаго перажыць. Ён кідаецца ў вайсковы паход па Беларусі з Булак-Балаховічам. Паход хутка адгукнуўся абвастрэннем хвароб. У 1920 годзе Ядвігін Ш. лечыцца ў Закапанэ, завяршае ўспаміны, якія пашчасціла яшчэ ўбачыць надрукаванымі кніжкай.

Успаміны з'явіліся ў 1921 годзе. Але і гэтую радасць азмрочвалі хваробы. 4 лютага злёг у віленскую клініку. Газета "Беларускі Звон" у пятым нумары за 1922 год з гэтай нагоды пісала: "Цяжка занядужаў Ядвігін Ш., вядомы беларускі пісьменнік, нашанівец. У апошнія часы працаваў у Алексюка як літаратар, не мяшаючыся ў палітыку. Ляжыць Ядвігін Ш. у літоўскай паліклініцы. Не маючы сваякоў, без грошай, пакінуты Алексюком, ён знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы".

24 лютага Ядвігін Ш. памёр. На трэці дзень, пасля хаўтурнага набажэнства ў касцёле св. Мікалая, якое адправіў ксёндз Бобіч, пахавальная працэсія раніцай выйшла на могілкі Роса. "Уперадзе, — паведамляла ў шостым нумары газета "Беларускі Звон", — ішлі дзеці беларускага прытулку і вучні беларускай гімназіі, якія пяялі: "Божа, што калісь народы", далей беларускія студэнткі неслі вянкі з істужкамі нацыянальных колераў ад школьнае рады, ад беларускага студэнцтва, ад калег, супрацоўнікаў.

За дамавінай ішло шмат беларускай інтэлігенцыі.

На могілках прамаўлялі: ад імя Таварыства беларускай школы — грам. А. Смоліч, ад студэнцкай моладзі — ст. Абрамовіч, і ад беларускіх пісьменнікаў — рэдактар "Беларускага Звону" Ф. Аляхновіч.

У гэтым жа нумары "Беларускага Звону" на першай старонцы было змешчана і паведамленне-некралог пра смерць Ядвігіна Ш. Аўтар некралога — У. Жылка. На смерць пісьменніка адгукнуліся вершамі Янка Журба і Наталля Арсеннева, якая жыла ў тую пару ў Вільні і была сведкай гэтай жалобы. Быў на жалобе і гімназіст Хведар Ільяшэвіч. Смерць Ядвігіна Ш. таксама прыняў блізка. Праз пэўны час напіша пра яго разгорнуты нарыс і выдасць у Вільні асобнай кніжачкай.

Хоць Вільня і была за мяжою, усё ж вестка пра смерць Ядвігіна Ш., хай і запознена трохі, дайшла да Карпілаўкі. Паводле слоў Язэпа Лёсіка, пра смерць Ядвігіна Ш. Беларусь даведалася з замежных газет. "...А вось сёлета, яшчэ на прошлым тыдні, загранічныя газеты прынеслі новую жалобную вестку аб смерці Ядвігіна Ш., Антона Лявіцкага і — гэтаксама ад сухотаў", — гаварыў ён на пахаванні Алеся Бурбіса, 22 сакавіка 1922 года.

Вядома, з'ездзіць на пахаванне Ядвігіна Ш. ніхто з блізкіх не змог. Толькі нібыта сын Лявон, які жыў на тую пару ў Варшаве, прыляцеў развітацца з бацькам. Усе ж астатнія такой мажлівасці не мелі: і мяжа не дала гэтага зрабіць, і запознена даведаліся. Але жонка пісьменніка парупілася, каб і Карпілаўка развіталася са сваім гаспадаром. У суседніх Будах была прыстасавана пад касцёл хата. У ёй і справілі жалобную імшу. Прыехаў з Радашкавічаў ксёндз, і ўсё было зроблена як мае быць, па-людску.

Пахавалі Ядвігіна Ш. на Росах недалёка ад брамы, пры самай дарожцы. На магільны курганок леглі вянкі з бел-чырвона-белай стужкай. З гэтым сцягам да магілы прыходзілі неаднойчы. Гэтак было і ў 1937 годзе, падчас адкрыцця помніка клопатамі рэдакцыі "Шляху Моладзі". На шэрым помніку словы з паэмы Ядвігіна Ш. "Дзед Завала":

***Даўно гэта было,***
***Хадзіць чуткі сталі,***
***Аб Вялікай Волі***
***Ўсе загалкавалі.***

Пражыў пісьменнік пяцьдзесят тры гады. Але ў кнізе хворых літоўскай клінікі чамусьці запісана, што на 1922 год ён меў 55 гадоў.

На Беларусі ў імя Ядвігіна Ш. пачалі ўшаноўваць нядаўна, бадай з канца 80-х гадоў. На будынку колішняй мінскай гімназіі, што на плошчы Волі, — мінчукі яго ведаюць як Дом прафсаюзаў, якраз той парою была ўсталявана з рупасці вядомага дзеяча культуры Адама Мальдзіса памятная дошка з імёнамі найбольш слынных яе выхаванцаў. Сярод іх згадана і імя Ядвігіна Ш. Ушанавалі пісьменнікае імя і ў Радашкавічах. А не так даўно паўстала на Беларусі і яшчэ адна памятка пра Ядвігіна Ш. На гэты раз на яго сядзібе ў Карпілаўцы. Парупіўся пра яе вядомы паэт і мастак Сяргей Давідовіч. Ён усталяваў тут знак-паказальнік, які паведамляе, што маляўнічы кут з прысадамі, з дубам-дзядулем — гэта сядзіба вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча Ядвігіна Ш. А вось дзяржава пакуль нічога не зрабіла дзеля ўшанавання памяці самабытнага пісьменніка, які аддаў увесь свой талент, усё сваё жыццё дзеля Беларусі, дзеля лепшай долі яе народа.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

ПОШТА

# Лёс слуцака

Прыемна ў свой час было даведацца, што ў Слуцку — маім родным горадзе — пачаў свой зямны шлях выдатны вучоны-астраном, член-карэспандэнт Пецярбургскай АН Цэраскі Вітольд Карлавіч (1849—1925). Скончыўшы слуцкую гімназію (сёння гэта сярэдняя школа N 1 г.Слуцка), ён паступіў у Маскоўскі універсітэт, які скончыў у 1871г. З 1878г. працаваў у астранамічнай абсерваторыі Маскоўскага універсітэта (у 1890—1916 — яе дырэктар). З 1889 г. — прафесар таго ж універсітэта. Асноўныя навуковыя працы — па астрафатаметрыі. Распрацаваў методыку фатаметрычных назіранняў, удасканаліў фатометр Цэльнера. Вызначыў бляск больш за 500 зорак, адзін з першых вымераў (1903) зорную велічыню Сонца і вызначыў ніжэйшую мяжу яго тэмпературы (1895). Адкрыў (1885) існаванне так званых серабрыстых воблакаў. Даследаваў метэоры, стварыў шэраг астранамічных інструментаў.

Не менш прыемна было, калі ўжо значна пазней натрапіў на верш, які вядомы рускі паэт Максіміліян Валошын (1878—1932) прысвяціў памяці В. Цэраскага. У вершы тым вельмі выразна прасочваецца нялёгкі лёс вучонага-астранома ў апошнія два дзесяцігоддзі яго жыцця.

Валошын сустракаўся з Цэраскім у Феадосіі, дзе той жыў з 1917 па 1922 г. Крануты веліччу фігуры Цэраскага і трагічнасцю яго лёсу, паэт у кастрычніку 1920 г. (пры белых) пісаў у Бюро Таўрычаскага навуковага з'езда пра вучонага: "Пазбаўлены мажлівасці валодаць рукамі і нагамі з прычыны нервовай хваробы, якая з'явілася вынікам яго мужных паводзін у 1905г., калі ён заставаўся адзін на Абсерваторыі, што знаходзілася ў цэнтры Прэсненскага паўстання, і выратаваў яе, але цяпер, калі пазбаўлены пенсіі, працягвае дыктаваць свае апошнія працы і не атрымлівае ніякай урадавай субсідыі, пра якую ўжо не раз узнімалася пытанне, падтрымліваемы толькі сваёй жонкай, таксама далёка не безвядомым у Еўропе вучоным, адкрыўшым больш за 160 пераменных зорак, 65-гадовай старой, якая зарабляе хлеб грашовымі ўрокамі французскай мовы, ён усё-такі не быў вызвалены ад рэквізіцыі палавіны сваёй маленькай кватэры".

Яшчэ цэлых пяць гадоў пасля гэтага ліста пакутаваў вялікі чалавек, наш зямляк. А вось і згаданы вышэй верш.

*Памяти В. К. Церасского*

***Он был из тех,***
***в ком правда малых истин***
***И веденье законов естества***
***В сердцах не угашает созерцанья***
***Творца миров во всех его делах.***
***Сквозь тонкую завесу чисел***
***и формул***
***Он Бога выносил лицом к лицу,***
***Как все первоучители науки:***
***Пастер и Дарвин,***
***Ньютон и Паскаль.***
***Его я видел изможденным, в кресле,***
***С дрожащими руками и лицом***
***Такой прозрачности,***
***что он светился***
***В молочном нимбе лунной седины.***
***Обонпол[1] слов***
***таинственно мерцали***
***Водяные литовские[2] глаза,***
***Навеки затаившие сиянья***
***Туманностей и звездных Галактей.***
***В речах его улавливало ухо***
***Такую бережность к чужим словам,***
***Ко всем явленьям***
***преходящей жизни,***
***Что умиление сжимало грудь.***
***Таким он был,***
***когда на Красной Пресне***
***В стенах Обсерватории — один***
***Своей науки неприкосновенность***
***Он защищал от тех и от других.***
***Правительство бездарное и злое,***
***Как все правительства,***
***прогнало прочь***
***Ее зиждителя и воспретило***
***Творцу — творить,***
***ученому — учить.***
***Российская усобица застигла***
***Его в глухом прибрежном городке,***
***Где он искал безоблачного неба***
***Ясней, южней и звездней,***
***чем в Москве.***
***Была война, был террор,***
***мор и голод...***
***Кому был нужен дряхлый звездочет?***
***Как объяснить уездному Завпроду***
***Его права на пищевой паек?***
***Тому, кто первый впряг***
***в работу солнце[3],***
***Кто новым звездам***
***вычислил пути, —***
***По пуду за вселенную, товарищ!***
***Даешь жиры астроному в паек!***
***Высокая комедия науки***
***В руках невежд, армейцев и дельцов!***
***Разбитым и измученным на север***
***Уехал он, чтоб дома умирать.***
***И радостною грустью защемила***
***Сердца его любивших —***
***весть о том,***
***Что он вернулся в звездную отчизну***
***От тесных дней,***
***от душных дел земли.***

1925

**Яўген ГУЧОК**

[1] *Обонпол — пад другі, іншы бок.*

[2] *Литовские — тут ліцвінскія, беларускія. Як бачым, яшчэ і ў дваццатыя гады гэтага стагоддзя беларусаў часам называлі літоўцамі ці літвінамі.*

[3] *Кто первый впряг в работу солнце..." 16 чэрвеня 1922 г. газета "Красный Крым" паведамляла: "Проживающий в Феодосии В. Церасский закончил работы по утилизации солнечной энергии".*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
публіцыстыкі і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 10.4.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2083/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12